# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 ( 42 ) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2008 г.


# ЛІДЗЕ-685

## *“Гудскаму гармоніку” - 20*



***Маці Божая Вастрабрамская.*** ***Копія Юзафа Азямблоўскага. 1847 г.***
***Лідскі Фарны касцёл.***

# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 ( 42 ) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2008 г.


## У НУМАРЫ:



*На першай старонцы выкладкі Народны ансамбль беларускай народнай музыкі “Гудскі гармонік”*



**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас:**
**Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1342 ад 27.03.2007 г.**

**ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ**
**Валеры Сліўкін,**
**старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук**

**РЭДАКТАР**
**Станіслаў Суднік**



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231293, Лідскі р-н,
в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by



**Наклад 300 асобнікаў**
**11 друк. аркушаў**

**Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.**
**Замова № 13**
**Часопіс падпісаны да друку 30. 06. 2008 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 2680 руб.**
**індывід. 6 мес.- 5360 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

# КРОНІКА ЛІДЫ



На 1.01.2008 насельніцтва Лідскага раёна склала 135228 чалавек, у т.л. г. Ліда - 95663 чал., г. Бярозаўка - 11706 чал.
За 2007 год колькасць насельніцтва ў раёне зменшылася на 1266 чалавек, у т.л. сельскае насельніцтва зменшылася на 905 чалавек.
У 2007 годзе ў раёне нарадзіўся 1431 чалавек, памерлі 1892 чалавекі.
За 2007 год адмоўнае міграцыйнае сальда ў раёне склала 810 чалавек.

У 1999 годзе ў раёне было 147, 6 тыс. чалавек, у Лідзе было 100,7 тыс. чалавек.




У пачатку красавіка 2008 года выйшла кніга вершаў лідскага паэта Пятра Макарэвіча “Расінкі беларускіх слоў”.

У красавіку 2008 года ў Лідзе з’явіўся першы светладыёдны светлафор з беларускім надпісам “Будзьце ўважлівымі”.
Устаноўлены на пешаходным пераходзе па вуліцы Ленінскай насупраць СШ №3.






У красавіку 2008 года зацверджаны лагатып святкавання 685-х угодкаў горада Ліды. Аўтары Ігар Пешахонаў і Мікалай Куляшэвіч.

1 чэрвеня 2008 года ў вежы Лідскага замка прайшла прэм'ера анімацыйнага спектакля "Суд Кейстута".

*Спектакль падрыхтаваны і пастаўлены лідскай турыстычнай фірмай "Святавіт" і лідскім рыцарскім клубам "Дайнава". Гэта другі спектакль з анімацыйнага вянка "Вялікае Княства", які ствараецца ў Лідзе на базе фрагментаў найбольш яркіх эпізодаў лідскай гісторыі часоў Вялікага Княства Літоўскага. Першы спектакль "Вяселле Ягайлы" прадстаўляецца ў Лідзе некалькі гадоў, але сёлета сітуацыя запатрабавала менавіта вянка спектакляў. Справа ў тым, што анімацыйныя спектаклі на тэмы гісторыі Ліды афіцыйна ўключаны ў праграмы знаходжання ў Лідзе турыстычных групаў. А ў турыстаў павінен быць выбар, што глядзець.*

*Спектакль "Суд Кейстута" прадстаўляе гістарычны эпізод часоў, калі да ўлады ў ВКЛ прыйшоў Вялікі князь Кейстут, які павесіў улюбёнца Ягайлы і яго швагра Вайдылу, што з халопаў падняўся да мужа Марыі - дачкі Вялікага князя Альгерда.*



***На здымку:*** *фрагмент спектакля, калі рыцар Бутрым з Жырмунаў паланіў у Дубровенскім замку пад Лідай Вайдылу і даставіў у Лідскі замак на суд да Вялікага князя Кейстута.*



ПИВОВАР лидский

Гран-при - у "Трех королей"

Пэт-бутылка – новая, качество – традиционное

А знаете ли вы?

В Сочи лидская "Тема" прошла на ура

17 чэрвеня 2008 года выйшаў 1-шы нумар "Півавара лідскага" - дадатка да "Лідскай газеты".

# Чацвёртая рэгіянальная выстава “Ліда-рэгіён-2008”

У апошнія гады прыкметна прырастае аб’ёмамі прамысловасць Лідскага раёна. Станоўчай дынаміцы развіцця спрыяюць і Дні эканомікі, якія сталі традыцыйнай пляцоўкай для сустрэч прадстаўнікоў бізнэсу, навукі, дзелавых колаў замежных дзяржаў. 27 і 28 чэрвеня 2008 года ў Лідзе ў чацвёрты раз праходзіла такое мерапрыемства. Яго па праву можна назваць міжнародным: дзесяткі прадстаўнікоў замежных дзяржаў прыехалі ў горад.

Напярэдадні форуму да гасцей і жыхароў горада і раёна звярнуўся старшыня Лідскага райвыканкаму Андрэй Худык, які абмаляваў эканамічную сітуацыю ў рэгіёне перад пачаткам форуму:

*“У чацвёрты раз у нашым горадзе праводзіцца прэзентацыя-выстава “Ліда-рэгіён” і міжнародны эканамічны форум “Устойлівае эканамічнае развіццё асобных тэрыторый: глабалізацыя і субкантрактацыя”. У 2005 годзе, каб наглядна прадставіць магчымасць будучага сектара эканомікі, мы выбралі такі дзелавы спосаб зносін дзяржаўных дзеячаў, палітыкаў, бізнэсмэнаў, навукоўцаў, як выстава прамысловай прадукцыі. Час паказаў, што мэты былі пастаўленыя правільна. Назапашаны станоўчы досвед дапамог не толькі прасунуць лідскую прадукцыю, якасць якой пацвярджаецца міжнароднымі сертыфікатамі, але і стварыць магчымасць утвараць сумесныя прадпрыемствы, развіваць малы і сярэдні бізнэс, шырока ўкараняць навуковыя дасягненні, прыцягваць замежныя інвестыцыі ў мясцовую вытворчасць. Гэтаму дапамагаюць і спрыяльныя ўмовы для развіцця гандлю, дзелавых адносін, створаныя ў нашай краіне, дзякуючы высілкам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.*




*За мінулы час мы шмат дасягнулі. Сёння Лідчына рэалізуе 10 інвестыцыйных праектаў, а аб’ёмы вытворчасці прадукцыі, пачынаючы з 2005 года, падвоіліся. Нашы вытворцы ўпэўнена заявілі аб сабе на міжнародным рынку. Асабліва хацелася б адзначыць цесныя эканамічныя адносіны, якія склаліся з г. Нёманам Калінінградскай вобласці, Геакчайскім раёнам Азербайджана, Харошава-Мнеўнікскім раё-*





*нам г. Масквы і многімі гарадамі і рэгіёнамі іншых дзяржаў. Дзелавыя сустрэчы кіраўнікоў органаў дзяржкіравання, людзей бізнэсу дазваляюць пашыраць сферы супрацоўніцтва, асноўнымі прыярытэтамі якіх з'яўляецца выгадны гандаль, сацыяльнае партнёрства.*

*Эканамічная інтэграцыя стварае не толькі палітычную аснову для цеснага паразумення народаў розных краін, але і значна пашырае межы рынкаў збыту прадукцыі, тавараў і паслуг. Упэўнены, што выстава-прэзентацыя "Ліда-рэгіён-2008" і Міжнародны эканамічны форум не толькі адкрыюць новыя магчымасці для рэалізацыі адважных інвестыцыйных і інавацыйных праектаў, але і паслужаць асновай фармавання перспектыўнага супрацоўніцтва ў свеце бізнэсу і дзелавога партнёрства..."*

Сёлета ў Днях эканомікі Лідскага рэгіёна прынялі ўдзел намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Леанід Анфімаў, памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па Гарадзенскай вобласці Марыя Праташчык, намеснікі старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму Аляксандр Русанаў, Мікалай Кавалёў, Надзвычайныя і Паўнамоцныя Амбасадары Арменіі, В'етнама, Грузіі, Індыі, Літвы, Малдовы, Сербіі, Сірыі, Таджыкістана, Фінляндыі, Надзвычайны і Паўнамоцны Амбасадар Рэспублікі Беларусь у Літве Ўладзімір Дражын, прадстаўнікі амбасад Азербайджана, Вялікабрытаніі, Вугоршчыны, Венесуэлы, Нямеччыны, Італіі, Казахстана, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны, супрацоўнікі міністэрстваў і ведамстваў нашай краіны, дэлегацыі адміністрацый і дзелавых колаў гарадоў і раёнаў Расіі, Кітая, ЗША, Вялікабрытаніі, Фінляндыі, Эстоніі і іншых дзяржаў.

Адкрываючы выставу, прадстаўнічы дыпламатычны корпус, бізнэсмэнаў, кіраўнікоў дэлегацый з замежных дзяржаў цёпла павітаў кіраўнік Лідскага раёна Андрэй Худык. Ён яшчэ раз падкрэсліў, што Дні эканомікі Лідскага рэгіёна з кожным годам становяцца ўсё больш багатымі на сустрэчы, усё больш і больш у арбіту дзелавых адносін залучаецца рэгіёнаў Расіі, Малдовы, краін Прыбалтыкі і іншых дзяржаў. Поспех такога супрацоўніцтва відавочны нават па такім факце. Калі на першай выставе сваю прадукцыю дэманстравала 37 удзельнікаў, то сёлета - 70. Падпісаныя раней узаемныя дамовы паспрыялі пашырэнню дзелавога партнёрства. За апошні час аб'ёмы вытворчасці павялічаныя ў два разы, а экспарт - на 30 адсоткаў. Гэтыя факты на карысць таго, што выстава "Ліда-рэгіён" спрыяе росту інвеставання.

Пасля завяршэння ўрачыстай часткі госці агледзелі экспазіцыю выставы. На цэнтральнай плошчы горада - сапраўдны парад тэхнікі. І не толькі сельскагаспадарчай, але новы збожжаўборачны камбайн "Ліда-1600" карыстаўся найбольшай ўвагай. Гэта новы твор. А ўсяго на выставе можна было ўбачыць 12 узораў тэхнікі, якая вырабляецца на ААТ "Лідаграпраммаш".

Цікавасць у прадстаўнікоў замежных дзяржаў




















выклікалі таксама ўзоры тэхнікі ААТ "Лідсельмаш" і Мінойтаўскага рэмзавода. Уражліва глядзеліся новенькія аўтобусы ВРУП "Дасведчаны завод "Нёман". Падыходзілі госці да выставачных стэндаў торфапрадпрыемства і керамзітавага завода. Але ў гэты дзень лідзяне і госці горада змаглі не толькі пазнаёміцца з прамысловымі прадпрыемствамі, але і прадэгуставаць іх прадукцыю. У РДК прадпрыемствы харчовай прамысловасці арганізавалі госцевы стол для наведвальнікаў выставы, частуючы іх сваёй прадукцыяй. Хтосьці аддаваў належныя кампліменты кексам хлебазавода, дэлікатэсам мясакамбіната, а госці з Італіі ацанілі натуральны густ лідскага квасу. Але выстава была прадстаўленая прадукцыяй не толькі вядомых прадпрыемстваў, якія маюць даўнія традыцыі. Толькі сёлета пачаў працу па вырабе дэкаратыўных вырабаў з бетону індывідуальны прадпрымальнік Віктар Цыбулька, а сёння ўвага да яго вырабаў велізарная.

У другой палове дня 27 чэрвеня ў зале райвыканкаму пачаў працу ўласна сам Міжнародны эканаPage




мічны форум "Устойлівае эканамічнае развіццё асобных тэрыторый: глабалізацыя і субкантрактацыя". У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх галін улады Рэспублікі Беларусь, а таксама дзелавых колаў. На форуме прысутнічала больш за 360 удзельнікаў, было прадстаўлена 26 краін, 17 амбасад. На мерапрыемства былі запрошаныя і кіраўнікі прамысловага корпуса Лідскага рэгіёна.

Форум адкрыў намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Леанід Анфімаў. У сваёй прамове ён яшчэ раз падкрэсліў, што наша краіна гатовая да раўнапраўнага партнёрства, дзелавая ініцыятыва будзе падтрыманая. Аб гатовасці да супрацоўніцтва гаварылі намеснік старшыні аблвыканкаму Аляксандр Русанаў, старшыня Лідскага райвыканкаму Андрэй Худык.

Важнай часткай форуму стала пленарная сесія. Бо міжнародны эканамічны форум - гэта пляцоўка для зносін дзелавых колаў, дзяржаўных дзеячоў. Тут генеруюцца ідэі, акцэнтуецца ўвага на тых або іншых праблемах, якія вырашаюцца пасля. Увазе прысутных быў прапанаваны шэраг выступаў замежных і беларускіх эканамістаў і палітыкаў. Сярод іх прафесар інстытута вышэйшых кіраўнічых кадраў Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь Віктар Ярмоленкаў, доктар навук, дырэктар Міжнароднага цэнтра навуковых даследаванняў і навучання Станіслаў Маеўскі, дацэнт Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта Ўладзімір Паплыка, кіраўнік прадстаўніцтва нямецкай эканомікі ў Рэспубліцы Беларусь, кандыдат эканамічных навук Уладзімір Аўгусцінскі, старшыня кіравання Нямецкага эканамічнага клуба Байер Клаўс і іншыя.

У шэрагу выступаў на пленарнай сесіі абагульняўся досвед працы Лідскага раёна па ўцягванні ў мясцовую эканоміку замежных інвестыцый, а таксама падкрэслівалася, што рост аб'ёму вытворчасці, які назіраецца на Лідчыне - вынік і паспяховага інтэграцыйнага працэсу.

Меў форум і сваю культурную частку. У Лідскім замку адбылося прадстаўленне сцэнак з жыцця



сярэднявечнай Ліды ў выкананні рыцарскіх клубаў. У адрозненне ад усходніх забаваў, дзе змагаюцца за тушу казла, лідскія рыцары біліся за мяшок "Лідскай мукі".

28 чэрвеня выстава-прэзентацыя "Ліда-рэгіён-2008" і Міжнародны эканамічны форум працягнулі сваю працу. Ладзіліся і мацаваліся знаёмствы. Падпісваліся разавыя кантракты і доўгатэрміновыя пагадненні аб сяброўстве і супрацоўніцтве.

Лідскі раён ў чарговы раз паказаў, як можа, а магчыма, і як павінен выглядаць кожны куточак краіны з назвай Беларусь.

*(Па матэрыялах лідскага друку.)*

# Кроніка айкумены

Лідскі гістарычны каляндар

## красавік - чэрвень

**1508 год, травень.** Збор паспалітага рушэння ў Лідзе для паходу супраць маскоўскіх войскаў, якія ўварваліся на тэрыторыю ВКЛ.

**1508 год, чэрвень.** Паспалітае рушэнне выйшла з Ліды ў бок Наваградка.

**1508 год, 7 чэрвеня.** Кароль і Вялікі князь Літоўскі Жыгімонт за ўдзел у рокашы Глінскіх забраў у Міхаіла Гагіна Мажэйкаўскі двор і перадаў яго кіеўскаму шляхціцу Льву Тышкевічу.

**1528 год, 1 траўня.** Складзены спіс прыпісной шляхты Лідскага двара.

**1568 год.** Ваверскі, Дакудаўскі і Беліцкі касцёлы перададзены кальвіністам.

**1568 год.** На сойме літоўская шляхта хадайнічала аб адкрыцці сярэдніх школ тыпу калегій.

**1568 год.** Радуньскае староства далучана да Лідскага павету.

**1568 год.** На Віленскім Сойме было прынята пастанова аб далучэнні да прысуду Лідскага павету Эйшышскага, Радуньскага, Каняўскага, Дубіцкага, Васілішкаўскага і Астрынскага харужстваў Трокскага павету Трокскага ваяводства.

**1568 год.** У зале замкавай вежы дазволена праводзіць паседжанні земскага суда.

**1738 год, 22 траўня.** Складзены інвентар г. Ліды.

**1778 год, 6 красавіка.** Умястоўскі прадаў маёнтак Пастаўшчыну (фальварак Пастаўшчына, млын на Лідзейцы і в. Рaсляki з 6 дымоў) манахам - піярам за 26 тысяч злотых: манахі заплацілі гатоўкай 11 тысяч і прынялі да выканання доўг у суме 15 тысяч у карысць Міхала Эйсманта.




*Лідскі павет у канцы XVI ст.*

**1838 год, 20 траўня.** Складзены план прадмесця Ліды “Каменка”. У тлумачэнні паказаныя: вартавы дом *«и при оном шляумбаум»*, турэмны замак, агарод Лідскай інваліднай каманды, сенажаць, якая належыць фальварку Зарэчча скасаванага кармеліцкага кляштара, агароды і будынкі прадмесця Каменка, выган, які належыць гораду Лідзе абшарам 26 дзесяцін, *«из коего числа отведено под огород для инвалидной команды городовым магистратом две десятины»*.

**1898 год, 28 траўня.** Завершаныя работы па будоўлі і абсталяванні гуты ў маёнтку Астроўна Лідскага павету, які належаў Квяцінскаму.

**1908 год.** Вайсковая камісія пад кіраўніцтвам генерал-маёра Канабіха пачала будаваць казармы.

**1918 год, вясна.** У Ліду пачалі вяртацца ўцякачы з Усходняй Беларусі і цэнтральнай Расіі.

**1918 год, лета.** У Лідзе арганізаваныя нелегальныя клубы, арганізацыі, “Дом рабочага”. Лідская арганізацыя бальшавікоў налічала 15 чалавек.

**1927-1928 гады.** У Лідзе прамысловае ажыўленне, у горадзе адчыніўся шэраг млыноў і тартакоў. Колькасць саматужных майстэрняў і дробных прадпрыемстваў павялічылася да 21, а занятых на іх працоўных - да 614 чалавек. Завод сельгасмашын выпускаў ручныя і конныя сячкарні, малатарні, манежы, арфы пад маркай “Поланд”, на заводзе працавалі каля 100 чалавек.

**1928 год, 17 красавіка.** У Беластоку пачаўся працэс 133. Перад судом паўсталі 133 чалавека - камуністы і камсамольцы, трацiна якіх была арыштаваная дэфензівай яшчэ ў 1925 г. Да суда яны каля трох гадоў праседзелі ў турмах. Па справе праходзілі кіраўнічыя работнікі КПЗБ Р. Вольф, В. Харужая, А. Кавенская, М. Арэхва, Э. Піліпенка, К. Басінскі. 20 красавіка пачаліся допыты. В. Харужую пазбавілі права голасу.


***Паручнік Аляксандр Ціхоцкі***

**1928 год, 1 траўня.** На самалёце-біплане “Спад-61” на лідскім аэрадроме загінуў паручнік Аляксандр Ціхоцкі.

**14 чэрвеня.** Загадам генштаба Польшчы расфармаваны 11-ты лётны полк у Лідзе, на яго месца з-пад Кракава пераведзены 5 лётны полк.

**1938 год, 5 або 8 траўня.** На будынку піярскага касцёла адкрытая мемарыяльная дошка ў сувязі з 75-годдзем з дня гібелі Л. Нарбута (75-годдзе паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага). Барэльеф Л. Нарбута з бронзы выканаў мастак Гурый Кацешчанка з Трокаў.

**1948 год, травень.** Аб’яднаны заводы сельскагаспадарчых машын № 1 і № 2. Дырэктарам прызначаны Д.М. Шапіра.

**1948 год, 4 чэрвеня.** Арганізаваны калгас імя Сталіна Аполінскага сельсавета.

**6 чэрвеня.** Яўмейчык з в. Красноўцы сярод белага дня ў Мыто забіў М.І. Канаховіча.

**1968 год, лета.** Па праекце гарадскога архітэктара Кішыка створаны піўны бар піўзавода.

Уведзены ў эксплуатацыю новыя цэхі і ўчасткі на абутковай фабрыцы, заводзе электравырабаў, камбінаце харчовых канцэнтратаў, рэканструяваны хлебакамбінат.

Створаны будтрэст № 19.

**1978 год.** Адчынены прафілакторый на 120 месцаў ад Лакафарбавага завода.

**1978 год, красавік.** Пажар на заводзе харчовых канцэнтратаў.

У раёне адчыніліся 20 крамаў на даму.

**1988 год, 19 траўня.** Лідскі гарвыканкам зарэгістраваў нефармальную суполку “Рунь”, першую лідскую беларускую адраджэнцкую арганізацыю канца XX стагоддзя.

**1988 год, травень.** Створаны ансамбль беларускай народнай музыкі “Гудскі гармонік”.



*Вераніка Курыла*



*На ўласным 20-годдзі 29 траўня 2008 г. выступае Народны ансамбль беларускай народнай музыкі “Гудскі гармонік”*

**1998 год, 18 красавіка.** У Лідзе дадзены старт лёгкаатлетычным спаборніцтвам, прыняць удзел у якіх мог любы ахвочы. З часам спаборніцтвы набылі вялікую папулярнасць і пачалі звацца “Ўсебеларускі лёгкаатлетычны крос”.

**1998 год, 16 траўня.** Першай пасляваеннай настаўніцы польскай мовы Вераніцы Курыла ўручаны Ордэн Усмешкі.

**1998 год, 18-22 траўня.** У Лідзе праведзены IV Рэспубліканскі конкурс маладых вакалістаў ім. Л.П. Аляксандроўскай.

# Лідскія юбіляры 2008 года

**КАШЫЦ Кастусь** (1828-1881), буйны зямельны ўладальнік у Лідскім павеце, удзельнік паўстання 1863 г., высылаўся ў Сібір. Кандыдат дыпламатычных навук, аўтар з’едлівых эпіграм, жартаўнік.

**ВЯРЫГА Ўладзіслаў** (9.06.1868-27.08.1916), запісваў у Лідскім павеце беларускія песні і паданні. Этнограф і філосаф. Кніга “Беларускія паданні” Львоў, 1889 - 32 казкі з Лідскага павету, часопіс “Zbior wiadomosci do antropologii krajowej” т. 13, 1889 - 45 песень з Лідскага павету.



*Уладзіслаў Вярыга*

**ГОВАР Сцяпан Іосіфавіч** (1888-1943). Нарадзіўся ў в. Масявічы Лідскага павету ў сям’і селяніна-бедняка, у пошуках працы з’ехаў у Гомель. Там уступіў у партыю бальшавікоў, з’яўляўся камісарам адміністрацыйнай часткі Гомельскага аддзела Заходняй акругі Народнага камісарыяту шляхоў зносін. У пачатку красавіка 1919 г. пераведзены на службу ў Віленскі аддзел Заходняй акругі НКШЗ, затым накіраваны ў Ліду. Уваходзіў у 1920 г. у склад Ваенна-рэвалюцыйнага камітэту Лідскага павету, узначальваў зямельны аддзел. Пасля ўз’яднання з БССР быў сакратаром Ганчарскага сельсавета. Падтрымліваў сувязь з партызанамі. Забіты акаўцамі ў канцы снежня 1943 г. у сябе дома разам з пляменнікам Уладзімірам Міхайлавічам Говарам. Пра яго стала вядома ў 50-х гадах. Сын пляменніка Говар Дзям’ян Уладзіміравіч - шафёр калгаса імя Чкалава перадаў дакументы ў музей улетку 1968 г. Дакументы былі знойдзеныя ў саламяным даху старой хаты ў в. Масявічы.


*Мікола Дзямідаў*

**ДЗЯМІДАЎ Мікалай Іванавіч** (1888-1967), сын сястры Кастуся Каліноўскага. Афіцэр царскага войска. У 1918 г. служыў камендантам Гародні, прадстаўляў у камендатуры Раду БНР, удзельнічаў у фармаванні вайсковых частак для барацьбы з Чырвонай Арміяй. У гады нямецка-фашысцкай акупацыі Латвіі кіраваў Беларускім нацыянальным камітэтам у Дзвінску, пасля ўвайшоў у склад Беларускага нацыянальнага камітэту ў Рызе. У 1942 г. пераехаў у Беларусь, працаваў інспектарам Генеральнага Камісарыяту, затым рэферэнтам па школьных справах. У 1943 г. акруговы школьны інспектар, арганізатар беларускай самаабароны ў Лідзе *(Пагоня, снежань 1998 г)*.Удзельнічаў у фармаванні батальёна БКА. У 1944 г. вярнуўся ў Рыгу, затым уцёк у Нямеччыну. Заўсёды адстойваў пункт погляду аб прыярытэце ў нацыянальным руху інтэлігенцыі, у прыватнасці настаўніцтва. *(А.К. Салаўёў. Беларуская цэнтральная рада. Мінск, 1995, с.152.)*

**НОВІКАЎ Алег Цімафеевіч** (21.04.1928 г., в. Войлева Сенненскага р-на Віцебскай вобл. - 9.02.1998 г. Ліда). Скончыў 10 класаў СШ № 53 в. Машчоны (1949), Беларускую сельскагаспадарчую Акадэмію па спецыяльнасці механізацыя працэсаў сельскагаспадарчай вытворчасці (1954), кваліфікацыя інжынер-механік.

Галоўны інжынер Забалоцскай МТС Радуньскага раёна (1954-57), дырэктар Раготнаўскай МТС Казлоўшчынскага раёна (1957-58), дырэктар Казлоўшчынскай МТС -РТС (1958-60), дырэктар саўгаса “Тарнова” (1960-87), генеральны дырэктар Лідскага вытворча-гандлёвага аб’яднання па садавінна-гароднiннай прадукцыі “Лідасадавінагародніна” (1987-88). У ліпені 1988 г. пайшоў на пенсію.


*Алег Новікаў*

Узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга (22.03.1966), Леніна (8.04.1971) і Кастрычніцкай рэвалюцыі (12.12.1973), медалямі, чатырохразова Ганаровымі граматамі ВС БССР. “Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Беларускай ССР” (23.10.1973). Неаднаразова абіраўся дэпутатам Лідскага раённага Савета дэпутатаў. Персанальны пенсіянер рэспубліканскага значэння. 4 дзяцей, 6 унукаў.

28 гадоў дырэктар саўгаса “Тарнова”. *“Калі прыехалі ў Тарнова, там быў толькі палац і 6-кватэрны домік. Спачатку нават плакаў ад бяссілля. Паразгоняў нягоднікаў і набраў маладых спецыялістаў. Завёў буйную рагатую жывёлу, і саўгас пайшоў у гару. Шмат будаваў, фермы, склады. Трымаў дысцыпліну, спецыялісты дзяжурылі па начах, каб не кралі. Любіў новае, ездзіў па іншых гаспадарках, у Польшчу, у Балгарыю, усё ўдасканальваў”.* Пры ім былі пабудаваныя цэнтральная сядзіба саўгаса, школа, дзіцячы садок, цяплічны камбінат. Саўгас неаднаразова выходзіў пераможцам у раённым і абласным сацыялістычным спаборніцтве. У саўгас прыязджалі шматлікія дэлегацыі. Пяць раз прыязджаў Пётр Машэраў.


*Святлана Цішук*

**ЦІШУК Святлана Аляксандраўна.** Нарадзілася 15 траўня 1938 г. у Гомелі. Скончыла 7 класаў СШ № 8, два курсы Гомельскага тэхнікума фізкультуры, перавялі ў Гарадзенскі, які скончыла ў 1957 г., адзін курс фізкультурнага інстытута, у 1973 г. скончыла Гарадзенскі педінстытут. Працавала ў дзіцячых спартовых школах г. Ліды, трэніравала баскетбалістак і плывуноў. 21 год (61-82) была трэнерам баскетбольнай зборнай школьнікаў г. Ліды. З выхаванцаў С. Цішук за зборную школьнікаў Беларусі выступала Бутрымовіч Ганна, за зборную вобласці шмат. Друкавацца пачала ў 1979 г. Першы верш апублікаваны ў “Лідскай газеце”. Да 90 г. публікавалася пад псеўданімамі: Сяргеева, Ціхая, Ціхалідава. Пад сваім прозвішчам пачала публікавацца пасля 1990 г., калі пачала пісаць вершы на беларускай мове. Публікавалася ў газетах “Полымя”, “ЛіМ”, “Чырвоная Змена”, “Фізкультурнік Беларусі”, “Наша слова”, “Гарадзенская праўда” і ў лідскіх зборніках. Аўтар зборніка паэзіі “На крылах белай вароны”. Замужам. Муж Сяргей Андрэевіч.

*100 гадоў Святыні*

# Белагрудскі касцёл Святога Арханёла Міхаіла (p.w. S. Michala Archaniola)

У 1600 г. у сучасных межах Лідскага раёна было 7 касцёлаў: у Лідзе (1387), Ваверцы (1413), Дылеве (каля 1450), Крупаве (каля 1450), Беліцы (каля 1486), Дакудаве (каля 1533) і Дворышчах (1591).

У 1608 г. віцебскі ваявода, староста суражскі і падкаморы лідскі Ян Янавіч Завіша (каля1550-1626) і яго жонка Анастасія Трызна пабудавалі ў Белагрудзе драўляны касцёл Бязгрэшнага Зачацця Святой Панны Марыі. 15 студзеня 1609 г. касцёл быў асвечаны. Ян Завіша перадаў касцёлу фальварак Мядзёўшчына з 8 валокамі ворыва, вёску Янаўляны з 10 валокамі ворыва і падданымі, невялікі лясок, луг над Дзітвой, права лоўлі рыбы на Дзітве і 10 коп літоўскіх грошаў штогод з Белагрудскага двара на ксяндза і кантараў з абавязальніцтвам праводзіць дзве штотыднёвыя імшы.

Першы касцёл згарэў. У 1703 г. невялікі драўляны касцёл у Белагрудзе Бязгрэшнай Панны Марыі пабудаваў уладальнік Дзітвы Шамятоўскай Уладзіслаў Шэмет. Праз некаторы час з парафій лідскай і ваверскай была вылучаная белагрудская парафія. Да яе былі аднесеныя Банцавічы, Белагруд, Бельскія, Бабоўцы, Ваўчылавічы, Горна (Горны, Гарно), Далекія, Дайнова, Дзітва, Зайкі, Кавалі, Кульбакі, Любары, Молгі, Мохавічы, Новікі, Ольжава, Парачаны, Раклёўцы, Цыбары, Шчытнікі і Янаўляны. Да 1744 г. дадаліся Даноўшчына, Дубчаны, Малы Ольжаў, Сяўрукоўшчына і Тарноўшчына. Дылеўскі касцёл быў філіялам Белагрудскай парафіі, а ў Дайнове, Вялікім Ольжаве, Дзітве Шамятоўскай, Даноўшчыне, Востраве і Радзівонішках былі збудаваныя невялікія драўляныя капліцы. У 1770-1780-х гадах пры Белагрудскім касцёле існавала школа, у 1777 г. у ёй вучыўся 21 школьнік, у 1782 - 4.

У пачатку 19-га стагоддзя Дылеўскі філіял быў перададзены Ваверской парафіі, Белагрудская парафія страціла частку вернікаў.

У 18 - першай палове 19 стагоддзя духоўныя паслугі для мясцовага насельніцтва ў касцёле выконвалі, нараўне з мясцовымі пробашчамі, ксяндзы-манахі, капеланы і нават уніяцкія папы. *(Szymielevicz M. Bialohrud. // Ziemia Lidzka. 1936, № 6, s.11).*

Перад секулярызацыяй касцёльны капітал уключаў ворнай зямлі -100 дзесяцін, лугу -100 дзесяцін, лесу - 165 дзесяцін, в. Янаўляны на 5 дымоў, падданых душ мужчынскіх - 23, жаночых - 25, 2 карчмы - у Мохавічах і пры касцёле. На 1842 г. засталося 7,5 валок ворыва ў фальварку Медзіёўшчына (Мядзёўшчына) і 225 руб. штогадовага ўнёску, так званай ануаты *(Cartka z dziejow kosciola katolickiego w Polsce rosyjskiej. T.II. Biskupstwo vilenskie. Krakow. 1889, s. 257).* Касцёлу належаў таксама дом у Лідзе, запісаны ў 1730 г. Каралем Рачэўскім і пляц з хатай на вул. Лідскай, атрыманы па судзе ў 1832 г. як кампенсацыя за пазыковую суму ад лідскага габрэя Б.Ш. Камянецкага.

У 1843 г. касцёл пазбавіўся часткі сваіх капіталаў, праз год быў прыняты ў дзяржаўны скарб, і тады ж арцыбіскуп Галавінскі канчаткова вызначыў тэрыторыю Белагрудскай парафіі. Белагрудскія святары да 1915 г. атрымлівалі штатны аклад з дзяржаўнага скарбу, прыбытак з касцельнага фальварка і ануату - адсоткі ад фондавых капіталаў з маёнткаў. Уладальнікі гэтых маёнткаў штогод адлічвалі ў скарбовую касу разам з падаткамі вызначаныя квоты.

У 1850 г. белагрудскі пробашч кс. Лінкін пабудаваў у фальварку Мядзёўшчына, дзе здаўна знаходзілася плябанія, драўляную капліцу. У гэтай капліцы прыходскія ксяндзы адпраўлялі штодзённыя набажэнствы.

У 1892 г. пробашч кс. Язэп Дэксніс пабудаваў плябанію непасрэдна пры касцёле.





У 1902 г. у Белагруду быў пераведзены з касцёла ў Бутрыманцах на пробства кс. Казімір Сталеўскі, які да гэтага быў пробашчам у Парафіянаве, а затым у Ішчолне. Казімір Сталеўскі ў цудоўнай Белагрудзе знайшоў 200-гадовы маленькі разбураны часам драўляны касцёл. За шэсць гадоў (1903-08) ахвярнай працы на сабраныя ахвяраванні Сталеўскі пабудаваў цагляны неагатычны храм у выглядзе трохнефавай базілікі з закрыстыямі, гранёнай абсідай і дзвюмя вежамі. Касцёл гэты быў асвечаны ў 1908 г. у імя Святога Міхаіла Арханёла.

**Вернікаў па гадах:**
1781 г. - 1727 душ,
1845 г. - 1692 душы,
1860 г. - 1492 душы,
1863 г. - 1604 душы,
1870 г. - 1647 душ,
1875 г. -1901 душа,
1881 г. -1990 душ,
1884 г. - 2000 душ,
1889 г. - 2053 душ,
1910 г. - 2300 душ.

**Белагрудскія святары:**

1679- 1716 г. - **Язэп Рыхтар**. Надпіс на клапсідры на Белагрудскіх могілках: *"Ксёндз Язэп Рыхтар, белагрудскі плябан, пасвечаны на капланства 1 сакавіка 1670 г., на плябанію белагрудскую прызначаны 20 чэрвеня 1679 г., памёр у 1716 г. 18 лютага і тут пахаваны"*.
1723 - Стэфан Вайціцкі.
1726 - Якуб Лянкевіч.
1731 - Аляксандр Рыльскі.
1735 - Феліцыян Блажаевіч.
1737 - Юзаф Антоні Сахацкі.
1743 - Яўстафі Лашчэўскі.
1744 - Мікалай Болтз.
1773 і 1780 - Мартын Догель.
1774 - Еранім Руткоўскі.
1784 - Міхаіл Абрамовіч.
1782 і 1785 - Красцэнты Сумарок.
1785 - Амброзі Альжэўскі.
1786 - Міхаіл Старжэнскі.
1786 - Ануфры Ясінскі.
1790 - Францішак Адроваж Высоцкі.
1791 - Станіслаў Рола Каменскі.
1799 - Францішак Саламановіч.
1803 - 1833 - Тамаш Руткоўскі.
1836 - Праспер Дзякшэвіч.
1843 -1846 - Юзаф Кулеша
1850 -1860 - Клеменс Лінкін.
1860 - Бярнард Пятрушэвіч.
1862 - 1868 - Юзаф Стралкоўскі.
1868-1885 - Валяр'ян Пятроўскі.
1889 - Юзаф Чыж.
1892 - Юзаф Дэксніс.
1902 - Казімір Сталеўскі.
1924 -1961 - **Стэфан Гародка**. Ксёндз-пробашч Стэфан Гародка памёр 4 траўня 1961 г. у веку 76 гадоў, 37 гадоў працаваў у Белагрудзе.

**Архітэктура.**

Белагрудскі касцёл уяўляе сабой трохнефавую дзвюхвежавую базіліку шматаб'ёмнай кампазіцыі. Да асноўнага аб'ёму, накрытага двухсхільным дахам, прыбудованы ніжэйшыя прыбудовы трансепта, пяціграннай алтарнай часткі, бакавыя закрыстыі. Прасочваецца дынамічнае нарастанне ад нізкіх закрыстый, гранёнай абсіды, крылаў трансепта да двух вертыкальных дамінантаў - двухярусных вежаў з шатровымі завяршэннямі. Цаглянай муроўкай выкананы элементы архітэктурнага дэкору: лапаткі, аркатурныя фрызы, ліштвы адзіночных і здвоеных арачных аконных праёмаў, профілі і раскрапоўкі. Уваход на галоўным фасадзе вызелены высокім парталам, акном -ружай і галярэяй.

Унутраны аб'ём перакрыты цыліндрычнымі скляпеністымі столямі з падпружнымі аркамі і люнетамі, упрыгожанымі фрэскавай арнаментальнай размалёўкай. Унутраная прастора асветленая вузкімі бакавымі арачнымі вокнамі з мазаічнымі шыбамі. У завяршэнні цэнтральнага нефа манументальны шматкалонны 2-ярусны алтар. У цэнтры яго абраз Маці Божай Міласэрнасці (2-я палова 17 ст.; 130х86) - копія абраза Маці Божай Вастрабрамскай. Над уваходам -арганныя хоры. *(Кулагін А.М. Каталіцкія храмы на Беларусі. Мінск, 2001, с. 15.)*

Помнік архітэктуры 2 катэгорыі.

Касцёл незвычайна хараша ўпісаўся ў навакольны ландшафт.

***Валеры Сліўкін.***

**Літаратура:**

*Szymielevicz M. Bialohrud. // Ziemia Lidzka. 1936, № 6.*

*Cartka z dziejow kosciola katolickiego w Polsce rosyjskiej. T.II. Biskupstwo Wilenskie. Krakow. 1889.*

*Збор помнікаў. Гродзенская вобласць. Мінск. 1986. с. 237.*

*Кулагін А.М. Каталіцкія храмы на Беларусі. Мінск, 2001, с. 15.*

# *Інвентар фундушу*

## *Белагрудскага Рымска-каталіцкага парафіяльнага касцёла пры візітацыі тога касцёла праз Яго Экселекцыю біскупа-суфрагана пана Казіміра Міхалкевіча дня 2-га червеня 1925 г.*

Белагрудскі касцёл размешчаны ў Дыяцэзіі і Зямлі Віленскай, Лідскага павету над ракой Дзітвой. Пачатак існавання датуецца годам 1609, калі ваяводам Янам Завішам быў выбудаваны ў Белагрудзе драўляны касцёл ў імя Арханёла Міхаіла.

У 1908 годзе пробашч Казімір Ансгары Сталеўскі выбудаваў новы касцёл ў раманскім стылі за кошт ахвяраванняў мазольна ім збіраных з дапамогай парафіян. Касцёл у тры нефы ў форме крыжа, аздоблены з фронту дзвюмя вялікімі вежамі і меншай трэцяй над прэсбіторыем з сігнатуркай. Даўжыня касцёла 49 метраў, шырыня 28 метраў, вышыня вежаў, аздобленых крыжамі 76 метраў. Пакрыты дахоўкай, хапы і жалабы з чорнай бляхі на чорна памаляванай, у 1924 годзе перамаляванай панова. Касцёл цэлы, унутры і знадворку ў парадку, канешне акрамя малых выступаў на пілястрах, што пашкодзіліся з-за ўжывання мергелевай цэглы, а ўнутры апанэль рыхтуецца да новага малявання. Дзве закрыстыі і калідорчык злучае алькова. Хоры мураванныя –арган зношаны, але спраўны. Вокны касцельныя ў алавяна-жалезных рамах. Падлога ў касцёле і закрыстыях з цэментавых плітак. Амбон з дрэва.

### Вопіс алтароў

Вялікі алтар і чатыры іншыя выкананы ў раманскім стылі. У вялікім алтары над цымборыюмам вышай размяшчаецца абраз Найсвяцейшай Марыі Маці Міласцівай (з ахвярамі ўдзячных за здзейсненыя цуды). У верхняй кандыгнаце крыж, на абодвух баках алтара фігуры: Святых Казіміра і Мікалая. Пастаменты з дрэва. З левага боку алтар Святога Антонія Падзэўскага, наступны алтар Святога Юзафа. З правага боку алтар Святога Арханёла Міхаіла – патрона парафіі, наступны чацвёрты алтар Сэрца Езуса Хрыстуса.

### Пераносныя алтарыкі

Першы з абразам Найсвяцейшай Марыі Чанстахоўскай і Арханёла Міхаіла.

Другі Езуса Хрыстуса і Марыі Дзявіцы.

Трэці: Пётр і Павел на абразах выразаныя.

Чацвёрты: Хрыстус на малітве і беззаганнае зачацце Найсвяцейшай Панны Марыі.

### Касцельныя рэчы

Дараносіца (манстранцыя) "Фражэт", ахвяра ў 1881 г. парафіян – 1.

Чары (пушкі) для камуніі пазалочаныя і пасрабраныя - ?.

Келіх з патэнай - срэбны, ахвяра с.п. Караліны –1



*Першая старонка інвентару*

Келіхаў з патэнамі ў добрым стане – 2 (?).

Келіхаў (з трыма патэнамі), ужываных - ?.

Паднос металічны для камуніі (прычасця) – 1.

Сасуды для св. алеяў "Фражэт" і алавяных - ?.

Ампулак "Фражэт", пара – 1.

Ампулак алавяных - ?.

Ампулак шкляных, пар – 2.

Тацаў (падносаў) "Фражэт" для ампулак - ?.

Скрыначка для аплатак у закрыстыі металічная – 1.

Тарча да працэсіі – 1.

Крыж ручны да працэсіі – 1.

Крыжоў у алтарах "Фражэт" – 3.

Крыжоў вялікіх і алавяны – 4.

Кадзільніца ў гатычным стылі, срэбная, "антык" – 1.

. . . . .

Званкоў да алтароў "гарманічных", пар - ?.

Кандэлябры (падсвечнікі):

"фражэтавыя" вялікія – 6;

меншыя, танія ж - ?;
малых – 8;
жоўтай медзі, малых - ?;
алавяных, большых - ?;
жалезных - ?.

Рэлікварaў металічных – ?.

Падсвечнікаў “Анёлкаў” для свечак, металічных – 2.

Салянкі “Фражэт” для солі – 1.

Прыбор у закрыстыі – 1.

Лямпа: вялікая бронзавая - 1.

Лямпы: нафтавая (газавая) на сцяне – 3.

Лямпы: аздобленая срэбрам:
вялікая – 1;
малая, такая ж – 1.

Лямпа ў закрыстыі – 1.

Жырандоля: бронзавая на 24 свечкі – 1;
з крышталём на 18 свечак – 1.

Паходні да працэсіі – 4.

Кубак “лаваба” пры алтары – 1.

Булава для швейцара з канцом “Фражэт”.

Вотаў (ахвяраў) на абразе Маці Божай у вялікім алаты:
сэрцаў срэбных – 8;
“ногі” – 2;
вока агляднасці – 1;
малых таблічак – 2;
срэбных крыжыкаў – 2;
бранзалеты два з гранатамі і перламі – 2;
тры шнуры гранатаў – 3;
караляў шнуроў - ?.

Кацялок медны для вады – 1.

Крапідла з ручкай, планіраванае - ?.

Балдахіны:
для чацвярых – з чатырма тронцамі для нашэння - ?;
у форме прасона - ?.

Фігура: Хрыстуса ў “бабінцы” (тамбуры) - 1.
Хрыстус “Уваскрэшанне” - ?.
Маці Божай з дзіцяткам Езусам - ?.

Хрысцільня (купель) у форме келіха...
Унутры кацялок для вады...
Скрынка металічная...

Столік для захоўвання халоднай вады...

Камень для свянцонай вады ў “бабінцы” (тамбуры)...

Табліца юбілейная на сцяне...

Спавядальні:
новая ясеневая...;
у закрыстыі...;
пераносная...

Лаўкі на сярэдзіне касцёла...

Фатэль і дзве табурэткі, пакрытыя чарвоным сукном.

Падкаленнікі...

Гадзіннік вялікі ў касцёле..

Камоды:
новы ў закрастыі з 14 шуфлядамі;
на версе дзве шафкі;
стары...

Форма:
пад аплаткі з 1776 г. ...
пад выцінанне аплатак...

Катафалк для пахавання:
падстаўка і труна...
два слупы пад свечкі...
два “анёлы”, якія плачуць..

Пюпітр на алтары...

**Касцельныя шаты:**

Арнаты:
белы новы (з 1912 г.)...

Арнаты:
чырвяных новых - ?;
старых, што пайшлі на рамонт – 2;
фіалетавых новых (з 1912 г.) - ?;
фіялетавых, адрамантаваных у 1924 г – 1;
зялёны новы – 1;
зялёны стары, перароблены ў 1924 г – 1;
для жалобных патрэбаў – адзін някепскі - 2;
жалобных новых – 2.

Капы (пакрывалы):
капа белая – новая папраўленая – 1;
старых, папраўленых у 1924 г. – 2;
чырвоная новая – 1;
фіялетавая новая – 1;
зялёная новая – 1;
чорная жалобная новая – 1;
чорная бляклая, ужываная – 1.

Крэслы: рознага колеру для ўжытку - ?.

Бюро для хворых - ?.

Кемжаў (сціхароў, наогул усіх – 1.

Бялізны добрай і ношанай – 1.

Гумаратаў – 1.

Палогаў – 2.

Шапачак – 4.

Пурыфінатаў – 9.

Ручнікоў:
большых – 3;
малых – 2.

Паскаў (паясоў) – ?.

Вуаляў на алтары – 2.

Вуаляў для ўжытку - ?.

Абразкаў для балюстрады - ?.

Вуаль для кубкаў – 4.

Заслонаў фіалетавах ...

Заслонаў – фіранак для абразоў – 4.

. . . .

Палярын чырвоных - ?.

Дываноў:
вялікіх - ?.
меншых - ?.

Саван (покрыў) для патафалка - ?.

Харугвы - ?.

Стацыі Божых Мукаў - ?.

Абразы: Маці Божай Вастрабрамскай - ?.

Званы:
Вялікі “Казімір” – 16 пудоў.
Нова-набыты ў 1924 г.

Сігнатурка – 25 фунтаў.
Пры закрыстыі – 15 фунтаў.
Арган зношаны за многія гады - 1.
Кнігі:
Мараляў вялікіх - ?.
Жалобных - ?.
Трэбнікаў - ?.
Канцыяналы:
стары - ?;
новы з (1924 г.) - ?.
Рытуал:
стары - ?;
новы з 1924 г. - ?.
Евангелле старое - ?.
План касцёла Белагрудскага фундушу - ?.
Пячаткі касцельныя - ?.

**Кнігі метрычныя**

***Хрысціільныя з гадоў:***

| | |
|---|---|
| 1718-1723 | 1835-1841 |
| 1716-1723 | 1841-1847 |
| 1723-1727 | 1848-1856 |
| 1731-1756 | 1876-1888 |
| 1756-1765 | 1888-1900 |
| 1765-1782 | 1900-1906 |
| 1782-1788 | 1906-1911 |
| 1788-1817 | 1911-1925 |
| .... | 1925- |
| 1835-1835 | |

***Шлюбныя з гадоў:***

| | |
|---|---|
| 1720-1832 | 1901-1921 |
| 1827-1846 | 1921-1925 |
| 1846-1879 | 1925- |
| 1879-1901 | |

***Памерлых з гадоў:***

| | |
|---|---|
| 1720-1831 | 1877-1897 |
| 1827-1838 | 1897-1921 |
| 1838-1848 | 1921-1925 |
| 1848-1877 | 1925- |

***Кнігі перадшлюбнага экзамену:***

| | |
|---|---|
| 1824-1827 | 1865-1894 |
| 1839-1852 | 1913-1925 |
| 1852-1865 | |

***Кнігі:***

"Жывога ружанца";
"Іярэйская".

***Спісы парафіяльныя:***

1928, 1835, 1837, 1848, 1853, 1856, 1858, 1859, 1860, 1861, 1862, 1888, 1889, 1906, 1907, 1908, 1910, 1921-1925 (не перапісаныя).

**Будынкі плябаніі**

Плябанія – выбудавана стараннямі ксендза-пробашча Юзафа Дэксніса – у 1892 годзе ў Белагрудзе над ракой Дзітвой пры касцёле. Дом з дрэва 26 метраў на 15 метраў з трымя пакоямі і сенямі – нетынкованы. Пад домам піўніца-мініяцюра. Крыты гонтай у 1922 г. з боку сад да 30 дрэў пладовых, старадаўнія сосны. З паўднёвага боку будынкі: лядоўня старая, піўніца новая ў зямлі і хлеў (з 1916 года) а таксама стайня пад адным дахам, студня зруб з дрэва на дзядзінцы. З другога боку "рынку" касцельнай службы: пад адным дахам прылягае стадола для карыстання ксендза-пробашча. Гэты дом набылі ў 1912 г. У плябаніі ёсць: стол кухонны, шафа-буфет, тапчан і тры ложкі – як фундуш. плябаніі – для карыстання пробашча ахвяравана п с. Кс. Стэфановічам і Корнь ...

.... на рацэ. За могілкавым мурам ёсць з 20 сажняў каменю сырца.

**Касцельная баніфацыя**

З надзелу касцельнай зямлі для Белагрудскага касцёла ў 1614 годзе, зробленага Завішам, пасля канфіскацый здзейсненых у 1843 і 1864 гадах засталіся 33 дзесяціны зямлі ў чатырох кавалках: 1. У Белагрудзе пры касцёле; 2. "Дзікае поле"; 3. "Мядзёўшчына" 4. "Лозка"

2. У горадзе Лідзе ёсць пляц эксдывізорскім судом у 1832 годзе прызнаны за доўг касцёлу ад яўрэя Шымулевіча Бенцэля. У 19 ... лідскім судом 2 акругі арандатар яго Дамінік Юбілевіч, мешчанін лідскі забавязаны плаціць арэндную плату. Пляц гэты пад пабудовамі Юбілевіча размешчаны на Аляксандраўскай вуліцы № 3. Належыць штогод абнаўляць кантракт, каб пазбегнуць пратэрміноўкі.

Пры рэчцы Дзітве ад граніцы мохавіцкіх парабкаў, якім ў 1864 годзе дадзены тут надзел, ёсць крыніца "Затока", дзе ў 1925 годзе ксендзам-пробашчам пабудавана цыментавая студня, а таксама адноўлена затола для лову рыбы зімой.

Ніякіх дакументаў няма, толькі ёсць такія ў Гарадзенскім судзе, у 1873 годзе складзеныя, і ў Дзяржаўным Архіве ў Вільні, з якіх ў 1924 годзе ў канцылярыі касцельнай здабыты копіі (водпісы).

**Вопіс фальварка Мохавічы**

За паўтары вярсты ад Белагрудскага касцёла размешчаны фальварак, пра які згадвалася вышэй. У 1913 годзе дом плябаніі, які быў аднесены ад дома афіцыны, быў перароблены для службы, новы дом у два пакоі. Дом незакончаны. Перад домам ёсць хлеў для жывёлы і гасп. прылад. 40 метраў на 10 метраў. У ім чацвёра дзвярэй і тры ўнутраныя сцяны. ...

.... (1924) пакрыты саломай; і ў садзе размешчаны амбар для збожжа і гародніны, крыты саломай. Сад у фальварку Мохавічы мае каля 50 пладовых дрэваў.

У фальварку Мохавічы пры дарозе ёсць старая капліца, якая пасля знішчэння ў 1920 годзе адноўлена апрача даху.

**Парафіяльныя могілкі**

Вакол новапабудаванага касцёла ёсць могілкі:
а) могілкі абнесены мурам;
б) каля муру "супольныя могілкі".
На тых могілках ёсць новая (1909 г.) "трупярня"

са 100 штук бярвеняў пад дахам, са старога касцёла, прыдатных для будоўлі.

**Вопіс межаў парафіі**

Белагрудская парафія мяжуе з парафіямі: Лідскай, Крупаўскай, Ваверскай і Няцецкай. Найдальшы пункт ад касцёла 9 кіламетраў.

**Мясцовасці і вёскі, якія належаць да парафіі:**

**Фальваркі:**
Андрушкі
Залоза і Радзівонішкі
Белагруда
Чыжоўшчына
Курган
Рэпнікі
Тарноўшчына
Мыто
Шыманова
Банцэвічы
Зайкі
Шчытнікі
Малы Ольжаў

**Калоніі:**
Дайноўшчына
Кульбакі

**Засценкі:**
Паспечна
Мазуроўшчына

**Вёскі:**
Гурняты або Гарняты
Дубчаны
Парачаны
Ходзінкі (Хадзюкі)
Масявічы
Рэпнікі
Бабоўцы
Янаўляны
Мыто
Альхоўка
Банцавічы
Кульбакі
Мохавічы

**Хутары (асады):**
Катарынава
Бабоўцы
Хомічкі

**Чыгуначныя баракі:**
Далекія
Хомічкі
Дубчаны
Белагруда
Ходзінкі і Радзівонішкі

**Урачыстыя (гадавыя) набажэнствы**

У Белагрудскім касцёле з выстаўленнем найсвяцейшага сакраманту адбываюцца наступныя ўрачыстасці.

1. Унебаўступленне Панскае.
2. Св. Арханёла Міхаіла 29/IX.
3. Шкаплернай Маці Божай у нядзелю.
4. Св. Антонія.
5. Трэці тыдзень кастрычніка – дні: панядзелак, аўторак і серада – 3 дні.
6. Спаслане Духа Святога – першы дзень.
7. Нядзеля па 1-м дні месяца.
8. Святога Юзафа ў нядзелю.
9. Сэрца Езуса ў нядзелю.
10. Першы дзень Вялікадня і 2-гі, вячэрня.



***Перадапошняя старонка інвентару***

11. Першы дзень Каляд і 2 –гі, вячэрня.
12. Урачыстасці Маці Божай...

Рана: Гадзінкі, Ружанец спяваны. Перад позняй абедняй Катахізм чытаны. Позняя абедня. Казанне па Евангеллі. Святы Божа. Вячэрня. Літанія ларэтанская.

У закрыстыі касцёла павешаны партрэт П.В. Ксензкага па жаданні парафіян.

***Кс.** (подпіс) **пробашч Стэфан Гародка.***

Белагрудскі касцёл, мураваны, прыгожы, пабудаваны стараннямі кс. Казіміра Сталеўскага і парафіян. Маёмасць, апараты і бялізна касцельная ў добрым стане; дзейны пробашч ксёндз Стэфан Гародка ёсць тут нядаўна, утрымоўвае касцёл і закрыстыю ва ўзорным парадку, за што яму выказваем ухвалу і падзяку, звяртаючы ўвагу адначасова на катэхізацыю дзяцей у школе і пачатковай, і для з той мэтай выказваем з цэлага сэрца пастарскага дабраславенства.

Да сакраманту біжмавання прыступіла асобаў 1495.

Белагруда, 3 чэрвеня 1925 г.

***Казімір Міхалкевіч,***
***біскуп - суфраган Віленскі.***

*У канцы запіс на латыні ад 22 траўня 1928 года.*

*Пропускі і недакладнасці ў перакладзе інвентара маюць месца з-за таго, што ён рабіўся з копіі з абрэзанымі краямі.*

# МІХАЛ ШЫМЯЛЕВІЧ

## *130 гадоў з дня нараджэння*

**Шымялевіч** Міхал Іванавіч (Szymielevicz Michal) - лепшы знаўца гісторыі Лідчыны 20-га стагоддзя. Унікальная з'ява ў Лідскім краязнаўстве.

Пра Міхала Іванавіча мала што вядома. У адным са сваіх артыкулаў - "Borcie i wlosc Borcianska" - ён паведаміў, што яго продак барцяк Міхал Шымялевіч жыў у в. Паўлока, у яго было два сыны Марцін і Ян, які перасяліўся ў Подзітву. Міхал Марцінавіч Шымялевіч нарадзіўся ў Паўлоцы ў 1801 г, у 1822 г., ажаніўся на Мар'яне Вішнеўскай і жыў на зямлі сваёй жонкі ў Пелясе.

У 1936-39 гг. Міхал Шымелевіч быў чальцом рэдакцыйна - выдавецкага камітэта часопіса "Ziemia Lidzka". Апублікаваў у часопісе 30 краязнаўчых артыкулаў, у кожным нумары друкаваўся яго матэрыял. Артыкулы розныя па тэматыцы: гістарычныя, геаграфічныя, этнаграфічныя. Грунтуюцца на велізарным фактычным матэрыяле.

**Спіс прац Міхала Іванавіча Шымялевіча:**

**1936 год.**

*Rzeka Dzitwa. // Ziemia Lidzka. № 1. s. 5-6.*
*Bialohrud. // Ziemia Lidzka. № 2. s. 5-6, № 3-4. s.2-3, № 5. s. 2, № 6. s.11-12, № 7. s. 4.*
*Trakt krolewski. // Ziemia Lidzka. № 2. s. 9-11.*
*Alchemik w Szejbakpolu. // Ziemia Lidzka. № 6. s. 3-4.*
*Cos o skrzywdzonem J. // Ziemia Lidzka. № 8. s.5-7.*
*Dzieje pijarow lidzkich.// Ziemia Lidzka. № 9. s. 2-4.*
*Wrozby ludowe. // Ziemia Lidzka. № 9. s.11 -12*

**1937 год.**

*Dzieje pijarow lidzkich.// Ziemia Lidzka. № 1 s. 2-3, № 3 s.32-34. № 4 s. 44-45. № 6-7 s. 62-67.*
*Swaty. // Ziemia Lidzka. № 1. s.9-10. № 2. s.16-17.*
*Szkice do monografii Zoludka. // Ziemia Lidzka. № 2. s.22-23. № 3. s.27-28. № 4. s. 45-46.*
*№ 5. s. 50-52. № 9. s. 100-101. № 10-11. s. 106-107. № 12.*
*Jurje. // Ziemia Lidzka. № 4. s. 40. № 5 s. 54-56.*
*Rzeka Lebioda i jej doplywy. // Ziemia Lidzka. № 6-7 s. 72-74.*
*Trakt polski. // Ziemia Lidzka. № 8. s. 82-83.*
*Zabytkowe kamienie. // Ziemia Lidzka. № 9 s. 102-103. № 10-11. s. 110-112.*
*W cmentarnej ciszy… // Ziemia Lidzka. № 11.*
*Z tamtego swiata. // Ziemia Lidzka. № 11.*
*Ze starej ksiazki. // Ziemia Lidzka. № 12.*

**1938 год.**

*Dawne wojewodztwo nowogrodzkie. // Ziemia Lidzka. № 2 s.19-21, № 3 s. 31-32, № 5-6 s.63-66.*
*Na marginesie tatarow litewskich. // Ziemia Lidzka. № 3. s. 37-39.*
*Niemen. // Ziemia Lidzka. № 5-6. s. 73-78.*
*Proby klasefikacji gruntow ziemi lidzkiej. // Ziemia Lidzka. № 7- 8. s. 95-96.*



***Рэдакцыйна-выдавецкага камітэта "Ziemi Lidzkaj": Аляксандр Сняжко, Антоні Гржымайла-Прыбытка, Міхал Шымялевіч і Ўладзіслаў Абрамовіч. Шымялевіч узвышаецца, ён вышэй за астатніх на паўгалавы, у акулярах.***

*Skad pochodzi rod Adama Mickiewicza. // Ziemia Lidzka № 9. s.113-116.*
*Stary dokument. // Ziemia Lidzka № 12.*

Напэўна нешта было ў №№ 1 і 11 за 1938 г., але гэтыя нумары не захаваліся.

**1939 год.**

*Dawna poczta i telegraf w ziemi Lidzkiej // Ziemia Lidzka. № 1. s.1-9, № 2. s.53-62.*
*Wesele. // Ziemia Lidzka. № 2. s. 41-45.*
*Dworzyszcze i Trokiele. // Ziemia Lidzka. № 3. s. 82-91.*
*Borcie i wlosc Borcianska. // Ziemia Lidzka. № 4-5. s. 109-117. № 6. s. 161-168.*
*Nasze drzewa. // Ziemia Lidzka. № 4-5. s. 133-138.*
*Sok brzozowy. // Ziemia Lidzka. № 4-5. s. 144-145.*
*Lida w latach wielkiej wojny. // Ziemia Lidzka. № 7-8. s. 185-194.*
*Rzeki Gawja i Zizma. // Ziemia Lidzka. № 7-8. s. 209-211.*

11 артыкулаў Міхала Шымялевіча былі перадрукаваныя ў “ZL” у 1998-2005 г.

*Skad pochodzi rod Adama Mickiewicza. // Ziemia Lidzka 1998. № 32. s. 4-6.*
*Lida w latach wielkiej wojny. // Ziemia Lidzka. 1999. № 37. s. 7-12.*
*Wrozby ludowe. // Ziemia Lidzka. 1999. № 40. s.16-17.*
*Dworzyszcze i Trokiele. // Ziemia Lidzka. 2001. № 44. s. 14-18.*
*Bialohrud. // Ziemia Lidzka. 2001. № 45. s. 17-22.*
*Rzeka Dzitwa. // Ziemia Lidzka. 2001. № 46. s.16-17.*
*Rzeki Gawja i Zizma. // Ziemia Lidzka. 2001. № 46 s.17-18.*
*Niemen. // Ziemia Lidzka. 2002. № 48. s. 8-13.*
*Rzeka Lebioda i jej doplywy. // Ziemia Lidzka. 2002. № 49. s. 10-12.*
*Szkice do monografii Zoludka. // Ziemia Lidzka. 2004. № 61. s.12. № 62. s.14-16. № 63. s. 13-16. № 64. s.12-13. 2005. № 65. s 9-12.*
*Ze starej ksiazki. // Ziemia Lidzka. № 12.*

Найзначнейшая праца М. Шымялевіча “Горад Ліда і Лідскі замак” была апублікаваная ў 1905 г. у друкарні “Рускі Пачын” у Вільні, і праз год перавыдадзеная ў часопісе “Віленскі каляндар”.

# Да біяграфіі Міхала Шымялевіча

*Важным фактычным матэрыялам, з якога можна атрымаць пэўныя звесткі пра лёс Міхала Шымялевіча можа быць яго ліст, апублікаваны ў газеце “Ziemia Lidzka” № 2(37) за травень 1999 г., дасланы ў рэдакцыю Вітольдам Драмовічам.*

3.01.1959 г.

Паважаны і дарагі пане.

Атрымаў ліст ад пані Катажыны Кліжашэўскай, і я вельмі-вельмі абрадаваўся, што ўратаваў сваё жыццё яшчэ адзін мой добры знаёмы пан Арэхва. Яшчэ віншую пана з Новым Годам і жадаю пану здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця, усемагчымай удачы і спаўнення ўсякіх і ўсіх пажаданняў.

Я 13 красавіка 1940 года быў вывезены разам з сваёй жонкай і малодшай дачкой, жонкай польскага афіцэра на ўсход.

Разам з намі было вывезена з Ліды і павету некалькі тысяч душ. Вывезеных раскідалі па некалькіх раёнах Паўночнага Казахстану. Каля тысячы нашых людзей яны пасялілі ў Палудзінскім раёне Паўночна-Казахстанскай вобласці, за 40 кіламетраў ад Петрапаўлаўска. Тут нешчасныя людзі рассяліліся па вёсках у жабрацкіх хатках, збудаваных з вялікіх неабпаленых цаглін з гліны, гною і саломы. Тыя бедныя хаткі мелі дахі з плеценых лазовых матаў, змазаных глінай. У хатках крайняя беднасць, і мы, колькі там жылі, жылі толькі з таго, што прадавалі сваю вопратку за бульбу, малако і вельмі рэдка за нейкі кілаграм мукі. Нашы людзі, а гэта былі практычна ўсе жанчыны з дзецьмі, жонкі паліцыянтаў, афіцэраў, сяржантаў, урадоўцаў, якія на вайне з Гітлерам былі забітыя, забраныя да няволі нямецкай, або, забраныя саветамі, сядзелі ў вязніцах ці лагерах у Катыні, Казельску, Старабельску і іншых мейсцах. Мужчын было вельмі мала і то адны дзяды. Хто мог, пайшоў на працу. Хто рабіў у гразі і вадзе цэглу, хто запісаўся ў калгасы або саўгасы. Я атрымаў працу пры інжынерах, якія шукалі нафту ў стэпах Казахстану. Хадзіў з усёй партыяй па стэпах, начаваў у палатках. Што чалавек зарабляў, тое з’ядаў і не наядаўся. Лета было гарачае. 40 гр. цяпла.

Прыйшла зіма, снежная, марозная і доўгая. Мароз трымаўся 30-40 гр. Нашы людзі вымушаны былі разам з усімі ісці на цяжкія работы – ачышчэнне снегу з чыгуначнай каляі, на будоўлі нафтавых вышак, і ўсё гэта ў холадзе, у голадзе і практычна за дарма. Прыйшла вясна 1941 г., толькі распачаліся летнія работы, як выбухнула вайна Сталіна з Гітлерам. Рускіх людзей пабралі ў войска, а нас, палякаў, не пытаючыся, ці хочам, ці жадаем запакавалі на цягнікі і вывезлі за паўтары тысячы кіламетраў у Кустанайскую вобласць і пасялілі ў палатках над рэчкай Таболам ды пагналі на работы – капаць і ўкладваць баласт на будоўлі новай чыгункі. Там зноў у гразі, у голадзе, у вошах правялі некалькі месяцаў.

Напалі на нас розныя азіяцкія хваробы, язвы, сверб і ліха ведае што. Ледзь-на-ледзь восенню вырваліся з тога пекла і па вялікіх муках жменька нас вярнулася ў Паўночны Казахстан. Там бы мы пагінулі, бо за першы год толькі з нашай групы палякаў памерла 50 чалавек, пераважна з голаду. Але Пан Бог усё-такі выказаў сваю міласэрнасць. Генерал Сікорскі дамовіўся са Сталіным, выпусцілі польскіх вязняў, генерал Андарс пачаў фармаваць там польскую армію, а нас палякаў Амерыка і Англія ўзялі пад сваю апеку. Далі нам сякую-такую дапамогу, і мы пачалі аджываць. Але, калі наша польскае войска аказалася выпраўленым у Іран за Каспійскае мора, то саветы ўсіх тых, хто не пайшоў у войска (жанчын, дзяцей, старых) затрымалі ў сябе ў якасці

закладнікаў. Абвясцілі сваімі падданымі і загадалі выдаць нам савецкія пашпарты, як іх падданым. Плач, енк, што ўжо ніколі не вернемся да сваёй Айчыны. Сам я проста не хацеў гэтага прымаць і падгаварваў іншых, каб супраціўляліся і не бралі. Цвярдзіў усім, што над намі апякуецца Англія і Амерыка, і наш урад у Лондане. І нам не дадуць згінуць у Саветах. Суцяшаў, што ўсе вернемся ў Польшчу. За гэта мяне пасадзілі ў вязніцу на дзесяць гадоў. Цягалі мяне па вязніцах і следствах практычна ўвесь 1943 год і ў канцы вывезлі ў лагер на поўдзень ад Караганды. Зімой, пры 30 гр. марозу вязлі нас пяць сутак у вагонах для жывёлы на кавалку сухога хлеба і вядры халоднай вады з лёдам. У тым падарожжы адмарозіў сабе ногі. Потым сядзеў пару месяцаў на раздзельным пункце ў Карабасе, адкуль мяне з чорнымі гнілымі пальцамі на нагах перавезлі ў шпіталь у Далінцы. Там мне ампутавалі вялікія пальцы на нагах, а астатнія палячылі, але і зараз заўсёды мне баляць ногі асабліва на холаднае надвор'е. Пяць гадоў ганялі мяне там з лагера ў лагер, жыў тыя пяць гадоў без кашулі, у падранай, смярдзючай ватоўцы і ў такіх жа портках. У канцы 20 сакавіка 1948 г. роўна праз пяць гадоў вывезлі мяне разам з іншымі, не здольнымі да працы палякамі (па амністыі), у Польшчу.

Мая жонка была прывезена ў Польшчу разам з іншымі палякамі яшчэ ў 1946 г. тут знайшла старэйшую дачку настаўніцу Марыю Васёву і пры ёй асела ў Сопаце. Я знайшоў адрас жонкі і дачкі і прыехаў да іх 20 траўня 1948 г. жонка мая, будучы ў Казахстане на цяжкай працы, надарвалася, атрымала грыжу і хварэла, аж пакуль не памерла ў 1955 г., маючы 75 гадоў, і была пахавана ў Сопаце.

Дачка мая, жонка афіцэра, жыла ў Казахстане з намі, а калі фармавалася там польская армія, быў выпушчаны з увязнення на Беламор-Канале яе муж Адам Махніца, знайшоў нас у Казахстане, прыехаў да нас, трохі адпачыў і паехаў у польскую армію, куды забраў потым і сваю жонку, нашую дачку. Ён, як афіцэр, а яна, як сястра міласэрнасці, прайшлі Іран, Сірыю, Палестыну, дзе спаткаліся з нашымі лідскім габрэйчыкамі, потым прайшлі праз Італію і былі ў тым страшным баі пад Монтэ-Касіна. Там зяць быў паранены. Зараз яны жывуць у Англіі, абое працуюць, і ім там някепска жывецца, а мне дапамагаюць.

Я атрымаў працу вахцёра пры музычнай школе, пільную парадак паміж вучнямі і атрымоўваю штомесяц 350 зл., і маю пенсію па старасці 548 злотых штомесяц. Жыву пры дачцы настаўніцы, і неяк трымаюся. Маю ўжо 80 гадоў, галава і вусы белыя як снег, але яшчэ хаджу дзёрзка і не горблюся. На ні адну чынавенскую працу не пайшоў, бо пры сённяшніх парадках чалавек раз на возе і раз пад возам. А вахцёру не пра што галава не баліць, глядзі, каб падлога была чыстая, каб вучні не сваволілі, каб хто чаго не ўкраў або не сапсаваў.

Суцяшаў сваіх людзей у Казахстане. А зараз і тут суцяшаю. Прыдзе час, і ўсе і мы, хто дачакае, вернемся да сваёй любімай старонкі, хто да Ліды, хто да Качанова. Будзь пан пэўны, што яшчэ прыляціш пяхотай з Ліды да сваёй зямлі, да свайго доміка і да свайго млына, абдымеш яго за вугал і будзеш плакаць слязамі з радасці, што па тых гадах і муках дабіўся аднак да свае мілай ўласнасці.

Але толькі трымайся і не падай духам. Так будзе, як пішу. Пішы мне. Цікава, што стала з Бараноўскімі і Янам Шаптуноўскім.

Сардэчна абдымаю пана. Міхал Шымялевіч.

---

# Горад Ліда і Лідскі замак

## *(Гістарычна нарыс)*

Віленскі каляндар. Вільня, 1906. Стар. 37-57.

Ліда, цяпер павятовы горад Віленскай губерні, а ў старажытнасці цэнтр адной з вялікакняскіх воласцяў, размешчаная пад 53°53" п. ш. і 42°58" у. д., на правым беразе р. Ліды, якая ўпадае ў Нёманскі прыток Дзітву, за 89 вёрст ад г. Вільні. Наваколлі Ліды ўяўляюць сабою амаль дасканалую раўніну, толькі ў некалькіх месцах перарэзаную спадзістымі далінамі невялікіх раўчукоў і рэчак і ў значнай частцы пакрытую лясамі.

Мясцовасць гэтая, першапачаткова занятая адным з літоўскіх плямёнаў,—відаць, Няромай,—у канцы першай паловы XI ст. увайшла ў склад рускіх валадарстваў. Па словах гісторыкаў Літвы, вялікі князь кіеўскі Яраслаў I Уладзіміравіч у 1040 і 1044 г.г. здзейсніў два паходу на Літву і, разбіўшы літоўцаў у наваколлях г. Слоніма, перайшоў р. Нёман і заваладаў іх землямі аж да р. Віліі *(Narbutt, dzieje narodu Litewskiego, III, 225,233,235).* З тых часоў да паловы XIII ст. р. Вілія складала межавую рысу паміж літоўскімі і рускімі валадарствамі, пры чым правы бераг яе зваўся Літоўскім берагам, а левы Рускім або Рускім краем *(Летапіс Быхаўца 1846, 4).* Ужо ў пачатку XII ст. на Рускім баку р. Віліі існавала некалькі ўдзельных рускіх княстваў, з ліку якіх часцей за іншых у гісторыі згадваецца Гарадзенскае *(Stryjkowski, kronika Polska. Litewska etc. (1846). I, 85).*

Адціснутыя за р. Вілію літоўцы спакойна сядзелі сярод сваіх лясоў да паловы XII ст., калі адзін з літоўскіх князёў Кунас, па словах літоўскага летапісу *(Летапіс Быхаўца, 2-3),* ***"панующи в земли Жмойдской, почалъ множити и разширати и выходити за реку Веллю".*** Выхад Кунаса за Вілію, відаць, паставіў у некаторую залежнасць ад яго Рускі бок. Паміж іншым летапісы захавалі вестку аб гарадзенскім князі Валадары Глебавічы, які абапіраючыся на цесны саюз з Літвою, наводзіў жах на сваіх сваякоў. У 1159 г., калі ўсе полацкія князі склалі часовы мір і цалавалі адзін аднаму крыж,

Валадар Глебавіч ухіліўся ад агульнага замірэння: ***«не целова креста тем же ходяше под Литвою в лесах»***. *(Ипат. Лет., Карамзин, II, примеч. 386)* Далей у крыніцах пра-слізваюць весткі, што з-за ўладанне краем паміж Літвою і Руссю вялася ўпартая барацьба, якая скончылася тым, што ў 1219 г. дзевятнаццаць літоўскіх князёў з'явіліся да вялікай княгіні Раманавай (удавы Рамана Мсціслававіча Галіцкага) і яе сыноў Данііла і Васількі і склалі мір *(Ibid. III, заўв.. 190.)*. Рускі край застаўся пад уладай рускіх князёў да паловы XIII ст.

У 1242 г. татарскія атрады цалкам спустошылі Чорную Русь і Рускі край. Літоўскія князі, карыстаючыся тым, ***«иж Русская сторона спустела и русские князи разогнаны»***, у 1246 г. на чале з Эрдзівілам Мантвілавічам , пераправіўшыся цераз Вілію і Нёман, бесперашкодна занялі ўвесь Рускі край і Чорную Русь. *(Летапіс Быхаўца, 3-4; Stryjkowski. I. 233-237)*. З тых часоў да канца XVIII ст. уся гэтая мясцовасць стала знахо-дзілася ў складзе літоўскіх земляў.

Каля 1330 г. у Рускім краі, на правым узбярэжжы р. Нёмана, і Васкрасенскі летапіс і хроніка Стрыйкоўскага ў першы раз згадваюць імя літоўскага горада Ліды *(Полное Собр. Рус. Лът., VIII, Воскрес., 240; Stryjkowski, I, 381.)*. Хоць імя Ліды датуль ні ў адной, з першакрыніц і не сустракаецца, але несумнеўна, што селішча гэта належыць да ліку найстаражытных селішчаў літоўцаў і існавала ўжо ў X ст., г. зн. да таго часу, калі Рускі край не быў яшчэ ў валоданні рускіх князёў. На гэтую акалічнасць паміж іншым паказвае літоўскага паходжанне самой назвы "Ліда", якая азначае ў перакладзе, на рускую мову — лясныя пацярэбкі, пчальнік, наогул мясцовасць, вычышчаную ад росшага на ёй лесу *(Narbutt, Dzieje, V, дадат. I.)*. Несумнеўна таксама, што Ліда яшчэ ў палове XIII ст. уяўляла собою ўмацаваны пункт, бо Іпацеўскі летапіс пры апісанні княжання Войшалка згадвае, што ён пры дапамозе Шварна і Васілька ***"имал городы в Литве и в Налщанох"*** *(Карамзін, IV, заўв. 142)*.

Неаднаразовыя з'яўленні рускіх князёў і татараў на левым узбярэжжы верхняй плыні р. Нёмана і жаданне забяспечыць ад нападаў іх межы ўласнай Літвы і новай літоўскай сталіцы *Вільні*, прымусілі Гедзіміна збудаваць у Лідзе, на месцы старога драўлянага ўмацавання, новы замак. Пішуць, што аснова новага Лідскага замка было закладзена Гедзімінам у 1323 *г.*, а пабудова яго цягнулася некалькі гадоў, пры чым замак будавалі палонныя *валынцы*, пад кіраўніцтвам выпісаных з Кіева майстроў *(Narbutt, Dzieje, V, дадат. I.)*.

Гедзімін, незадоўга да сваёй смерці, размяркоўваючы ўдзелы паміж сваімі сынамі, Лідскі замак з цягнуўшайся да яго воласцю, у якасці трокскага прыгарада, аддаў Кейстуту *(Stryjkowski. I. 381)*. У 1346 г. Лідская воласць была саступленая Кейстутам брату свайму Альгерду, які каля 1370 г. аддаў яе ў трыманне свайму прыдворнаму ўлюбёнцу і разам з тым чалавеку нізкага паходжання нейкаму Вайдылу. Летапіс Быхаўца *(стар. 23)* распавядае, што ***«некто пан был холоп у великого князя Ольгерда, паробок невольны, звали его Войдылом, первие был пекарь, потом уставил его постелю слати и воду давати себе пити, а***



Городъ Лида и Лидскій замокъ.

(Историческій очеркъ).

*Старонка "Віленскага каляндара" з нарысам М. Шымялевіча*

***потом и вельми полюбился ему и дал был ему Лиду держати и повел был его у доброе».*** Па смерці Альгерда, Вайдыла ўзвысіўся яшчэ больш: дзякуючы свайму розуму і хітрасці, ён здолеў падпарадкаваць сабе слабахарактарнага Ягайлу і пачаў аказваць уплывы на дзяржаўныя справы; Ягайла ж дараваў Вайдылу баярскую годнасць і выдаў за яго замуж сваю родную сястру Марыю. Апошні ўчынак Ягайлы моцна абразіў самалюбства дзядзькі яго, старога Кейстута, які адкрыта пачаў дакараць сваю радню за сувязь яе з чалавекам нізкага паходжання, Вайдыла ж пачаў помсціць за гэта Кейстуту. Узаемная варожасць скончылася тым, што Кейстут, празнаўшы аб заключаным супраць яго саюзе паміж Ягайлам і крыжакамі, раптам напаў на Вільню, схапіў Ягайлу, а сябе абвясціў вялікім князем. Князь ноўгарад-северскі Зміцер Карыбут, родны брат Ягайлы, заступіўся за апошняга і пачаў пагражаць Кейстуту. Кейстут выступіў супраць Карыбута і па дарозе ў яго ўдзел напаў на Дуброўню, за 5 вёрст ад Ліды, схапіў тут Вайдылу і загадаў яго павесіць у 1381 г. *(Danilowicz. Skarbiec Diplomotow. I. № 477, заўв. 8 )*.

Аднак і Кейстут не доўга сядзеў на вялікакняскім пасадзе. У 1383 г. Ягайла пад падставай прымірэння прывабіў яго да сабе, затрымаў і адправіў у Крэўскі замак, у падзямеллі якога няшчасны стары быў

задушаны. Такая ж доля пагражала і Вітаўту, але ён паспеў збегчы да нямецкіх рыцараў, з якімі на працягу некалькіх гадоў трывожыў Літву.

Са смерцю Вайдылы Лідская воласць перайшла ў валоданне Ягайлы, які ў граматах тытулаваў сябе князем віцебскім, крэўскім, лідскім *(Balinski. Starozytna Polska. III. 253).*

У той час Лідская воласць займала сабой толькі малаважную паўднёва-ўсходнюю частка цяперашняга Лідскага павету, менавіта, тыя самыя землі, з якіх у XV-XVI ст. быў складзены Лідскі павет. З аднаго боку яна р.р. Жыжмай і Гаўяй адлучалася ад воласці Віленскага прыгарада Ашмяны, а з іншага боку цераз р. Дзітву межавала з Трокскім княствам *(М. Любавский. Областное дел. и местное управл. Лит.-Рус. Госуд.).*

У 1391 г. Ягайла аддаў Ліду Зміцеру Карыбуту, а ў студзені месяцы, наступнага года, моцны аддзел нямецкіх рыцараў у шэрагах якога знаходзіўся і сам Вітаўт, пярайшоўшы па лёдзе каля м. Аліты р. Нёман, нечакана з'явіўся ля сценаў Лідскага замка, спаліў прылеглую да яго частку горада і запатрабаваў здачы яго Вітаўту. Застрашаны першымі дзеяннямі рыцараў, Зміцер Карыбут у глухую поўнач спешна выступіў са ўсім сваім аддзелам з замка, пакідаючы яго без бою Вітаўту, і накіраваўся ў Навагрaдак. Пішуць, што крыжакі вывезлі тады адгэтуль вялікія запасы зброі, правіянту і г.д. Атрымаўшы такім чынам у сваё валоданне Лідскі замак, Вітаўт у хуткім часе зноўку перабудаваў яго і зрабіў з яго адно з наймацнейшых умацаванняў на Літве *(Narbutt, V. 245, Balinski, III, 253.).*

4 жніўня 1392 г. у маён. Востраў, каля г. Ліды, паміж Вітаўтам і Ягайлам, былі падпісаныя ўмовы вечнага міру, пры чым Лідская воласць засталася ў валоданні Вітаўта. Гэтая апошняя акалічнасць паслужыла нагодай да новай міжусобнай вайны. Карыбут запатрабаваў у Вітаўта вартання Ліды, але атрымаўшы адмову, у пачатку восені 1392 г. сабраў значнае наёмнае войска і выступіў з ім супраць Вітаўта. Вітаўт не дапусціў Карыбута да сценаў Лідскага замка і сустрэў яго на беразе р. Нёман. Ля в. Дакудава адбылася кароткая, але гарачая бітва. Карыбут не выстаяў і адступіў да Наваградка, але і тут ён абараніцца не сумеў, быў пабіты, захоплены ў палон і са ўсім сваім сямействам адасланы да Ягайлы ў Польшчу *(Летапіс Быхаўца, 33; Stryjkowski, II, 101).*

У 1397 г. Вітаўт аддаў Лідскую воласць у валоданне ўцякачу пад яго заступніцтва хану, некалі грознай Залатой Арды, Тахтамышу. Тахтамыш два з лішнім гады пражыў у г. Лідзе ў адмысловым доме, што стаяў на тым месцы, дзе цяпер размешчаныя хаты плябаніі р.-каталіцкага касцёла. Мясцовасць гэтая доўгі час насіла назву Тахтамышава двара *(Живописная Россия, изд. Вольфа, III, ч. II).*

Планы Вітаўта аб узвядзенні на пасад Залатой Арды Тахтамыша і аб заваёве Масквы і ўсёй Русі разбіліся на р. Ворскле. Аднак Вітаўт не ўпаў духам і ў 1405 г. захапіў Смаленск. Князь Юрый Святаслававіч Смаленскі пакінуў жонку і дзяцей у горадзе, уцёк у Маскву. Вітаўт узяў у палон княжае сямейства і разам з баярамі адправіў яго ў Літву дзе пасяліў у Лідскім замку. Па сведчанні запісак плябана Лідскага касцёла кс. Стогнева, складзеных каля 1450 г. кн. Юрый Святаслававіч, жадаючы вызваліць сваё сямейства з палону 5 жніўня 1406 г. са значным узброеным аддзелам падступіў да Ліды, спаліў горад і пачаў рабіць прыступы да замка, але лідскі староста Якуб з Селіцы адбіў прыступы Юрыя і прымусіў апошняга адступіць па дарозе на Вільню *(Narbutt, V, дадат. I; Balinski, III, 254).*

У 1422 г. Лідзе прыйшлося быць сведкай пышнага вясельнага балю. У лютым гэтага года ў г. Наваградку адбыўся чацвёрты шлюб састарэлага польскага караля Ўладзіслава Ягайлы з князёўнай кіеўскай Сафіяй, а святкаванне вяселля, па запрашэнні гасціннага Вітаўта, было прызначана ў г. Лідзе. Сюды сабралася мноства гасцей, у ліку якіх быў нунцый папы Марціна V Антоній Зена, прыбылы ў Літву для расследавання спрэчак з Ордэнам. Вітаўт наогул любіў паказаць бляск свайго двара і сваю проста казачную гасціннасць. Досыць успомніць прыёмы гасцей Вітаўтам у Луцку і Троках, каб меркаваць аб тым, да якіх памераў яго гасціннасць даходзіла. Вясёлыя баляванні ў Лідзе працягваліся да вялікага паста і доўга дастаўлялі матэрыял для аповядаў аб праяўленай тут пышнасці *(Balinski, III, 254; "Кругозор", 1876, № 22).*

Па смерці Вітаўта вялікім князем Літоўскім быў абвешчаны Свідрыгайла, родны брат Ягайлы. Свідрыгайла, жадаючы разарваць усякую сувязь паміж Літвой і Польшчай, неадкладна падняў вайну супраць Ягайлы, з-за чаго і быў пазбаўлены вялікага княжання, а літоўскі пасад заняў па абранні малодшы брат Вітаўта Жыгімонт. Паміж Свідрыгайлам і Жыгімонтам завязалася вайна. Жыгімонт сваімі войскамі заняў некаторыя літоўскія гарады, а тым ліку і Ліду. У жніўні месяцы 1433 г. Свідрыгайла зрушыўся адбіраць гарады, занятыя Жыгімонтам. Атрад Свідрыгайлы, які складаўся з цвярскога палка, татараў і літоўскага апалчэння з Ашмяны, падступіў да Ліды. Залога Жыгімонта, якая бараніла Лідскі замак, нягледзячы на энергічныя дзеянні Свідрыгайлы, замка не здала, і Свідрыгайла абмежаваўся толькі тым, што спаліў дашчэнту ўвесь горад і адступіў да Трокаў *(Stryjkowski, II, 189; Narbutt, V, дадат. I; VII, 350).*

Вайна працягвалася яшчэ некалькі гадоў і скончылася тым, што Свідрыгайла ўцёк у Малдавію, а Жыгімонт пачаў кіраваць дзяржавай. Пасля забойства Жыгімонта адна з партый жадала ўзвесці на літоўскі пасад сына яго Міхаіла, але не гледзячы на тое, што ў руках апошняга былі такія важныя ў вайсковых адносінах пункты як Ліда і інш., яму авалодаць пасадам не ўдалося, бо пасад гэты мацнейшай партыяй быў прадстаўлены сыну Ўладзіслава Ягайлы Казіміру.

У той час лідскім старастам быў сын або ўнук Тахтамыша, апошняя галіна знакамітага роду Чынгізхана Даўлет Хаджы-Гірэй. Падчас вайны Свідрыгайлы з Жыгімонтам ён аказаў апошняму нейкую паслугу і за тое атрымаў у трыманне Лідскую воласць, а затым, па абвяшчэнні вялікім князем Казіміра, Хаджы-Гірэй беспярэчна здаў апошняму Лідскі замак, дзякуючы чаму быў пакінуты тут старастам і на дальшы час *(Narbutt. VIII 10, 18, 53).*

У 1445 г. перакопскія татары прасілі вялікага князя Казіміра даць ім хана, пры чым паказвалі на Хаджы-Гірэя, як на нашчадка знакамітых сваіх правадыроў, цалкам годнага заняць гэтае месца. Казіміру прадставіўся выпадак узгадаць веліч і бляск Вітаўтавага двара. У 1446 г. лідскі староста быў выкліканы ў Вільню і тут па старадаўнім звычаі, у прысутнасці татарскіх паслоў і мноства саноўнікаў, урачыста апрануты ў ханскую мантыю і абвешчаны ханам Перакопскай арды *(Летапіс Быхаўца, 56; Srtyjkowski, II, 212-213)*.

Пасля Хаджы-Гірэя Лідская воласць або аддавалася ў карыстанне розным асобам за заслугі або ж кіравалася намеснікамі Вялікага князя. Ды пачатку XVI ст. Лідскімі дзяржаўцамі і намеснікамі былі: Пац, Ян Кучукавіч, Станіслаў Петрашкавіч і Глеб Сапега. У 1503 г. воласць гэтая была аддадзеная ў трыманне пану Крыштафу Ільінічу, але ў наступным годзе кароль Аляксандр Казіміравіч, па пратэкцыі князя Міхаіла Глінскага, які меў у той час велічэзнае значэнне пры двары, пазбавіў яго гэтага трымання і аддаў яго пану Андрэю Аляксандравічу Драздў. Пакрыўджаны Ільініч, на распараджэнне караля занёс скаргу да паноў-рады В. Кн. Літоўскага. Скарга Ільініча атрымала падтрымку з боку паноў-рады, якія пастанавілі нагадаць каралю аб тым, што ён не мае права без суда пазбаўляць каго-небудзь пажыццёвай пасады, а надалей да канца справы прыпынілі ўвод Дразда ў валоданне Лідскай воласцю. Але Аляксандр Казіміравіч пад уплывам Глінскага, з абурэннем паставіўся да такога рашэння рады і некаторых з яе чальцоў пазбавіў нават пасад, а Ільініча, як непаслухмянага каралеўскай волі, загадаў узяць пад варту. Такі нечаканы абарот справы збянтэжыў усю літоўскую арыстакратыю. На Радамскім сойме 1506 г. на караля з усіх бакоў пасыпаліся папрокі, але разчэй за іншых асуджаў яго ўчынак Віленскі біскуп Табар. Ён публічна перад каралём вымавіў з гэтай нагоды прамову, якую скончыў праклёнам. Пішуць, што пры апошніх словах біскупа кароль зваліўся, уражаны паралічом *(Летапіс Быхаўца:* ***«и скоро то бискуп вымовил на тых месте короля забила немоц паралитыкова ...»****, стар. 75)*.

Аляксандр Казіміравіч небяспечна захварэў. Карыстаючыся яго хваробай татары здзейснілі страшнае нашэсце на Літву. У чэрвені месяцы 1506 г. пяцідзесяцітысячная татарская арда пад правадырствам Біці-Гірэя і Бурнаш-Салтана, пераправілася цераз р. Прыпяць, разрабавала Мазыр і Слуцк і спынілася галоўным кошам пры Клецку. Вестка аб татарскім нашэсці была атрымана ў Вільні толькі тады, калі перадавыя татарскія аддзелы з’явіліся на берагах р. Нёмана. Хворы кароль з-за небяспекі, якая пагражала, абвясціў паспалітае рушэнне, г.зн. пагалоўнае ўзбраенне шляхты на абарону Айчыны. Месцам збору апалчэння была прызначаная Ліда, а галоўнае начальства над апалчэннем уручанае князю Міхаілу Глінскаму. Але апалчэнне, не гледзячы на блізкасць небяспекі, збіралася занадта марудна. Нарэшце ў Лідзе сабралася 3 т. чалавек, але і тыя не жадалі выступаць супраць непрыяцеля пад начальствам нялюбага князя Глінскага і бесцырымонна патрабавалі, каб на чале апалчэння стаў сам кароль. Цалкам хворы Аляксандр Казіміравіч быў змушаны прыбыць у Ліду. Яго суправаджала несуцешная жонка Алена Іванаўна, канцлер Ласкі і некалькі іншых прыбліжаных да караля асоб, у тым ліку віленскі біскуп Табар.

Тым часам татары паспелі пераправіцца на правы бераг р. Нёмана і пачалі рабаваць і паліць селішчы ў паўднёвых воласцях Трокскага ваяводства - Беліцу, Жалудок і інш. Па прыбыцці караля ў Ліду, збор апалчэння павялічыўся на 4 т. чалавек, але кіраваць імі кароль ужо не мог: ён цалкам пазбавіўся сіл і пачаў рыхтавацца да смерці. 24 ліпеня 1506 г. у покоях Лідскага замка Аляксандр Казіміравіч паспавядаўся, прычасціўся св. таямніц і падпісаў духоўны тастамант.

Між тым татары, ніколькі не апасаючыся блізасці літоўскай шляхты, ужо руйнавалі наваколлі Ліды. ***«И скоро прошли за Неман,*** - гаворыць летапіс Быхаўца (стар. 76) , ***и не доходячи Лиды, около города, от всех сторон в мили и полумили от города, воевали церкви Божие, и дворы великие, и веси зажигали, и людей имали и забивали».*** Адзін з высланых у наваколлі горада раз’ездаў, за 7 вёр. ад Ліды сустрэў на рабаванні натоўп татараў, разбіў яго і ў знак перамогі прынёс у горад на дзідах дзесяць татарскіх галоваў.

Вестка аб блізкасці татараў уразіла ўсіх, але асабліва асоб, што атачалі караля, якога было вырашана перавезці ў сталіцу. Аляксандра Казіміравіча, які паміраў, паклалі ў насілкі, прывешаныя паміж двух коней, і ў суправаджэнні двара і невялікага ахоўнага атрада, ранняй раніцай 27 ліпеня 1506 г. вывезлі з Ліды ў Вільню.

Услед за выездам караля апалчэнне, на чале з князем Глінскім і намеснікам гетмана Станіславам Кішкам, выступіла з Ліды супраць татараў. У крывапралітнай бітве ля Клецка татары былі пабітыя на галаву. Радасная вестка аб перамозе заспела Аляксандра яшчэ ў жывых; ён не мог ужо гаварыць, але толькі мігамі выяўляў сваю радасць і падзяку Богу. Аляксандр памёр у ноч на 20 жніўня 1506 г. *(Летапіс Быхаўца, 75-78; Stryjkowski, II, 329-338)*.

Горад Ліда да часоў Жыгімонта-Аўгуста ўяўляў сабой толькі цэнтр вялікакняскай воласці, а ў 1413 г. адмысловага вайсковага павету або так званага харужаства. У 1586 г. на вальным Віленскім сойме адбылася пастанова аб далучэнні да прысуду Лідскага павету Эйшышскага, Радуньскага, Каняўскага, Дубічскага, Васілішскага і Астрынскага харужастваў, якія знаходзіліся да таго часу пад прысудам Трокскага павета і ваяводства *(Дакументы Маскоўскага Архіва Мін. Юст., I, 486)*. Такім чынам, Ліда атрымала значэнне судовага і адміністрацыйнага цэнтра больш шырокай акругі, што значна паўплывала на яе рост і дабрабыт. Горад гэты ў той час яшчэ не карыстаўся правам самакіравання і нароўні з іншымі селішчамі лічыўся ў складзе Лідскай воласці і адпраўляў службу пры Лідскім двары.

Лідская вялікакняская воласць якая звалася ў найпозні час староствам, першапачаткова абдымала сабой усе землі і селішчы, з іх людзьмі і прыбыткамі, размешчаныя паміж р. Жыжмой, Гаўяй, Нёманам, Дзітвой. Воласць гэтая, якая налічвала ў часы Вайдылы да 4 тысяч сялянскіх двароў *(Narbutt, VIII, Dzieje skrocone, 188)*, з плынню часу з прычыны выдзялення

ў прыватную ўласнасць нерухомых маёмасцяў, паступова памяншалася. Несумнеўна, што са складу Лідскай валасці першым быў вылучаны двор Дуброўня з належнымі да яго селішчамі, запісаны Ўладзіславам Ягайлам 17 лютага 1387 г. у карысць кафедры Віленскіх р.-каталіцкіх біскупаў *(Danilowicz, I, № 538)*. Відавочна, што каля таго ж часу вылучыўся ў прыватную ўласнасць другі двор Дакудава, які належыць у XV ст. Кучукам, а ў 1506 г. перайшоў да пана Пятра Аляхновіча Давойнавіча. Трэці двор Жыжма ўжо ў XV ст. складае родавую ўласнасць князёў Жыжамскіх, пасля ўцёкаў якіх у Маскву, у 1551 г. ён перайшоў ва ўласнасць п. Войцаха Ясінскага. У 1504 г. кароль Аляксандр Казіміравіч выдаў пану Мікалаю Пятровічу Кішку прывілей на сяло Палуднікі і двор Крыняны. Дворышчы ўжо ў 1524 г. належалі ў якасці прыватнай уласнасці пану Юрыю Ільінічу, якому кароль Жыгімонт у 1525 г. пацвердзіў куплю маёнтка Прыдыбайлаўскага і іншых зямель, і землі, і выслугі. Па каралеўскіх жа прывілеях адышлі ў прыватную ўласнасць маёнткі - Лайкаўшчына да Моцарскага ў 1564 г. Лаўчылавічы да Гарачкоўскага ў 1579 г. і інш. Акрамя гэтага, у XVI ст. згадваюцца яшчэ наступныя маёнткі, размешчаныя ў б. Лідскай валасці, і якія складалі ўласнасць ужо прыватных асоб: Бердаўка - Бердаўскіх, Заполле - Яленскага, а з 1550 г. Юршы Пятровіча, Перапечыцы - Перапечаў, Курасоўшчына - Навіцкіх, Качанова - луцкага біскупа Яна Андрошавіча, Нешчыкоўшчына (Чанатораўскае) пана Яські Няшыйкі, Вялікі Ольжаў - паноў Кішкаў і Малы Ольжаў - пані Раклёвай (Звесткі гэтыя ўзятыя з алфавітнага пераліку актаў Літоўскай метрыкі, складзенага Коркуцем у канцы 18 ст. і занесенага ў кнігі Лідскага земскага суда ў 1785 г. *(Вілен. Цэнтр. Арх., № 5664. арк. 208 і наст.)*. Астатняя малаважная частка б. Лідскай валасці, пакінутая ў дзяржаўнай уласнасці, у пачатку XVIII ст. складалася з наступных маёнткаў: Ліды, Кульбакі, Гарнёў, Цыбараў і Пурсцяў *( Volumina Legum, VI, 365, дыспазіцыя 1717 г.)*. Па інвентары 1680 г. у складзе Лідскага староства лічыліся: горад Ліда і вёскі: Гарні, якія знаходзяцца ў пажыццёвым карыстанні ў палкоўніка Давыда Ярдана, Астроўля, Цыбары і Боркі *( Вілен. Цэнтр. Арх. № 5664, арк. 924-931.)*.

Па сведчанні дакументаў XVII ст. г. Ліда ў старажытнасці складаўся з наступных частак: замка, двара, уласна горада, прадмесця яго Зарэчча. Замак, як відаць з яго развалін, што захаваліся дагэтуль, быў размешчаны на прыродным узвышшы, да 4 саж. вышыні акружанай з трох бакоў вадою р. Ліды і раўчука Каменкі, а з чацвёртага боку - глыбокім ровам, цераз які быў перакінуты пад'ёмны мост. Сцены замка, пабудаваныя ў квадрат, мелі па 35 саж. у даўжыню, да 5 саж. у вышыню і 1 саж. у таўшчыню. Унутраны пляц замка займалі драўляныя пабудовы *(П.Д. Брянцев, 130)*. Замак па інвентарах складаў дзяржаўную ўласнасць, падтрымліваўся і ахоўваўся мясцовай шляхтай і служыў для розных мэт, а менавіта: сховішчам для навакольных жыхароў пры з'яўленні непрыяцеля, складам зброі, месцам для паседжання судоў і збору павятовых соймікаў, турмой і да т.п. У 1568 г. лідская шляхта прасіла караля Жыгімонта Аўгуста ***«абы суды земские в оном повете Лидском отправованы были в замку, а не по корчмам на месте»*** *(Докум.-Моск. Арх. М.Ю., I, 490.)*. Кароль задаволіў гэтую просьбу паводле Статуту і з тых часоў да найпозняга часу паседжанні земскага суда адбываліся ў замку. Яшчэ ў канцы XVIII ст. у развалінах адной з вежаў замка былі бачныя сляды паседжанняў *(Narbutt, VIII, 477.)*. Для захоўвання кніг Лідскага земскага суда ў 1638 г. было дазволена абсталяваць у замку, пры сцяне, склеп на кошт мясцовых абывацеляў *(Volum. Legum, III, 962.)*. Тут актавыя кнігі захоўваліся да часоў Станіслава-Аўгуста *(Balinski. III, 256.)*. Турма змяшчалася ў сутарэнным паверсе паўночна.-усход. вежы. Сляды турмы бачныя тут да цяперашняга часу. На існаванне замкавай турмы яшчэ ў пачатку XVII ст. паказвае, між іншым, прысуд Лідскага гарадскога суда ад 8 студзеня 1607 г., якім пан Шчасны Рэксць быў абавязаны ***«за примовку и налаяне пану Езеашу Сумороковичу тут в замку выконать»*** *(Прыват. дакум. у аўтара.)*.

Двор або замкавы фальварак яшчэ ў XVII ст. быў размешчаны за замкам над раўчуком Каменкай, г.зн. на тым самым месцы, дзе да апошняга часу размяшчалася казённая Лідская ферма. Інвентар 1680 г. згадвае млын, які належаў да Лідскага замкавага фальфарка і размешчаны на р. Лідзе.

Сам горад быў размешчаны толькі ў адзін бок ад замка. Па асобных актах XVII ст. горад меў рынак і каля яго школьны двор, а таксама чатыры вуліцы. Вуліца, якая выходзіла на дарогу ў Вільню, звалася Віленскаю. Другая вуліца, якая ішла ад рынка міма замка звалася Замкаваю. Трэцяя вуліца, якая пачыналася ад Замкавай, і выходзіла на дарогу ў м. Васілішкі і Астрыну, ад імя раўчука Каменкі звалася Каменскаю. Чацвёртая Крывая вуліца, злучала рынак з Каменскай вуліцай. Працяг Крывой вуліцы ад Каменскай да замка, уладкованы ў пачатку мінулага стагоддзя, зваўся да найноўшага часу Нова-Кармеліцкай вуліцай *(Прыватн. дакум. у аўтара.)*.

Уся зямля, цяпер занятая горадам, першапачаткова складала ўласнасць вялікага князя і належала да Лідскага замкавага двара або фальфарка; але пачынаючы з XVI ст. некаторыя часткі гэтага абшару пераходзяць у прыватную ўласнасць. Так напрыклад, у 1566 г. Павел Рошчым атрымаў ад караля Жыгімонта-Аўгуста прывілей на два пляцы ў Лідзе, у 1589 г. Аляхновічу было дадзена пацверджанне на куплю ім таксама двух пляцаў у Лідзе, у 1591 г. Рафаіл Алешыс Згірскі атрымаў прывілей на адзін пляц і г.д. *( Narbutt, V, дадат. I; Balinski, III, 254 )*. Раздача пляцаў адбывалася і ў больш позні час, так напрыклад, да 1785 г. кароль Станіслаў Аўгуст выдаў прывілей Паўлу і Ганне Канапніцкім на пляц па Замкавай вуліцы, а ў 1787 г. Яну Ромеру там жа на ленным праве *(Вілен. Цэнтр. Арх. № 164, л. 166-168; № 6152, л. 53.)*. Такім чынам у горадзе ўтварыліся цэлыя асобныя кварталы, якія належалі ў XVII-XVIII ст. Куроўскім, Францкевічам, Радзімінскім, Калясінскім і інш., якія аддававаліся імі габрэям і мяшчанам на правах вечнага чыншу.

Несумнеўна, што г. Ліда і яго наваколле ў старажытнасці былі заселеныя літоўцамі. Аб гэтым

сведчыць, паміж іншым шматлікія літоўскія назвы жывых урочышчаў і селішчаў у наваколлях г. Ліды, якія захаваліся дагэтуль, а так жа і чыста літоўскія прозвішчы сялян і шляхціцаў, якія згадваюцца па метрычных актах мясцовага р.-к. касцёла з 1660 г. - Клышэйкаў, Авінялей, Вяжалей, Ёдкаў, Рупейкаў, Дамейкаў і мн. інш. Акрамя таго ў запісах зямельных раздач караля Казіміра якія адносяцца да Лідскай воласці, на абшары якой у цяперашні час не маецца ні аднаго літоўскага селішча, параўнальна часта сустракаюцца літоўскія імёны. Напрыклад: ***«У Лидской волости. Милковичу три чоловека: Ромейко, Лилкус, Нroyкович. Кричеви чотыри чоловеки Тукейнивичи: Войшнар, Сидоря, Войш, Ивахинович. Ивашку Коливидовичу шесть человеков. Митьку избратом Эйтвиловичем - лидяном шесть человеков конокормцов: Ейдьят, Прейбуст, Наруни, Милош, Юльтеневич, Мейлуна, Сидорец, Петлевич. Твирбуту Визкедовичу лидянину Петрелевич люди: Мелешевич, Юкгелис, Янутис»***, і да т.п. *( Докум. Моск. Арх. Мин. Юст., I, 3-4.)*. Нават у некалькі больш позні час мясцовыя шляхціцы насілі літоўскія імёны, не гаворачы ўжо аб літоўскіх прозвішчах іх. Дэкрэт трокскага ваяводы Мікалая Юр'евіча Радзівіла ад 30 снежня 1560 года сведчыць, што сын мясцовага землеўладальніка Ёдкі, які жыў каля 1450 г. зваўся Нарко, а ўнук апошняга Бурца *(Прыватн. дакум. у аўтара)*. Да канца XVII ст. насельніцтва г. Ліды, і яго наваколляў настолькі аслявянілася, што ў інвентары 1680 г. не значыцца амаль ні аднаго літоўскага прозвішча. Мяшчанскія беларускія прозвішчы жыхароў г. Ліды, якія згадваюцца ў гэтым інвентары: Гарневічы, Здановічы, Сідарэвічы, Бараноўскія і інш. існуюць тут дагэтуль.

Карэнныя жыхары г. Ліды ў старажытнасці вызнавалі праваслаўе і р.-каталіцтва.

Па словах Нарбута праваслаўная царква першапачаткова змяшчалася ў адной з вежаў Лідскага замка *(Narbutt, V, дадат. I)*. Царква гэтая ў 1553 г. была перанесеная ў горад і асвечаная ў гонар св. Георгія Пераможца *(Истор.-стат. очерки Виленской губ. (1852), 218.)*.

Другая царква ў Лідзе згадваецца пад 1524 г., а трэцяя царква была пабудаваная тут у 1533 г. *(Батюшков. Белоруссия и Литва, прилож. 276; Balinski,, III, 245.)*. Цэрквы гэтыя ў маркотныя гады царкоўнай уніі былі разбураныя або захопленыя ўніятамі. Не гледзячы, аднак, на прыгнёт у рэлігійным судачыненні, - праваслаўныя жыхары г. Ліды не згубілі цалкам сваёй веры і пры падпісанні каралём Янам Казімірам Збораўскай дамовы ў 1650 г. дабіліся вяртання ім захопленай уніятамі Лідскай царквы св. Спаса. У купчай крэпасці, выдадзенай лідскім мешчанінам Лаўрынам Паўлавічам Казюковічам на пляцы, зямлю і хату, прададзеныя ім Мацею Вайцяховічу і жонцы яго Парасе Фёдараўне 7 красавіка 1630 г., згадваецца Хведар Грынявецкі, святар храмаў Божых, якія стаяць у горадзе Лідзе, у імя Прачыстай і Святога Мікалая *("Chwiedor Hryniewiecki swieszczennik domu Bozego Przyczystey y swietego Mikolaya w Lidzkiem miescie stojacych" )*, пры гэтым ясна паказваецца на месцазнаходжанне Прачысценскай царквы пры апісанні межаў пляца: ***«другим же концом до самой улицы, которая идет из города Лида на Дубровну и Липнишки, идя этою улицей по дороге из г. Лиды от рынка и от замка до Пречистенской церкви по правую руку»*** *(Прыватн. дакум. у аўтара. - Прачысценская царква была размешчаная на тым месцы, дзе цяпер стаіць хатка Каліноўскага на Зарэччы)*.

Пачатак каталіцтва ў г. Лідзе адносіцца да часу княжання Альгерда. У той час адзін з літоўскіх вяльможаў нехта Гаштольд, прыняўшы р.-каталіцкую веру, узяў пад сваё заступніцтва манахаў ордэна св. Францішка, і пабудаваў для іх кляштар ордэна ў г. Вільні. У 1366 г. тры францішканцы пасяліліся ў Лідзе. Невядома, наколькі пачутыя былі пропаведзі лідскіх місіянераў, вядома толькі тое, што ў 1369 г., падчас народнага хвалявання, яны былі перабітыя язычнікамі. Лідская францішканская місія, не гледзячы на неаднаразовыя спусташэнні яе, існавала да паловы XV ст. *(Narbutt, Dzieje, V, заўв. I.)* У папельцавую сераду 1387 г., Уладзіслаў Ягайла, вяртаючыся з Кракава ў Вільню, ў г. Лідзе выдаў першы ўніверсал да ўсіх сваіх цівуноў аб вольнай пабудове р.-каталіцкіх цэркваў *(Szajnocha, Jadwiga i Jagello.)*, а ў пятую нядзелю пасля свята св. Віталіса таго ж года выдаў прывілей на пабудову ў г. Лідзе прыходскога касцёла, які быў асвечаны віленскім біскупам Андрэем Васілам *(Інвентар Лід. каст. 1721 г. рукап.)*

У царства караля Жыгімонта - Аўгуста на Літве, атрымалі самае шырокае распаўсюджванне кальвінізм і лютаранства. Агульны рух да перамены рэлігіі крануў г. Ліду і яго наваколлі. Вучэнне Кальвіна ў гэтай мясцовасці карысталася падтрымкай кн. Радзівілаў, Абрамовічаў і інш., якія былі лідскімі старастамі. У Лідзе, Мацкішках, Дакудаве, Сяльцы, Беліцы, Ляцку і інш. былі збудаваныя зборы кальвіністаў, а Лідскі касцёл па недахопу вернікаў быў нават зачынены і некаторы час знаходзіўся ў непасрэдным кіраванні віленскай капітулы *(Narbutt, Dzieje, V, дадат. I.)*. Распаўсюджванне кальвінізму і лютаранства скончылася са з'яўленнем у гэтай мясцовасці езуітаў, якія на працягу XVI - XVIII ст. заснавалі некалькі місій у межах цяперашняга Лідскага павету, а менавіта: у Тракелях, Дворышчах, Ваверцы, Дылеве, Семякоўшчыне і інш.

Цалкам адасобленую групу насельніцтва г. Ліды ў старажытнасці складалі габрэі. Габрэі пасяліліся ў Лідзе ў другой палове XVI ст. Мясцовая габрэйская грамада першапачаткова была наогул малалікая і ў часы Яна - Казіміра мела толькі 160 чалавек. Грамада гэтая, або так званы кагал, адрознівалася крайняю беднатой, што відаць са звестках аб даўгах яе ранейшага часу. Так напрыклад, у ліку фундушаў Жырмунскага касцёла меўся відэркаф лідскага харунжага і чашніка Канстанціна - Казіміра Кунцэвіча ад 7 ліпеня 1692 г. на 4350 зл. забяспечаны на лідскім кагале. Па іншым відэркафу ад 11 лістапада 1688 г. прадстаўнікі мясцовага кагала пазычылі ў лідскага дэкана Відыноўскага 500 зл. і да 1707 г. не маглі нават выплаціць 6% ад гэтай сумы. На права пабудовы габрэйскай сінагогі ў Лідзе кароль Стэфан Баторы выдаў лідскім габрэям новы прывілей, якім дазвалялася ім папраўіць старую сінагогу з той

аднак умовай, каб яна не перавышала касцёла і царквы *(Віл. Цэнтр. Арх., № 5405, арк. 505-506.)*.

Г. Ліда ў старажытнасці ўяўляў сабой чыста землеўладальніцкае селішча. Як відаць з замены грунтоў яго з маёнт. Заліды лідскія мяшчане яшчэ ў 1553 г. карысталіся нададзенымі ім валокамі зямлі *( Ibid., № 5661, л. 403.)*. Найпознія інвентары сведчаць, што з кожнай валокі мяшчане ўносілі ў прыбытак замкавага фальфарка па 2 зл. і 5 гр. чыншу штогод, а з ворных моргаў па 5 гр. і сенакосных толькі 2 гр. Плата гэтая штогод збіралася бурмістрам і лаўнікамі і дастаўлялася ў фальварак у дзень св. Марціна. Акрамя таго мяшчане былі абавязаныя штогод адбыць тры талакі для жніва хлеба і на кожнае запатрабаванне сыпаць грэблі, латаць дарогі, масты і да т.п. Інвентар 1680 г. згадвае, што ўсе гэтыя павіннасці былі вызначаны прывілеямі польскіх каралёў; нажаль ні адзін з гэтых дакументаў не захаваўся да гэтага часу. З таго ж інвентара відаць, што ў карыстанні кожнага мяшчанскага двара было ў большасці выпадкаў па 1/4 - 1/6 валокі, пры гэтым у ліку асоб, якія карысталіся валокамі, згадваюцца два габрэі Моўша і Абрам.

Прамысловасць і гандаль у Лідзе былі развітыя слаба. У дакументах XVII ст. у Лідзе згадваюцца толькі бровары, якія размяшчаліся пры замкавых фальварках, у касцёльным фальварку Куроўшчыне або Навасёлках і ў некаторых мяшчан; з рамеснікаў згадваюцца толькі кавалі і гарбары, а ў таксама рэзнікі. Корчмы мядовыя, гарэлачныя і піўныя існавалі тут яшчэ ў XV ст., у часы Казіміра. У 1680 г. усіх корчмаў у Лідзе было 19, з якіх 10 утрымоўвалася хрысціянамі, у тым ліку адна бурмістрам панам Янам Амановічам і 9 - габрэямі. Штотыдзень па панядзелках адбываўся гандаль, а два разы ў год - кірмашы. Кірмашы існавалі тут здаўна і былі пацверджаныя соймам у 1611 г. *( Volum. Led. III, 44.)*.

Ва ўсякім разе, Ліда ў часы Яна Казіміра лічылася параўнальна лепшым горадам, мела 15 тысяч жыхароў і карысталася Магдэбургскім правам.

Але наступілі цяжкія для Літвы 1654 - 1663 г.г.

У 1655 г. рускія войскі спустошылі Ліду і яе ваколлі. У 1656 і 1657 г. мясцовасць гэтую наведаў неўраджай, а ўвосень таго ж года ў Лідзе з’явілася маравая язва, якая не перапынялася да зімы наступнага года. Усе судовыя і адміністрацыйныя ўстановы былі зачыненыя. Дзякуючы ўсеагульнаму замяшанню ў Лідскім павеце з’явілася маса вандроўнага люду: вакол адбываліся рабаванні, забойствы, наезды на чужыя маёнткі і да т.п. Для прыняцця мер да спынення беспарадкаў на 2 лютага 1658 г. быў скліканы соймік шляхты Лідскага павету, але паседжанні сойміка не маглі быць адкрытыя ў Лідзе, бо тут лютавала зараза і былі перанесеныя ў м. Мыто. Соймік устанавіў парадак вядзення спраў па вышэйадзначаных злачынствах і вызначыў за іх самыя строгія меры пакарання *(Акты Віл. Арх. Кам., XIII, 99-100.)*.

Між тым прыпыненыя на некаторы час ваенныя дзеянні са боку Расіі былі ізноў адноўленыя. Улетку 1659 г. князь Мікіта Хаванскі, рухаючыся з 30-ці тысячным атрадам з Вільні ў Гародню, падступіў да Ліды. Лідскі замак, не гледзячы на адчайную абарону, быў узяты, а горад разрабаваны і спалены *(Balinski, III, 256.)*. Ліда прыйшла ў поўны заняпад. Быўшы цалкам спустошаным, горад не мог уносіць у скарб нават самыя малаважныя плацяжы. З увагі на гэта на сойме 1676 г. была выдадзеная адмысловая канстытуцыя, якой Ліда на чатыры года вызвалялася ад усіх грашовых і натуральных павіннасцяў, пастою войскаў, пастаўкі коней для перавозкі пошты і да т.п. *(Volut. Leg., V, 443.)*.

Але бедствы Ліды працягваліся.

Уначы 29 чэрвеня 1679 г. у горадзе ад невядомай прычыны ўспыхнуў пажар. Дзякуючы сухому надвор’ю і моцнаму ветру агонь з неверагоднай хуткасцю распаўсюдзіўся па ўсім горадзе. На працягу адной гадзіны пажар знішчыў 38 мяшчанскіх і габрэйскіх хат, з якіх аплачваліся падаткі ў скарб, не лічачы хат манастырскіх і шляхецкіх. Многія хрысціяне і габрэі згарэлі жывымі, а многія атрымалі цяжкія апёкі. Увесь хатні скарб, быдла і да т.п. зрабіліся здабычаю полымя *(Вілен. Цэнтр. Арх., № 5401, арк. 667.)*.

У 1702 г. адзін з атрадаў шведскіх войскаў разрабаваў і спаліў частку горада і падарваў замкавыя вежы. У Лідзе была пакінута шведская залога, а ўтрыманне яе ўскладзена на жыхароў. У 1706 г. шведы другасна разрабавалі горад і яго ваколлі, а затым тое самае паўтарылі і ў 1708 г., рухаючыся з Гародні цераз Ліду па Івейскім гасцінцы, пад начальствам самога караля Карла XII. Услед за адходам шведаў паўтарыліся знаёмыя для Ліды карціны голаду, язвы, галечы...

Сойм 1717 г. з увагі на бядотнае становішча горада, пацвердзіў канстытуцыю 1676 г. і дэкрэты Скарбовага Трыбунала, якімі былі прадстаўленыя Лідзе правы і вольнасці *(Вілен. Цэнтр. Арх., № 5401, арк.677.)*. Канстытуцыя 1776 г. пакінула Лідзе, у ліку нямногіх іншых гарадоў, Магдэбурскае права назаўжды, а кароль Станіслаў - Аўгуст прывілеем 1788 г. дараваў гораду пляц зямлі для пабудовы на ім ратушы *(Вілен. Цэнтр. Арх., № 5668, арк. 1140.)*.

Яшчэ ў 1772 г. Ліда была занятая рускімі войскамі пад начальствам генерала графа Татлебена, які універсалам ад 20 студзеня 1773 г. прасіў жыхароў Лідскага павету прыняць на сябе пастаўку забеспячэння для салдат і на гэты ўніверсал атрымаў згоду ад 15 лютага таго ж года *(Ibid., № 5659, л. 446-449.)*.

Пасля вядомай віленскай ютрані 10 красавіка 1794 г. палкоўнік польскіх войскаў інжынер Ясінскі, разам з графам Несялоўскім, сабраў значную частку паўсталых войскаў маючы пры сабе 18 гармат, выступіў з Вільні і размясціўся лагерам ля г. Ліды, пагражаючы рускім войскам, якія стаялі ў Гародні пад начальствам князя Ціцыянава і ў Нясвіжы пад начальствам генерала Туталміна; але ўлетку таго ж года польскія войскі былі пабітыя ля г. Ліды, а сам горад заняты канчаткова рускімі войскамі. Пры гэтым Лідскі замак быў разбураны, а старажытны архіў, які захоўваўся ў ім, быў вывезены войскамі ў Смаленск, дзе згарэў у 1812 г. *(Арх. Вілен. Ген.-Губ., I, 893. У метрычных актах Лід. касц. за 1794 г. захавалася адзнака аб тым, што ўсе забітыя падчас аблогі рускімі войскамі г. Ліды, пахаваныя ў горадзе, у касцельнай агароджы.)*.

14 снежня 1795 г. Ліда была далучаная да Расіі, а

8 жніўня 1796 г. прызначаная павятовым горадам Слонімскай губерні.

У 1797 г. праездам з Слоніма ў Вільню, Ліду наведаў Імператар Павел Пятровіч.

Падчас вайны 1812 г. у Лідзе быў размешчаны 6 корпус рускіх войскаў пад камандаю генерала Дохтурава. У траўні месяцы таго ж года Ліду наведаў Імператар Аляксандр Паўлавіч і правёў тут агляд войскаў. Пасля адкрыцця ваенных дзеянняў корпус Дохтурава адступіў да Гальшан, а ўслед за ім, праз Ліду, надыходзіў 8 корпус французкага войска пад камандаю Вандома. У канцы лістапада, з прычыны адступлення французаў, Ліда і Лідскі павет былі занятыя карпусамі графа Ажароўскага, Васільчыкава і Давыдава.

Апошняй ваеннай падзеяй для г. Ліды была малаважная бітва 23 траўня 1831 г. Руская залога ў ліку 400 чал. якая займала Ліду, атрымаўшы звесткі аб руху генерала Хлапоўскага з Мастоў у Вільню, спешна выступіла з горада, але зараз жа за віленскай заставай была нагнаны польскімі войскамі і пасля перастрэлкі абяззброена.

У траўні месяцы 1843 г. пажар, распачаты з габрэйскай лазні, знішчыў увесь школьны двор, частку дамоў базарнай плошчы і ўсю Віленскую вуліцу. Другі пажар, апошняя падзея ў жыцці Ліды, які адбыўся ў ноч на 7 кастрычніка 1891 г., цалкам знішчыў усю цэнтральную частку горада; пры гэтым згарэла 400 жылых дамоў і да 600 халодых пабудоў.

Пажары і войны цалкам згладзілі старадаўнія характэрныя рысы Ліды. З старажытных пабудоў у г. Лідзе захавалася толькі некалькі, а менавіта - разваліны замка, будынкі па-кармеліцкага і па-піярскага кляштараў і касцёл.

Сцены замка цалкам пустыя і разбураныя, за выключэннем паўднёвай, якая сяк-так захавалася ў сваім першапачатковым выглядзе. Кармеліцкі кляштар заснаваны лідскім войскім Адамам Нарбутам і яго жонкай Елісаветай у 1672 г. і зачынены ў 1832 г. Піярскі калегіюм быў перанесены ў Ліду з м. Балотна (цяпер Веранова) Смаленскім каштэлянам, старастам Барцянскім Іяанам дэ-Кампа Сцыпіёнам у 1758 г. і згарэў у 1843 г. Прыходскі мураваны касцёл пабудаваны на месцы старога драўлянага біскупам Зянковічам у 1770 годзе, пры гэтым з дрэва пакінутага пасля разборкі драўлянага касцёла была пабудаваная праваслаўная царква. Царква гэтая была разбураная бурай каля 1830 г. Цяпер існы праваслаўны сабор у г. Лідзе выведзены з абгарэлых сценаў піярскага касцёла ў 1863 г.

Пажар 1891 г. між іншым, знішчыў будынак б. Лідскай ратушы. Будынак гэты, пабудаваны ў XVIII ст., стаяў на базарнай плошчы і быў ўпрыгожаны порцікам з калонамі. Пры ім існавала старадаўняя драўляная пабудова ў гатычным стылі. Сам будынак да апошняга часу служыў вайсковай гаўпвахтай, а прыбудова - пажарнікам адрынай.

У цяперашні час у горадзе Лідзе маюцца дзве плошчы і трынаццаць вуліц - Віленская, Замкавая, Каменская, Крывая, Вакзальная, Дварышчанская або Пастаўская, Лідская, Паліцэйская, Шкляная, Аляксандраўская, Школьная, Садовая, Гандлёвая і дванаццаць завулкаў, у тым ліку - Крупскі, Моргаўскі, Замкавы, Чырвоны, Яраслаўскі, Сянны і інш. Усіх жылых дамоў каля 1000, жыхароў да 14 000, у ліку якіх праваслаўных 3000, католікаў 5000, іудзеяў і інш. 6000.

У сумежнасці з горадам размешчаны: вёска - Расլякі, Зарэчча і Дварцовая Слабада, ваколіца Вісьманты і прадмесце Куроўшчына.

Раслякі да 1840 г. уваходзілі ў склад маёнтка Пастаўшчына, які належаў Піярскаму кляштару.

Зарэчча яшчэ ў XVII ст. складалася з трох частак - фальварка і некалькіх сялянскіх сядзіб, якія належалі Гадэбскім, а пасля перайшлі ва ўласнасць харунжага Франца - Іосіфа Масевіча, замкавай зямлі і пляцаў, якія знаходзіліся пад веданнем Лідскай магдэбургіі. Фальварак Зарэчча па дароўным запісе Масевіча ад 25 красавіка 1767 г. дастаўся Лідскаму кармеліцкаму кляштару, пасля скасавання якога, у 1839 г. быў прыняты ў скарб. Фальварак гэты пасля быў надзелены гораду Лідзе ў якасці выганнай зямлі, але ў 1854 г. уступлены за фальварак Куроўшчына на карысць Лідскага прыходского касцёла. Землі, якія былі ў карыстанні сялян вёскі Зарэчча, роўна як і замкавыя нівы ў 1853 г., надзелены сялянам.

Вісьманты раней зваліся Кузьмішкамі ад імя "мысліўца" Захарыяша Кузьміча, якому мясцовасць гэтая ў колькасці 6 валок зямлі была нададзеная каралём Жыгімонтам I у 1507 годзе. Кузьмішкі перайшлі ва ўласнасць Аляксандра Вісьманта ў 1668 г., былі раздробненыя яго спадчыннікамі і ператварыліся ў так званую ваколіцу.

Куроўшчына ў XVI ст. уяўляла сабой фальварак і належала Куроўскім. На працягу XVII ст. пераходзіла ва ўласнасць Кулешаў, Гадэбскіх і нарэшце дасталася Мсціслаўскаму ваяводу Аляксандру Масевічу, які ў 1696 г. запісаў яе на карысць Лідскага касцёла. У 1854 г. перайшла ва ўласнасць гор. Ліды.

У г. Лідзе размешчаны злучаны вакзал Палескай і Балагое - Сядлецкай чыгунак.

У наваколлях Ліды захавалася некалькі археалагічных помнікаў у выглядзе старажытных магільных курганоў, а менавіта: у ляску маёнт. Чэхаўцы; на левым беразе р. Ліды, пры вёсцы Сухвальні, у скарбовым лесе "Царова горка"; на зямлі маёнт. Бердаўка абшарніка А.С. Дэмбавецкага, ва ўрочышчы "Валоўшчына" пяць курганоў; на зямлі сял. вёскі Зарэчча блізка ад вёскі Навасёлкі - адзін курган; у ляску маёнт. Рэксці, і г.д. Акрамя таго, блізка ад ваколіцы Бянкевічы, на ўскрайку лесу, ляжыць камень з трыма плоскімі, круглымі паглыбленнямі, кожнае па 4 вяршкі ў дыяметры, які ўяўляў собою відавочна ў часы паганства алтар, прысвечаны богу дарог "Кела - Девас". Пры вёсцы Бельск за 6 вёрст ад Ліды на полі ляжаў велізарны камень, які звалі "Кабыла". Па паданні на гэтым камені каралі даўней злачынцаў. Магчыма, што тут у старажытнасці збіраліся конныя суды. Камень пабіты мулярамі ў пачатку 1905 г.

***М. Шымялевіч***

# Абраз пэндзля Юзафа Азямблоўскага ў Лідскім Фарным касцёле

У "Інвентарным вопісе Лідскага рымска-каталіцкага касцёла і бенефіцыі", складзеным 29 траўня 1882 года, у раздзеле "Вопіс алтароў" пад пунктам 2 запісана:

*"2. Пры ўваходзе па левай руцэ - алтар Маці Божай Вастрабрамскай двухпавярховы на дзвюх калонах, мураваны, памаляваны ў мармуровы колер, а калоны -- у алебастравы колер. На першым паверсе абраз абраз Маці Божай Вастрабрамскай, у 1847 годзе жывапісцам Азямблоўскім на дубовай дошцы маляваны і дваранінам Іванам* (Янам) *Андрушкевічам ахвяраваны, а на 2-м паверсе Абраз Маці Божай Ружанцовай у срэбнай рызе".*

**Андрушкевічы** - шляхта Лідскага павету. Дзед Яна, Тадэвуш Андрэйкавіч, знакаміты быў тым, што ў 1808 г. крэдытаваў князя Мікалая Радзівіла сумай у 10 тысяч залатых дукатаў і 130 тысяч польскіх злотых, і праз 16 гадоў выйграў судовы працэс у яго спадчынніка князя Міхала Мікалаевіча Радзівіла, і па судовым выраку атрымаў двор Тарноўшчыну (сучаснае Тарнова). Рэдка каму ўдавалася выйграць судовы працэс у Радзівілаў, Тадэвушу Андрушкевічу ўдалося. Сын Тадэвуша Юліюш прадаў Тарноўшчыну Канстанціну Кашыцу.

**Азямблоўскі** Юзаф (каля 1804, Менск — 27.8. 1878), мастак-графік. Творчасць звязана з мастацкім жыццём Літвы і Беларусі. У пач. 1830-х г. вучыўся ў прафесара жывапісу Віленскага універсітэта Я. Рустэма. У 1835 заснаваў у Вільні літаграфскую майстэрню. Яна праіснавала працяглы тэрмін і надрукавала больш за 600 літаграфій (ілюстрацый і асобных лістоў). Таленавіты мастак і выдатны арганізатар Ю. Азямблоўскі згрупаваў вакол сябе здольных выхаванцаў Віленскай мастацкай школы, выпусціў значную колькасць літаграфскіх краявідаў, партрэтаў, відаў Беларусі і Літвы. У майстэрні Ю. Азямблоўскага ілюстравалі свае кнігі Ю. Крашэўскі, Т. Нарбут, Ф. Бохвіц, Ю. Струміла, Я. Шымлер і інш.

Сам Ю. Азямблоўекі працаваў у жанры партрэта (партрэты Я. Рустэма і Ю. Франка), гарадскога краявіду (віды Вільыіі, беларускіх гарадоў). Яму належыць таксама шэраг жанравых замалёвак. Асобнае месца ў яго творчасці займае літаграфія «Славянскі нявольнік» («Беларускі раб»). З рэдкай для тых часоў праўдзівасцю ў ёй паказаны вобраз змардаванага на паншчыне і прыгоннай працы беларускага селяніпа, які без шапкі стаіць пасярод поля і неяк крыва і безнадзейна глядзіць на зямлю. Суровы рэалізм літаграфіі і бязлітасная, амаль гратэскавая характарыстыка вобраза выклікалі глыбокае спачуванне А.І. Герцана, які ў працы «Хрышчоная ўласнасць» пісаў: *«Нянавісць, змешаная са злосцю і сорамам, напаўмняе маё сэрца, калі я гляджу на гэты бязлітасны дакор, на гэтае «да сякераў, браткі», прадстаўленае з надзвычайнай праўдзівасцю.*



***Маці Божая Вастрабрамская. Копія Юзафа Азямблоўскага. Лідскі Фарны касцёл.***



*Ю. Азямблоўскі. Від Вільні. Віленскі музей.*

*За гэта злачынства, за гэтага беларуса яго паны не свабодныя...»*

Літаграфія Ю. Азямблоўскага «Славянскі нявольнік пераканаўча сведчыць, што лепшыя мастакі Беларусі адчувалі непарыўнасць свайго лёсу з лёсам народа. Адсюль вялікая выкрывальная, вобразнаэмацыянальная сіла іх графічных лістоў.

Літаграфію «Беларускі раб» выкарыстоўваў як ілюстрацыю ў лекцыях аб прыгонным праве ў Расіі Адам Міцкевіч. Арыгінал гэтай літаграфіі і варыянт, выдадзены парыжскай фірмай Лемярсе захоўваюцца ў музеі А. Міцкевіча ў Парыжы.



***Ю. Азямблоўскі. Беларускі раб.***

Сярод твораў Азямблоўскага значнае месца займаюць партрэты вялікіх князёў ВКЛ Альгерда, Вітаўта, Ягайлы, Жыгімонта II Аўгуста і інш. І менавіта гэтыя гістарычныя партрэты аказаліся найбольш запатрабаванымі ў незалежнай Беларусі.



***Ю. Азямблоўскі. Альгерд.** Ілюстрацыя да "Гісторыі літоўскага народа" Т. Нарбута, т. 5.*



*Выява **Альгерда,** якая выкарыстоўваецца ў якасці ілюстрацый у беларускіх гістарычных выданнях*

Гравюры і малюнкі Ю. Азямблоўскага скарыстоўваюцца ў шмат якіх кнігах і падручніках, але практычна нідзе не ўказваецца аўтар. Чаму? Мабыць таму ж, чаму ў пяцітомным выданні "Памяць. Мінск" пра Азямблоўскага няма ні радка, хаця ён адзін з нямногіх мастакоў 19-га ст., хто нарадзіўся ў Менску.



***Ю. Азямблоўскі. Вялікі князь Вітаўт.***
*Віленскі музей.*



***Ю. Азямблоўскі. Жыгімонт II.*** *Ілюстрацыя да "Гісторыі літоўскага народа" Т. Нарбута, т. 9.*



***Ю. Азямблоўскі. Кароль Ягайла.***
*Віленскі музей.*

Абраз Маці Божай Вастрабрамскай у Лідскім Фарным касцёле - работа, вядома, капійная, скапіяваная са знакамітага абраза Маці Божай другой паловы 16-га стагоддзя, змешчанага ў Вільні ў Вастрабрамскай капліцы.

Калі стала вядома, што Маці Божая Вастрабрамская выратавала ў веку пяці гадоў Адама Міцкевіча: ён зваліўся з даху і не дыхаў, а маці на каленях, у слязах, звярнулася да яе з малітваю аб выратаванні - і цуд, дзіця расплюшчыла вочы, каштоўнасць гэтай выявы ў вачах вернікаў - прыхільнікаў таленту паэта ўзрасла да велічынь небывалых.

Несумнеўна, Ян Андрушкевіч чытаў паэму А. Міцкевіча "Пан Тадэвуш", дзе распавядаецца пра гэты дзіўны выпадак.

Ян Андрушкевіч ахвяраваў Лідскаму касцёлу таксама невялікі абраз Маці Божай Чанстахоўскай. Як тут не ўспомніць: "Panno Swieta, ca Jasnej bronisz Czestochowy i w Ostrej swiecisz Bramie !..."

Аналіз даступных крыніц не дазволіў пакуль што выявіць на тэрыторыі Беларусі арыгіналы работ Ю. Азямблоўскага. Зусім верагодна, што лідскі абраз "Маці Божай Вострабрамскай" - адзіная ў нашай краіне арыгінальная работа гэтага мастака. Безумоўна, прафесійныя мастацтвазнаўцы могуць унесці значныя ўдакладненні і дапаўненні ў гэты артыкул, але на ўсе заўвагі ёсць простае пытанне, чаму дагэтуль імя Юзафа Азямблоўскага было так занядбана?

***В. Сліўкін, С. Суднік.***

# Старая пошта на Лідчыне

Пошта, як прылада зносінаў паміж людзьмі, існуе з прадвечных часоў. Па сведчанні Дыёра за 2 тысячы гадоў да Н.Х. у Індыі была ўжо ва ўжытку перасылка вестак або наказаў урадавых. Герадот прыпісвае першапачатковае ўсталяванне поштаў на абшырным заваёваным абшары Кіру *(500 гадоў да Н.Х.)*. Па словах Свентнія, імператар Актавій Аўгуст, першы заснаваў і прывёў у лад паштовыя зносіны ў Рымскай Імперыі. Яго клопатамі было збудавана шмат добрых дарог, на якіх заснаваныя былі ў розных месцах для перамены коней і адпачынку, адмысловыя прыстанкі *(І.А. Ган, 1854 г. Пошта ў Расіі)*. Сапраўды, многія гістарычныя дакументы сведчаць, што служба сувязі ў Еўропе ўпершыню набыла ўпарадкаваныя формы ў Старажытным Рыме. Асобныя маршруты, па якіх курсавалі пешыя і конныя ганцы, у часы прынцыпата Аўгуста *(27 г. да н. э - 14 г. н. э.)*, былі аб'ядданы ў адзіную сетку - cursus publicus. Гэтую сетку ўзначаліў сам імператар, т.ш. гэта было найважнай дзяржаўнай установай. З заняпадам Рымскай імперыі ў 476 годзе, разбурылася стройная паштовая сетка. А вестготы, якія заваявалі Апенінскі паўвостраў, канчаткова знішчылі рэшткі дзяржаўнай пошты. У сярэднія вякі феадальная Еўропа была раздробненай, шматлікія правіцелі не асабліва вялі паміж сабой перапіску.

Зараджэнне паштовай сувязі ў ВКЛ супадае з утварэннем ВКЛ як дзяржавы ў XIII ст. Дзяржаўныя справы патрабавалі ад вялікіх князёў літоўскіх зносін з ўладарамі іншых дзяржаў, як бліжэйшых так і аддаленых. Ужо вялікі князь Міндоўг вёў обшырную па тым часе перапіску з Ватыканам, з Лівонскім ордэнам, з Рыгай. Князь Альгерд пасылае свае пасланні ў Канстанцінопаль патрыярху Філатэю, падтрымлівае пісьмовую сувязь з ордэнам крыжакоў. У 1357 годзе князь Кейстут вядзе перамовы з імператарам Карлам IV і з лістамі пасылае ў Нюрыберг свайго брата. У ВКЛ сувязь паміж аддаленымі княствамі і родавымі замкамі падтрымлівалася коннымі ганцамі. Адказныя пасланні князі перасылалі праз праверанных і давераных асобаў, звычайна высокапастаўленых. Гэтыя асобы называліся "жыгунамі" *(ад літоўскага: жыгунас - конь, Л.К.)* Шляхі ганцоў пралягалі ад паселішча да паселішча, ад замка да замка. Уладальнікі замкаў павінны былі падаваць галоўным ганцам і асобам суправаджэння ежу, начлег, коней (мяняць). Ганцы вялікіх князёў падвяргаліся небяспецы пастаянна. Калі шлях ганцоў ляжаў праз тэрыторыі Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў, то небяспека быць захопленым, абрабаваным, забітым павялічвалася. У 1322 годзе ў пасланні князя Гедзіміна Папу рымскаму Іяану XXII гаварылася што княжых ганцоў "… яны *(тэўтонцы - Л.К.)* бязлітасна забівалі. Іншых павесілі і прымусілі ўтапіцца".

Вядомы і такі факт, калі князь Гедзімін у 1324 годзе ў сваім пасланні радзе горада Рыгі, епіскапам дэрпцкаму, эдэльскаму і дацкаму намесніку Рэвельскай зямлі скардзіўся на крыжакоў, якія "… парушалі вернасць, калі абяцаўшы нашым паслам бяспечны доступ у свае валадарствы, пры ўездзе апошніх захапілі ў палон, не выключаючы Лёсе, якога знявечыўшы адпусцілі. Вялікакняскі пасол Гедзіміна Лёсе ў 1326 годзе пісаў: *"Спадарожнікаў жа маіх, рускіх, адпраўленых разам са мной, тыя ж браты* (крыжакі - Л.К.) *ізноў абрабавалі ў сваёй цвердзі Дзюнабург, калі тыя, вярнуўшы сабе дабро, пасля палону дадому вярталіся"*.

Часта вялікакняскім ганцам прыходзілася цярпець і ад сваіх князёў. Кепская вестка, прынесеная ганцом з пасланнем магла стаць прычынай смерці ганца. Таму для перасылкі лістоў у аддаленыя дзяржавы звярталіся да дапамогі кляштароў. Манахі падтрымліваючы рэгулярную сувязь з Рымам нярэдка адпраўляліся ў далёкі шлях з пасланнямі князёў або купцоў. Манаскія ордэны францысканцаў, дамініканцаў мелі сваю манастырскую пошту і падтрымлівалі сувязь са сваімі брацтвамі. Такім чынам праз манастырскую пошту, праз вандроўных манахаў адпраўляліся шматлікія пасланні літоўскіх князёў у дзяржавы сярэднявечнай Еўропы. У XIII - XIV стст. Тэўтонскі Ордэн стварыў службу сувязі верхавымі пасланцамі для падтрымкі кантактаў з рыцарскімі гарадкамі і князямі ВКЛ.

Вялікі літоўскі князь Вітаўт вёў шырокую перапіску з Тэўтонскім ордэнам, з каралём Англіі Генрыхам IV, які ў 1390 і 1392 гг. удзельнічаў у паходах крыжакоў на ВКЛ і быў знаёмы з князем Вітаўтам. Вітаўт вёў абшырную перапіску з імператарам Жыгімонтам і праваслаўнымі патрыярхамі.

Кароль Уладзіслаў Ягайла і Вялікі князь Вітаўт падтрымлівалі па тым часе шырокую перапіску з Папам Рымскім, каралямі многіх дзяржаў, ордэнам крыжакоў, васальнымі князямі і да т. п. Уся гэтая карэспандэнцыя высылалася з месца знаходжання караля і вялікага князя - з Вільні, Трокаў, Коўні, Меднікаў, Ашмяны, Маладзечна, Ліды, Наваградка, Слоніма, Кернава, Аран, Жыжмар, Эйшышак, Салечнік, Мерачы, Бубіч, Берш, Гародні і іншых гарадоў і мястэчак, дзе спыняліся кароль і князі. Гэтыя лісты адрасатам дастаўлялі адмысловыя пасланцы. Чым вышэйшую (важнейшую) пасаду займаў адрасат, тым больш высакароднага саноўніка выкарыстоўвалі ў якасці пасланца з лістом. Сярод запісаў у расходных кнігах Тэўтонскага ордэна крыжакоў за 1348-1410 гг. ёсць запісы аб Ніклусе Лушку - герольдзе князя Вітаўта. У дыярыюшы Януша Тышкевіча, Мсціслаўскага ваяводы, у 1625 годзе пад загалоўкам "Дамовы са Швецыяй" маюцца шматлікія звесткі аб перасылцы ў тыя часы (службовай) карэспандэнцыі паміж маёнткам Дзітва, дзе жыў ваявода *(маёнтак Дзітва - Рулевічы за 21 км ад Ліды, у 1906 г. быў раздробнены паміж уладальнікамі)* і Варшавай, месцам знаходжання караля Жыгімонта III.: *" З Літвы адправіў да яго каралеўскай міласці ў Варшаву Пурышку 23 красавіка з лістом... Прыехаў потым мой пасланец ад Понтуса 28 красавіка нейкі Андрэй Шульц, які мне прынёс ліст ад Понтуса, напісаны мне, а таксама пры гэтым рэспонс* (RESP0NS - адказ - *Л.К.*) *ад сенатараў... Паслаў ліст зараз яго Вялікасці каралю*

*з Дзітвы 29 красавіка 1625 года, вярнуўся Пурышка з Варшавы, якога да каралеўскай міласці пасылаў і рэспонс каралеўскі прынёс... Дадзены ў Варшаве дня 29 красавіка... вярнуўся да мяне потым казак мой, якога да караля пасылаў з лістом сенатараў шведскіх, з лістом караля датаваным у Варшаве 9 траўня 1625 года. На гэты ліст адпісаў з Дзітвы 22 траўня 1625 года. Вярнуўся потым да мяне пасланец з двара яго вялікасці караля з рэспонсам на лісты мае. Ліст караля быў датаваны 28 траўня 1625".*

Па датах, пастаўленым на гэтых лістах можна вызначыць, што на пасланні, высланыя з Дзітвы ў Варшаву (адлегласць 320 км) былі дадзеныя адказы на 6-ты дзень пасля іх адпраўкі. Невядома, ці даваў кароль адказ у дзень атрымання ліста ваяводы. Таму тэрміны руху пошт з Дзітвы ў Варшаву і назад можна вызначыць толькі прыблізна. Магчыма, ганец гэтую адлегласць перадольваў "на фурманках", мяняў коней на паштовых станцыях за 5 дзён, робячы па 64 км у дзень.

У Вялікім Княстве Літоўскім, як і ў іншых сумежных дзяржавах захоўваўся даўні звычай - усе вяльможы ў вандроўках у мірны час, а тым больш у ваенных паходах суправаджаліся світай узброеных служак. Гэтага роду світа ў ВКЛ звалася "почтам" (pocztem ). Кароль Жыгімонт I у лісце да Станіслава Янавіча, старасты жмудскага, 1 кастрычніка 1522 года рэкамендаваў, каб намеснікі старасты *"ежджывалі па воласцях з цівунамі нашымі з малым почтом саматрэць альбо самачэцверць"*. У атачэнні світы *(poczta )* ездзілі і ганцы крымскага хана. У дамове караля Жыгімонта I і хана (цара) Гірэя (каля 1540 г.) уключана такое палажэнне *"... а калі б хан жадаў ганцоў сваіх з вялікімі почтамі слаць, было б іх асоб дваццаць або больш"*. З тэксту гэтай дамовы даведваемся, што каронныя і літоўскія купцы вывозілі соль з чарнаморскага порта Качубея пад аховай почтаў ханскіх, *("за сторожбою людзей царовых")*. У ВКЛ узброеныя служкі зваліся баярамі, з часам яны пачалі звацца літоўскай шляхтай, па прыкладзе польскай шляхты. Баяры дзяліліся на годных, вольных, панцырных, путных і служак (слуг). Баяры, слугі путныя, як відаць з іх азначэння, суправаджалі сваіх гаспадароў (паноў) у падарожжах па краіне ў мірны час, і ўжо тады ў першай палове 15-га стагоддзя путныя баяры развозілі дароўныя пасланні караля Казіміра Ягелончыка. У параграфе 1 ("Аб баярах путных і служках") зямельнага закона караля Жыгімонта Аўгуста ад 1557 года, гаворыцца аб тым, каб рэвізоры каралеўскіх маёнткаў выбіралі з ліку путных баяраў такіх, якіх можна было пакідаць пры кожным каралеўскім замку і двары (маёнтку) у якасці служак, абавязкам якіх было ездзіць з каралеўскімі лістамі ў суседнія маёнткі, а таксама адвозіць сабраныя па падатках і зборах грошы ў Вільню ў каралеўскі скарб. Закон гэты вызначаў наступныя двары, да якіх гэты закон прымяняўся. Усе яны знаходзіліся на поўнач верхняй плыні Нёмана - Беліца, Ожа, Пералом, Перавалок, Васілішкі, Астрыно, Мерач, Канява, Дубічы, Радунь, Эйшышкі, Варане (Араны), Валкенікі (Алькенікі), Лейтуны, Ліда, Трабы, Геранёны.

У інвентарным спісе Лідскага староства за 1680 год вылучана 8 мяшчан, якія жывуць поруч замка на землях староства, і якія павінны былі плаціць зямельны падатак па 15 грошаў у год. У абавязкі гэтых мяшчан уваходзіла: *"... лісты заўсёды па калейцы за некалькі міль у Лідскім павеце адносіць (развозіць)..."*. У некаторых каралеўскіх уладаннях (маёнтках, дварах) абавязкі путных баяраў - у прыватнасці, развоз лістоў - выконвалі татары, паселеныя на каралеўскіх землях. Так інвентар Васілішскага староства за 1787 год згадвае аб тым, што тататры, паселеныя ў колькасці 6 дымоў у Сеньдзюкоўшчыне каля мястэчка Васілішкі, акрамя аплаты зямельнага падатку ў карысць старасты павінны былі развозіць яго лісты. І гэтае не адзінае згадванне аб татарах-лістаношах. У інвентарным вопісе Эйшышскага староства 1790 года таксама гаворыцца аб татарах, якія жывуць у Таўсюнах. Яны былі абавязаныя плаціць падаткі нароўні з баярамі і выконваць паслугі двару - развозіць лісты простыя і экстраардынарныя. Гэтак жа, як і пры двары каралеўскім, путныя баяры служылі пры дварах панскіх. У рэестравым спісе людзей (насельнікаў) маёнтка Олдаўскага з Вараноўскім дварцом (Лідскі павет), прададзенага князем Чартарыйскім Яну Трызне, складзеным у 1581 годзе, гаворыцца: *"... баяры путныя Майсей Сушкевіч, Пётр Трахімовіч, Цімафей Панасовіч, Клім Федаровіч, Ян Андрэевіч Шарайковіч - тыя з лістом ездзяць і то на вялікую дарогу, бо зямля пад імі малая, на якой цяпер сядзяць ..."*.

Гэтую ж катэгорыю баяраў-служак знаходзім у інвентарным вопісе маёнтка Ражанка (Лідскі павет) за 1599 год. Гэтыя баяры валодалі цэлымі фальваркамі: "Мачылоўскі - 6 валок, Запольскі - 7 валок, Кісялевічы - 4 валокі, над ракой Тур'ёй - 4 валокі, за сялом Падражанка - 4 валокі, у Дуперкоўшчыне 4 валокі - разам 25 дымоў, ездзілі на вайну і з лістамі, а таксама неслі дарожную службу *("pelnili drogi")*. У інвентары Дзітвянскай воласці (Лідскі павет) з фальваркамі Дылева і Ваверка князёў Вішнявецкіх за 1653 год згаданыя такія баярскія сёлы - Мейры - 9 дымоў, Пяхуры - 6 дымоў, Мілевічы - 10 дымоў, Дылева - 3 дымы. Жыхары гэтых сёлаў абавязаныя былі *"... а з валок баярскіх плаціць па злотых 6 і падвод дзве да Вільні, а з лістом куды скажуць адправіцца павінны"*.

У інвентарным спісе баяраў Банцавічаў (гміна Белагруда Лідскага павету) якія належаць маёнтку Белагруда, якіх пані Хальшка Тышкевічоўна Завіша, каштэлянша віцебская аддала ў 1668 годзе ў заклад панам Рудзінскім, ёсць згадванне, што акрамя іншых павіннасцяў і падаткаў залогатрымальнікі маюць права гэтых баяраў *"калейна пасылаць"* з лістамі. Баяры біскупскага валодання (маёнтка) Дуброўня (поруч Ліды) паводле інвентара 1732 года абкладаліся павіннасцю перавозкі лістоў. У інвентары гэтага ж маёнтка, складзеным пасля канфіскацыі ў 1798 годзе, гаварылася, што землеўладальнікі, *"якія сядзяць на дворных грунтах"* - вёскі Сагайлы (Сангайлы), Пашкевічы і Плашэвічы - раней абавязаныя былі мець для дэманстрацыі багацця сваіх паноў уланскую ўніформу, сядло, а таксама зброю. Яны звычайна выкарыстоўваліся панамі для пасылак з лістамі для дробных паслуг і даручэнняў *"як конна, так і з возам"*. Гэты новы інвентар загадваў, што кожны землеўладальнік (абшарнік) павінен штогод для двара адбыць павіннасць *"пасылкі з лістамі конна альбо возам на 48 міль"*. Гэта азначала, што ў адзін бок конна можна было ехаць 24 мілі, а возам па 12 міль 2 разы туды і назад.

У архіўных дакументах знаходзім і такія дадзеныя. У акце продажу Мікалаем і Марыяй Свідэрскімі "паловы пляцу (участка) у паўвалокі" (валока 16,8 га) пад юрысдыкцыяй Лідскага прыходу - акт ад 2 чэрвеня (iunii) 1657 года - указана частка абавязкаў, якія павінны выконваць будучыя ўладальнікі ўгоддзя - *"... да жніва тры дні ў дарогу з лістамі мілі дзве не далей Жырмунаў або да Белагруды..."*. Паводле інструкцыі Лідскага касцёла св. Крыжа ад 1820 года павіннасць развозу *"курсорый"* (пасылак, лістоў), як і раней, была абавязковай для ўсіх мяшчан, якія карыстаюцца землямі прыходу.

Гэтая павіннасць на дзяржаўных землях па меры вызвалення падданых ад натуральнага падатку (прадуктовы падатак) і пераводу іх на чынш, знікала, што мела месца ў 50-х гадах 19-га стагоддзя. У прыватных маёнтках павіннасць гэтая пачала знікаць некалькі пазней - толькі падчас канчатковага разрыву прыгонніцкіх адносін паміж уладальнікамі сядзіб і сялянамі ў 1863 годзе.

Пачатак пісьмовай (ліставой) пошты, як прававой грамадзянскай інстытуцыі, паклаў кароль Жыгімонт III Ваза ў 1620 годзе. Апублікаваўшы канстытуцыю, зацверджаную ў тым жа годзе варшаўскім соймам, кароль выказаў пажаданне: *"... каб з усіх памежных мясцовасцяў і тут да двара нашага, калі б наша асоба тут была і да сумежных у дзяржаве нашай гарадоў на кожны тыдзень ведамасці даносіць маглі і перасылку лістоў кожнаму стану вельмі патрэбных дастаўляць..."*. Кароль пакінуў сабе права стварэння арганізацыі, якая займалася б перасылкай гэтых ведамасцяў і лістоў. Гэтай створанай арганізацыі кароль даў назву "пошта". На тэрыторыі ВКЛ з даўніх пор вялікія князі падарожнічалі ў атачэнні (у таварыстве) "почтаў" (poczet), світы, атрада. Некаторыя асобы з гэтай світы звычайна выкарыстоўваліся каралём для развозкі і перадачы лістоў. Таму назва гэтай новай арганізацыі, запазычаная з нямецкай - die reitende Post (верхавая пошта) - была з лёгкасцю прынята навакольнымі (мясцовымі) жыхарамі і ўстановамі. Тым больш што гэтая назва было цесна звязана з поштай падводнай, г.зн. на фурманках (poczta wozowa), якая ўжо функцыянавала, перавозячы каралеўскіх пасланцаў (ганцоў). У рахунках літоўскага скарбу маюцца такія запісы - "спадару Беранту Фогту найміту, віленскаму яго каралеўскай высокасці паштмайстру за 1648, 1649 і 1650 гг. па 250 флорынаў выплачана ўсяго 750 і за 1649 год асобна - у рукі пана Мантэлюпі (Montulepieg) на пошту ў Літве перададзена флорынаў 1000". (У 1647 годзе кароль Уладзіслаў IV прызначыў новым генеральным паштмайстрам чарговага прадстаўніка роду Мантэлюпі, якія займалі гэты пост каля ста гадоў.

Ваенныя дзеянні з Маскоўскай дзяржавай 1655 - 1660 гг. знішчылі ўсю наладжаную арганізацыю сувязі (пошты) у ВКЛ. Толькі пасля сыходу расійскіх войскаў было пачата аднаўленне гэтых паштовых сувязяў.

У рахунках выплат смаленскага ваяводы, адміністратара скарбу ВКЛ, старасты ашмянскага Мацвея Саковіча за 1661 год знаходзім запісы якія адносяцца да арганізацыі пошты (ліставой). У гэтых рахунках апісаны нават кірункі руху пошт (гасцінцы), колькасць казакоў, якія абслугоўвалі кожны гасцінец, і сума выдаткаў: гасцінец на Юрборг - 6 казакоў (400 км); гасцінец на Барысаў - 7 казакоў (600 км); гасцінец на Брагін і Чарнігаў - 10 казакоў (1000 км). Падтрымліваліся таксама паштовыя сувязі - Гародні са Смаленскім ваяводам у Яблычнай, Юрборга з Біржаем, Курляндыяй і Вільняй.

Конныя казакі размяркоўваліся па паштовай дарозе на больш-менш аднолькавых адлегласцях адзін ад другога і такім чынам перавозілася і перадавалася з рук у рукі ў хуткім тэмпе кайстра (торба) з лістамі. Гэтая эстафетная пошта праіснавала да падзелу Рэчы Паспалітай. Кошт утрымання такой пошты, напрыклад, з Варшавы да Юрборга, паводле прыкладзенага да дакументаў рахунка ("лічбы") за 1661 год штомесяц склаў: 5 казакоў па 20 флорынаў у месяц і адзін казак старэйшы - 25 флорынаў, што ў суме складала 125 флорынаў штомесяц або 1500 флорынаў у год. Нажаль, не захавалася дадзеных аб тарыфах за перавозку прыватных лістоў гэтай поштай.

Як і раней, унёскі на ўтрыманне ліставой пошты павінны былі даваць гарады, але пастанова сойма 1659 года сцвярджала, што *"гарады і мястэчкі грошы на гэтыя пошты (звычайныя) некалькі гадоў затрымоўвалі"* (мабыць з-за спусташэння краю падчас вайны).

Рашэнне сойму 1673 года адзначае *"каб гарады і мястэчкі ВКЛ падводныя грошы паводле канстытуцыі на пошты звычайныя штогод 12000 злотых у рукі Рыйнольда Бісінга - паштмайстра нашага ВКЛ аддавалі"*.

Варшаўскі сойм 1717 года зацвердзіў наступны расклад паштовых трактаў ВКЛ: 1) з Вільні на Гародню да Варшавы, а таксама на Бярэсце да Любліна на злучэнне з рускай поштай; 2) з Вільні на Коўню (Каўнас) і да межаў прускім, а таксама на Коўню, Кейданы, Расены да Мітавы і Рыгі; 3) на Белую Русь праз Менск і Магілёў да Маскоўскіх межаў. Прычым у пастанове сойму гаварылася, што лепш сувязь падтрымліваць не пешымі паштарамі, а коннымі. Праз некаторы час у ВКЛ лік паштовых трактаў павялічыўся - Гарадзенскі сойм 1726 года ўрэгуляваў пошту Наваградскага ваяводства - з Наваградка да Вільні, таксама да Гародні і Менска. Многія паштовыя тракты пралеглі праз Лідскую зямлю: 1) з Вільні на Веранова (Воранава), Жырмуны, Крупу, Мыто, Васілішкі, Астрыну, Азёры і далей на Гародню. Адгалінаванне ад гэтага паштовага тракта з Жырмунаў вяло да Ліды; 2) з Вільні на Салечнікі, Дзевянішкі, Суботнікі, Іўе і да Наваградка; 3) з Наваградка на Беліцу, Жалудок, Шчучын, Скідзель і на Гародню. Гэтымі гасцінцамі лісты перавозіліся толькі ў апячатаным выглядзе і тыя, якія высылаліся толькі праз паштовыя экспедыцыі або паштовыя аддзяленні.

Пастанова 1791 года ўстанавіла апеку Паліцэйскай Камісіі над поштай коннай, падводнай і ліставой, без права ўмешвання ва ўнутраныя справы пошты. Такі быў стан паштовых спраў да падзелу Рэчы Паспалітай.

Царскі імянны ўказ ад 6 верасня 1795 года ўстанавіў паштовую сувязь паміж Санкт-Пецярбургам і Венай праз Пскоў, Апочку, Дрысу, Вільню і Берасце, далей паштовая сувязь з Берасця ішла на Люблін і Сандамір. Другі паштовы тракт быў наладжаны з Масквы на Талочын, Менск, Нясвіж да Слоніма. Новы імянны царскі ўказ ад 29 кастрычніка 1796 года некалькі змяніў кірунак венскага паштовага тракта - па праекце генерал-

губернатара Рапніна - паштовая дарога з Апочкі была перанесена да Друі і далей на Вільню, Слонім і Брэст-Літоўск і ўстанавіў новы тракт з Вільні на Гародню. Новыя паштовыя тракты былі пракладзены і па Лідскай зямлі: 1) з Вільні праз Едліну, Беняконі, Сокалы, Ліду, Беліцу, Задвор'е, Слонім, Масявічы, Ружаны, Пружаны, Кобрын да Берасця; 2) з Ліды праз Радзівонішкі, Ішчолну, Шчучын, Каменку, Скідзель, Жыдомлю да Гародні і 3) з Ліды праз Лупеніцу, Навіны, Наваградак, Карэлічы, Мір да Нясвіжа. Нясвіж быў звязаны паштовым трактам праз Сноў, Сталовічы, Палонку і Дзяды са Слонімам. Ружаны мелі паштовую сувязь трактам з Гародні праз Падарэск, Ваўкавыск, Пескі і Каменку. Старыя паштовыя гасцінцы з Вільні праз Салечнікі, Суботнікі, Іўе да Наваградка і праз Беліцу да Гародні былі закрытыя. На паштовых трактах у 1796-1800 гг. былі пабудаваныя паштовыя дамы - станцыі, якія былі аддадзеныя ў рукі прыватных асобаў, т. зв. поштхальтараў, што набылі гэтыя станцыі на некаторы тэрмін на таргах. А станцыі называліся "станцыямі поштхальтэрыі". амаль кожная станцыя мела сваю вывеску-шыльду. Як яны выглядалі, не ўстаноўлена. Адна адзіная такая шыльда, якая належала Слонімскай паштовай станцыі, захавалася ў паштовым музеі ў г. Уроцлаве ў Польшчы. Малюнак на шыльдзе ўяўляе сабой герб Рэчы Паспалітай (Польшчы і ВКЛ) на чырвоным фоне - Пагоня і белы арол у кароне, памешчаны на гарнастаевую каралеўскую мантыю. Малюнак аздоблены каралеўскай каронай і паштовым ражком. Фон шыльды - чырвоны. Уверсе і ўнізе на белых стужках чорнымі літарамі надпіс: "STACYA POCZTHALTERYI / SLONIMSKA". Гэтая шыльда была двойчы паказана на выпусках польскай пошты. Першы раз на паштовай картачцы ў 1981 годзе, выдадзенай да 60-годдзя Ўроцлаўскага музея пошты і тэлекамунікацыі *(мал.1.)*, другі раз у 1992 годзе - тады была выдадзена паштовая марка з выяваю шыльды. Выпуск быў прымеркаваны да Сусветнага дня пошты і Міжнароднай філвыставы "Польшча-93" *(мал. 2.)*.

На кожнай станцыі быў дзяржаўны службовец - дазорац станцыі. Кіраванне паштовай сувяззю і перавозка карэспандэнцыі былі пакінуты ў веданні даўно дзейнага Віленскага паштамта. Гаспадары станцыі былі абавязаныя ўтрымоўваць на станцыях вызначаную колькасць коней і перавозіць пасажыраў, службоўцаў (дзяржслужбоўцаў) за плату па 2 капейкі (пазней па 3) ад вярсты і каня. Бясплатна перавозіліся 2 разы ў тыдзень паштальёны і паштовыя мяшкі з карэспандэнцыяй. Паштовыя аддзяленні былі створаныя толькі ў павятовых гарадах, карэспандэнцыя ў гэтых аддзяленнях запакоўвалася ў пакеты, якія апячатваліся сургучнымі пячаткамі, аплата праводзілася гатоўкай. Кожны ліст запісваўся ў паштовую кнігу, і адпраўніку выдавалася квітанцыя. Мяшкі з карэспандэнцыяй пад ахоўвай узброенага паштальёна перавозіліся на параконных брычках, абсталяваных верхам (будой). Коні мяняліся на кожнай паштовай станцыі.

Добра наладжаная паштовая служба Расіі ў губернях, якія падпалі пад напалеонаўскае нашэсце ў 1812 г., была разбурана дашчэнту. Ёсць звесткі аб жаданні французскіх акупацыйных уладаў арганізаваць пошту на занятай тэрыторыі.

Пасля ўварвання арміі Напалеона ў Расію 24




*Мал. 1.*




***Мал. 2.***

чэрвеня 1812 года, захопу Вільні (28.06), Гародні (29.06) Менска (8.07) і іншых гарадоў заходніх губерній узнікла ідэя адраджэння ВКЛ. Ужо 28 чэрвеня 1812 года на Варшаўскім сойме была ўтвораная Генеральная Канфедэрацыя Польскага Каралеўства, а 14 ліпеня ў Вільні быў абвешчаны акт ізноў утворанага саюза ВКЛ з Каронай.

1 ліпеня 1812 года па распараджэнні Напалеона ў Вільні быў скліканы Часовы ўрад. Орган гэты ў выдадзеных дакументах зваў сябе па рознаму - Часовая ўрадавая камісія ў ВКЛ, Урадавая камісія, Камісія Літоўскага ўраду і г.д. Старшынём камісіі быў абраны граф Станіслаў Солтан, чальцамі - князь Аляксандр Сапега, граф Францішак Ельскі, граф Іосіф Серакоўскі, граф Караль Празор. Пазней па жаданні Напалеона ў склад камісіі ўвайшлі Ян Снядэцкі, граф Аляксандр Патоцкі і Ігнат Тызенгаўз. На занятых напалеонаўскімі войскамі тэрыторыях заходніх губерняў была ўтвораная адміністрацыя па тыпу французскай. Былі ўтвораны 4 дэпартаменты: Віленскі, Гарадзенскі, Менскі і Беластоцкі. Цывільная ўлада ў дэпартаментах належала прэфектам, прызначаным Напалеонам. На ўзроўні паветаў (раёнаў) былі ўтвораны падпрэфектуры. Начальны нагляд над ізноў утворанай адміністрацыяй Напалеон даручыў князю Басано (Bassano), а свайго ад'ютанта галандца Хагендорна прызначыў генеральным губернатарам і камандуючым войскамі ў гэтым раёне.

Для патрэб войска на гэтых тэрыторыях была створаная палявая пошта. А цывільныя ўлады прыступілі да аднаўлення працы мясцовых паштовых устаноў. З гэтай мэтай у Вільні была створана Генеральная Дырэкцыя Літоўскіх поштаў на чале з графам Антоніем Празорам. Сакратаром паштовай дырэкцыі стаў Каспер Зельвітар (Zelwieter).

Усе дакументы аб стварэнні гэтай пошты публікаваліся на старонках газеты "Літоўскі Кур'ер" ("Kuryer Litewski") за 1812 год. Прывядзём некалькі газетных вытрымак аб пошце ВКЛ з "Літоўскага Кур'ера". *(Пры перакладзе з польскай аўтар стараўся захаваць стыль газетных артыкулаў таго часу)*.

Першы дакумент датуецца 8 ліпеня 1812 года. У ім гаворыцца пра загад Галоўнай Імператарскай стаўкі аб парадку нагляду ваеннай жандармерыі над паштовымі конямі. Былі апублікаваныя і іншыя дакументы, выдадзеныя ў Вільні аб пошце - умовы кантракту з арандатарамі конных паштовых станцый, табліца аплат за найм паштовых коней і інш.

**"Літоўскі кур'ер " №52 ад 16.VII.1812 г.**

*"Антоні Празор інфармуе аб даручэнні яму Камісіяй Літоўскага Ўраду арганізацыі пошт: "У сілу даручэння выдадзенага Камісіяй Літоўскага Ўраду мне, каб я заняўся арганізацыяй пошт, даношу праз газету да ведама грамадскасці. Калі б хто знайшоўся з ахвочых утрымоўваць вызначаную колькасць коней на станцыях, указаць мне тых, якія маюцца, каб захацелі прыйсці ў дом даўняга Паштамта Віленскага ў які дзень ад 9 раніцы да гадзін 12, а папалудні ад 4 да 7 гадзін, каб скласці прыстойны і выгадны аплачваны паштамтам кантракт, дзе і я ніжэйпадпісаны буду.*

*Датавана 1812 ліпеня 16 дня ў Вільні.*
*Антоні Празор."*

**"Літоўскі кур'ер" № 65 ад 19.VIII.1812 г.**

*"Генеральная Дырэкцыя Літоўскіх пошт інфармуе аб становішчы паштовых устаноў.*

*Дырэкцыя спяшаецца паведаміць зацікаўленай грамадскасці, што адгэтуль (з Вільні-Л.К,) на паштовы тракт Гарадзенскі і Беластоцкі і на прылеглыя да іх да Ласічы, Варшавы, Кракава, усёй Польшчы, а таксама Дзяржаў Французскіх і Нямецкіх ужо з усёй акуратнасцю адпраўляецца і паступае ліставая пошта. Адгэтуль экспедуе па аўторках і пятніцах у 12 раніцы. Лісты ў гэтыя дні для высылання будуць да гадзін 11 у паштамце прымацца. Адрасаваныя ў межах Польшчы могуць быць бясплатна прынятыя.*

*Прыбывае пошта сюды з імянованых трактаў, як і раней - у нядзелю і сераду. Асобы зацікаўленыя ў хутчэйшым атрыманні карэспандэнцыі, могуць самі прыходзіць, альбо добра правераных асоб для атрымання лістоў дасылаць, бо ў сілу паштовага рэгламенту толькі пасля 24 гадзін пасля атрымання пошты, лісты праз лістаношаў (bryftregerow) могуць быць дастаўленыя.*

*Лістаношам акрамя морта (кошт перасылкі - Л.К.) пазначанага на лісце чырвоным чарнілам, за дастаўку кожнага ліста па 2 медныя грошы атрымальнік ліста плаціць абавязаны.*

*Таксама ставіцца ў вядомасць, што на тракт адгэтуль у Менск і Коўню, Панявежыс, Цяльшай і частку Польшчы ў гэтым боку, а таксама ў Каралеўства Прускае паштовы рух ужо адкрыты. У Менск адгэтуль пошта адпраўляецца ў аўторак і пятніцу... заўсёды ў 12 раніцы. Паштамт жа будзе прымаць лісты да 11 гадзін."*

Далей у паведамленні гаворыцца, што *"калі б хто пажадаў сабе"* выпісаць газету "Літоўскі кур'ер",

*“можа ў любы час занесці рублёў сем”*, і будзе атрымліваць газету да канца 1812 года.

**“Літоўскі Кур’ер” №82 ад 10. X. 1812 г.**

*“Генеральная Дырэкцыя пошт у Вялікім Княстве Літоўскам інфармуе аб далейшым становішчы (стане) паштовых устаноў.*

*Дырэкцыя пошт у ВКЛ апавяшчае зацікаўленую ў ліставой карэспандэнцыі грамадскасць, што не толькі ў мясцовым дэпартаменце ва ўсіх паветах пошта акуратна і своечасова вытрымлівае свой курс, але і ў дэпартаменце Менскім праз Вілейку, Даўгінаў да Глыбокага і Полацка і ў другі бок да Барысава, Ігумена, Нясвіжа (дзе ёсць паштамт), Клецка, Слуцка, Пінска і да прылеглых наваколляў. У іншых паветах гэтага дэпартамента неўзабаве Дырэкцыя спадзяецца наладзіць экспедаванне карэспандэнцыі з Менска праз Оршу да Віцебска і Магілёва і ў прылеглыя паветы. Толькі варта папярэдзіць адпраўнікоў, жадаючых паслаць лісты ў гэтыя дэпартаменты, каб яны на сваіх паштамтах пры пасылцы карэспандэнцыі “належнае марторыюм аплачвалі”, бо на месцах тарыф яшчэ не ўведзены. Таксама ў дэпартаментах Гарадзенскім і Беластоцкім усталяваныя сувязі для ліставой карэспандэнцыі з Брэст-Літоўскам, Слонімам, Нясвіжам, Наваградкам і іншымі павятовымі гарадамі, дзе адкрытыя экспедыцыі. Дырэкцыя Літоўскіх пошт пры дзелавой дапамозе адміністрацыі дэпартаментаў і падпрэфектур спадзяецца неўзабаве, што ва ўсіх Літоўскіх дэпартаментах будзе наладжана перасылка лістоў, а сёння запэўнівае грамадскасць, што ў вышэйпералічаных гарадах карэспандэнцыя паступае рэгулярна. Пры гэтым паўтарае паведамленне аб часе адпраўкі і атрыманні карэспандэнцыі ліставой з іншых паштовых трактаў.*

*а) Праз* ***Ліду*** *да Наваградка, Нясвіжа, Слоніма, Гародні, Брэст-Літоўска і да Беластока, Варшавы і нават да Французскіх і Нямецкіх дзяржаў адпраўляецца адгэтуль* (з Вільні - Л.К.) *у аўторак і пятніцу да паўдня, у гэтыя ж дні адыходзіць пошта ў Браслаў, Свянцяны і Друю.*

*б) Прыходзіць жа пошта сюды ў суботу і сераду каля паўдня, а таксама ў Менск і гарады гэтага дэпартамента, таксама з Віцебска і Магілёва ...*

*д)Лісты ў розныя месцы адрасаваныя ў кожны час у экспедыцыю паштамта мясцовага могуць быць аддадзеныя, а ў дні адыходу пошт прыватныя да 10 гадзін, а ўрадавыя лісты да 11 перад паўднём прымацца будуць.*

*Датавана: 1812 года, месяца кастрычніка, 3 дня ў Вільні. Енеральны (Jeneralny) Дырэктар Пошт у Вялікім Княстве Літоўскам Антоні Празор.”*

Гэта было адно з апошніх паведамленняў Генеральнага Дырэктара Пошт у адноўленым ВКЛ А. Празора аб працы пошты. Войска Напалеона да зімы 1812 года ўжо цярпела паразы.У канцы кастрычніка 1812 года пошта перастала існаваць.

Пасля выгнання “Вялікага Войска” з Расійскіх заходніх губерняў і ўступлення туды расійскіх войскаў, камандуючы перадавой групай войскаў генерал - ад’ютант граф Ажароўскі рапартаваў генерал-ад’ютанту Васільчыкаву, камандуючаму 4-м кавалерыйскім корпусам, што ім 9 снежня 1812 года арганізаваная “штафета” - “лятучая пошта” паміж мястэчкам Каменка і горадам Вільняй. На паштовых станцыях было пасаджана па 3 казакі і 1 ураднік, на якога была ўскладзена ўся адказнасць за перасылку і захаванасць пошты. Галоўнай стаянкай групы казакоў была абрана паштовая станцыя ў Салечніках. Пры рапарце граф Ажароўскі прадставіў спіс найважных паштовых станцый на гэтым тракце, дзе павінна адбывацца змена казакоў і коней: Каменка, Шчучын - 14 вёрст, Ішчолна - 14 вёрст, Радзівонішкі - 18 вёрст, Ліда - 20 вёрст, Жырмуны -14 вёрст, Воранава - 14 вёрст, Вялікія Салечнікі - 16 вёрст, Едліна - 21 вярста, Вільня - 22 вярсты, разам - 153,5 вярсты.

Указам Сената ад 16 чэрвеня 1826 года паштовы гасцінец на Вену быў перанесены на Дынабург (Дзвінск, Даўгаўпілс). 22 кастрычніка 1830 г. быў апублікаваны агульны штат паштовага кіравання. Паводле гэтаму штату была арганізавана 5-я паштовая акруга, у якую ўвайшлі Віленская (а пазней і Ковенская) і Гарадзенская губерні (з паветамі Валожынскім, Лідскім і інш.). Галоўная кватэра акругі на чале з пошт інспектарам была акрэдытавана ў Вільні. Адмысловым распараджэннем 28 студзеня 1832 года быў ліквідаваны Літоўскі паштамт і ўсе паштовыя тракты, паштовыя аперацыі ў паветах былі аддадзеныя пад юрысдыкцыю губернскіх паштовых кантор у Гародні і Вільні.

Лідская павятовая паштова-тэлеграфная кантора (ПТК) тэрытарыяльна ўваходзіла ў склад Гарадзенскай губерні і падпарадкоўвалася Гарадзенскай губернскай ПТК. У 1843 годзе Лідскі павет быў перададзены ў склад Віленскай губерні (Гарадзенская і Віленская губерні былі ўтвораны ў верасні 1801 года ад падзелу Літоўскай губерні). Лідская ПТК перайшла ў падначаленне Віленскай губернскай ПТК.

Усе паштовыя аперацыі на тэрыторыі Лідскага павету падпарадкоўваліся Лідскай ПТК. Трэба сказаць, што паштовыя аперацыі ў сярэдзіне XIX стагоддзя на тэрыторыі Лідскага павета былі вельмі слабымі, усяго ў суме ва ўсіх паштовых аддзяленнях і паштовых канторах Лідскага павета ад 1854 да 1860 года было паслана і атрымана лістоў:

| Год | Паслана | Атрымана |
|---|---|---|
| 1854 | 5900 | 7100 |
| 1855 | 6800 | 8050 |
| 1856 | 5995 | 7100 |
| 1857 | 6260 | 7200 |
| 1858 | 6480 | 7650 |
| 1859 | 7020 | 7450 |
| 1860 | 8710 | 9424 |
| **Усяго** | 47165 | 53974 |

Паводле гэтых дадзеных Лідскі павет у тыя гады займаў 2-ое месца пасля Віленскага па колькасці паштовых перасылак.

У 1860-1862 гадах праз паўночна-заходні ўчастак Лідскага павету была пракладзеная чыгуначная лінія Санкт-Пецярбург - Варшава праз Вільню, на якой былі пабудаваныя станцыі - Вільня, Ландвараў, Руднікі,

Алькенікі, Араны, Марцінканцы, Парэчча і Гародня. У 1871 годзе была здадзеная ў эксплуатацыю Маскоўска-Берасцейская чыгунка, на якой былі размешчаныя станцыі Менск, Фаніпаль (тады Франапаль), Негарэлае, Стоўбцы, Гарадзея (тады Гародзей), Пагарэльцы і Баранавічы.

У 1884 годзе была ўведзеная ў дзеянне чыгунка Вільна-Роўна, далучаная да Палескіх чыгунак са станцыямі Яшуны, Беняконі, Бастуны, Ліда, Нёман, Наваельня, Моўчадзь, Баранавічы, а ў 1906 годзе - лінія Полацка - Сядлецкая Мікалаеўская чыгунка са станцыямі Маладзечна, Палачаны, Лістапады, Дзесятнікі, Ярасьшышкі, Гаўя, Ліда, Скрыбава, Ражанка, Масты, Падрось, Ваўкавыск. Па меры наладжвання руху паштовых вагонаў па ізноў пабудаваным чыгунках, усе паштовыя курсы - з конных трактаў, былі перамешчаныя на чыгунку, а на чыгуначных станцыях былі адчыненыя паштовыя аддзяленні для прыёму і выдачы карэспандэнцыі.

З уводамі ў эксплуатацыю чыгунак ад станцыі Ліда і адкрыцці рэгулярнага руху паштовых вагонаў на чыгуначных станцыях Маладзечна, Ваўкавыск, Юрацішкі, Гаўя, Скрыбаўцы і Ражанка ў 1906 годзе былі адкрытыя паштовыя аперацыі з простай карэспандэнцыяй, і вядзенне гэтых аперацый было даручана начальнікам станцый.

* * *

Патрэбнасць у хуткай перадачы паведамленняў на адлегласць паўстала яшчэ ў глыбокай старажытнасці ў часы першабытна-абшчыннага ладу. Сродкі і спосабы, якія задавальнялі такую патрэбнасць, адпавядалі матэрыяльнай культуры народаў той эпохі.

Першапачаткова скарыстоўваліся простыя сродкі гукавой і аптычнай сігналізацыі, напрыклад, касцяныя свісткі і барабаны, гукам якіх можна было сабраць групу людзей для сумеснага палявання на буйнога звера або для якіх-небудзь іншых сумесных дзеянняў. З аптычных сродкаў сігналізацыі скарыстоўваліся дымавыя і светлавыя сігналы, якія падаваліся падпаленымі вогнішчамі, асабліва ў тых выпадках, калі вельмі важная падзея, пра якую трэба было паведаміць у загадзя ўмоўленае месца, адбылася вельмі далёка. У трагедыі Эсхіла "Агамемнон" падрабязна распавядаецца, як яшчэ за шмат стагоддзяў да нашай эры, з дапамогай вогнішчаў, праз шэраг прамежкавых пунктаў, на адлегласці ў некалькі сот кіламетраў, з Малой Азіі ў Мікенскі замак была перададзена вестка аб узяцці грэкамі горада-дзяржавы Троі.

Гукавыя і светлавыя сігналы былі вядомыя ўсім народам і скарыстоўваліся галоўным чынам у ваенны час. Аптычны семафорны тэлеграф з механічнымі прыладамі на станцыях для ўстаноўкі далёка бачных сігналаў дазваляў перадаваць любыя весткі.

Удасканаленая сістэма падачы аптычных сігналаў была вынайдзеная ў XVII-XVIII стагоддзях. Сістэма падачы аптычных сігналаў складалася з пабудаваных вежаў, на якіх былі збудаваныя бачныя здалёку сігнальныя дошкі - крыжы, куты, гарызантальныя адрэзкі. Адлегласць паміж вежамі складала каля 10 км. Сігналы на вежах чыталіся і з дапамогай падзорных труб. Рабілася гэта для дакладнасці і ўпэўненасці ў прачытаных сігналах. Створаны на гэтых умовах братамі Шапо (Chappe, Францыя) у 1780 годзе аптычны тэлеграф атрымаў шырокае распаўсюджванне ў Еўропе. Перамогі Напалеона ў яго войнах былі здабытыя шмат у чым дзякуючы аптычнаму тэлеграфу - хуткая перадача звестак, распараджэнняў, перахоп варожых загадаў, розных дадзеных - усё гэта спрыяла поспехам Вялікага войска.

Урад Мікалая I пасля падзей 1812 і 1825 года вырашыў выкарыстаць нечаканыя магчымасці аптычнага тэлеграфа братоў Шапо, і ў 1833 годзе было аддадзена распараджэнне аб пачатку будаўніцтва лініі аптычнага тэлеграфа. З гэтай мэтай набылі за 120000 рублёў у французскага вынаходніка Шапо яго сістэму аптычнага тэлеграфа, якая ўяўляе сабой удасканаленую канструкцыю тэлеграфа братоў Шапо. Гэтая тэлеграфная лінія служыла для хуткаснай перадачы важных урадавых паведамленняў і прызначалася толькі для дзяржаўнага выкарыстання. Уся лінія складалася з 149 станцый, размешчаных на ўзвышшах і цалкам адкрытых мясцовасцях. Усе станцыі былі пабудаваныя па адзіным праекце - вежа вышынёй да 20 метраў з семафорам, дом, выфарбаваны ў ярка жоўты колер, абавязкова студня і плот вакол пабудоў. Семафорныя вежы былі выфарбаваныя ў чорны колер.

Аб выглядзе семафорных станцый на тэрыторыі Беларусі мы можам меркаваць толькі па апісанні. У архівах яшчэ не знойдзена сапраўднай выявы, малюнка, чарцяжа, выгляду гэтых станцый. Як гаварылася вышэй, аптычны тэлеграф быў шырока распаўсюджаны ў Заходняй Еўропе. Асобныя станцыі, хай у змененым выглядзе, захаваліся па гэты дзень. У розных краінах Еўропы адзначаліся розныя юбілеі мясцовых аптычных тэлеграфаў, што захавана ў філатэліі. Каб мець уяўленне, як выглядала станцыя аптычнага тэлеграфа, паказваю паштовую картку выдадзеную ў ГДР у 1982 годзе да 150-годдзя аптычнай тэлеграфнай станцыі ў горадзе Бурге (1832-1982) *(мал. 3.)*.

Тыя знакі (код), якія паказваў семафор, разумелі толькі на канцавых станцыях -у Пецярбурзе і ў Варшаве. Тэлеграфісты на прамежкавых станцыях не разумелі знакаў, яны не ведалі, што перадаюць. Семафорныя знакі яны толькі паўтаралі. Гэтую лінію аптычнага тэлеграфа звалі Варшаўскай. Знаходзілася яна ў падначаленні вайсковага ведамства Расіі. Уся тэлеграфная лінія была падзеленая на 6 дырэкцый. У першых пяці дырэкцыях налічалася па 25 перадатачных станцый у кожнай, шостая дырэкцыя складалася з 24 станцый.

Для абслугоўвання кожнай дырэкцыі была створаная т. зв. "тэлеграфная камісія". На кожнай станцыі меўся абслуговы персанал, які складаўся з аднаго малодшага афіцэра, двух старэйшых і двух малодшых "сігналістаў" (назіральнікі з падзорнай трубой і службовец для запісу дэпеш) і адзін вайсковец інвалід у якасці служкі.

4-я дырэкцыя гэтага тэлеграфа знаходзілася ў Вільні. У склад гэтай дырэкцыі ўваходзілі тэлеграфныя станцыі ад вёскі Гары Браслаўскага паветаўда вёскі Адзвярышкі Лідскага павету. На поўдзень ад Вільні тэлеграфныя станцыі размяшчаліся ў наступных месцах:




***Мал. 3.***

станцыя №14 у г. Вільня на Замкавай гары
станцыя №15 каля засценка Падвысокае
станцыя №16 каля вёскі Папоўшчына
станцыя №17 каля мястэчка Парудоміна
станцыя №18 каля мястэчка Яшуны
станцыя №19 каля карчмы Гудзелка .
станцыя №20 каля карчмы Смалянка
станцыя №21 каля вёскі Расцюны
станцыя №22 каля вёскі Рэзы
станцыя №23 каля вёскі Юршышкі
станцыя №24 каля вёскі Гарнастайшкі
станцыя №25 каля вёскі Адзвярышкі

5-я дырэкцыя размяшчалася ў Гародні. Ёй падпарадкоўваліся станцыі ад вёскі Адзвярышкі да мястэчка Цікоцін:

станцыя №1 каля фальварка Палашкі
станцыя №2 каля вёскі Ядловіцы
станцыя №3 каля вёскі Казьляны
станцыя №4 каля фальварка Вугольнікі
станцыя №5 каля засценка Вуглы
станцыя №6 каля вёскі Кулоўцы
станцыя №7 каля вёскі Раганічэ
станцыя №8 каля карчмы Шклёнск
станцыя №9 каля карчмы Бервы
станцыя №10 каля фальварка Корчыкі
станцыя №11 каля фальварка Разаліна
станцыя №12 каля мястэчка Сакрэт
станцыя №13 каля г. Гародні на даху вайсковага шпіталя "Новы замак".

Адкрыццё новай тэлеграфнай лініі адбылося 10 красавіка 1839 года, а 29 красавіка царом Мікалаем I быў зацверджаны статут гэтай лініі. Аптычны тэлеграф Варшава - Санкт-Пецярбург дзейнічаў да 1856 года. Канцавая станцыя аптычнага тэлеграфа ў Пецярбурзе знаходзілася ў адмыслова надбудаванай невысокай вежы на даху Зімовага палаца (якая існуе дагэтуль). Карыстаючыся азбукай Шато, можна было перадаваць літары, словы і фразы. Семафорны тэлеграф быў для таго часу прагрэсіўным, але меў істотныя недахопы - немагчымасць ажыццяўляць сувязь у імглістыя і дажджлівыя дні, а таксама ў начны час, вялікую трату часу на перадачу вестак, складанасць яго эксплуатацыі, чым выклікаліся значныя грашовыя выдаткі. На лініі Варшава - Пецярбург працавала звыш 1000 чалавек. Аптычны тэлеграф на землях Лідчыны праіснаваў да 1856 года, саступіўшы месца электрычнаму.

У 1837 годзе амерыканскі вынаходнік Самуэль Морзэ пабудаваў тэлеграфны апарат, які дзейнічаў на асновах электрамагнетызму. У 1852 годзе нямецкая фірма "Сіменс і Хальске" у Берліне па дамоўленасці з царскім урадам пачала будаўніцтва новай электрычнай тэлеграфнай лініі з Санкт-Пецярбурга ўздоўж шашы Царскае Сяло - Гатчына - Дынабург (Дзвінск, Даўгаўпілс) - Коўня (Каўнас) праз Гародню і далей да Варшавы. 15 красавіка 1854 года Мікалаем I быў зацверджаны статут новай лініі. Будаўніцтва лініі было скончана 10 лістапада 1856 года, але ў эксплуатацыю ўрад Расіі прыняў яе толькі ў 1857 годзе. Лінія абслугоўвалася

нямецкімі спецыялістамі сумесна з расійскім персаналам. У 1860 годзе ўвесь нямецкі абслуговы персанал быў заменены мясцовымі тэлеграфістамі і тэхнікамі, Лінія была падпарадкавана вайсковаму ведамству. Усе тэлеграфісты насілі мундзіры, шаблі, шпоры. Калі была пабудаваная чыгунка Санкт-Пецярбург - Варшава, тэлеграфная лінія была пракладзеная ўздоўж чыгуначных шляхоў, што палегчыла яе абслугоўванне.

У 1875 годзе была створана Віленская паштовая акруга, у якую ўвайшлі цяперашнія землі Гарадзеншчыны і Лідчыны.

Першыя тэлефонныя лініі на Лідскай зямлі былі пракладзеныя паміж шклянымі фабрыкамі “Нёман-А” (старая гута ў Астроўне) і “Нёман-Б” (новая фабрыка) у 1894 годзе. У маёнтках Жалудок і Ліпічна тэлефонная сетка была пабудаваная ў 1902 годзе. Першая тэлефонная лінія ў Лідзе злучыла бровары спадчыннікаў Н. Пупко і Папірмейстра ў 1907 годзе. Адміністрацыі маёнткаў у Шчучыне і Станіслававе (пад Гародняй) былі злучаныя тэлефоннай лініяй у 1908 годзе. У 1909 годзе была пабудаваная тэлефонная лінія, якая злучае адміністрацыі валасных кіраванняў у Сабакінцах, Нарошы і Астрыне з канцылярыяй земскага начальніка 5-й акругі Лідскага павету ў Марыямпалі пад Астрыной. Цікавы той факт, што ўсе гэтыя тэлефонныя лініі былі ўласнасцю асобных уладальнікаў і не прызначаліся для грамадскага карыстання.

Усе паштовыя ўстановы Лідчыны маюць сваю цікавую і даўнюю гісторыю, якую яшчэ неабходна адкрыць, і апісаць краязнаўцам.

**Гістарычныя дадзеныя аб паштовых аддзяленнях Лідскага краю да 1917 года, а таксама новыя дадатковыя звесткі аб пошце ў Лідзе даюцца ніжэй:**

**ЛІДА**

У матэрыял аб пошце ў Лідзе, апублікаваны ў № 3-4 “Лідскага летапісца” за 2004 год (стар. 42) была ўнесена рэдакцыйная ўстаўка аб тым, што ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі сярод старой карэспандэнцыі маецца ліст, датаваны 20 сакавіка 1844 года, на якім пастаўлены т.зв. дамарачны штэмпель - слова “ЛІДА” у касой рамцы. За час мінулы з моманту публікацыі гэтых звестак удалося знайсці больш ранні паштовы штэмпель Ліды, датаваны (меркавана) 1839 годам. Штэмпель уяўляе сабой слова “ЛІДА” напісанае своеасаблівым мастацкім шрыфтам. Назва пошты падкрэслена адной лініяй. Дата адпраўлення пастаўлена на лісце ад рукі, але не вельмі чытэльная. Колер масцікі штэмпеля - чорны. Пошукі дамарачных штэмпеляў Ліды працягваюцца.

***Мал. 4***

У 1936-1939 гг. у Лідзе працавала т.зв. перонная пошта. Яе службоўцы прымалі простую і заказную карэспандэнцыю, а таксама тэлеграмы ў пасажыраў цягнікоў, якія праходзілі праз станцыю Ліда. Для выканання гэтай аперацыі службоўцы пероннай пошты прахаджваліся ўздоўж цягніка і, не заходзячы ў вагоны, прапаноўвалі свае паслугі. У службоўцаў гэтай пошты былі фуражкі з надпісам “Перонная пошта” (“Poczta Peronowa”), а таксама на папружках на шыі віселі невялікія скрыначкі чырвонага колеру з наборам паштовых марак, картак, канвертаў і паперы, а таксама бланкаў тэлеграм. На скрыначцы белай фарбай было напісана “Poczta Peronowa“. Перонная пошта з’яўлялася складовай часткай вакзальнага паштовага аддзялення Ліда-2. На прынятай карэспандэнцыі ставіўся дапаможны адмысловы штэмпель чырвонага колеру з надпісам “Poczta Peronowa / Lida 2“ Ліда 2” (“Перонная пошта / Ліда-2)”, а прыняты заказная карэспандэнцыя адзначалася штэмпелем з тэкстам: “R / Lida 2 / Poczta Peronowa / № .....” (“З / Ліда-2 / Перонная пошта / №...”) Колер гэтых штэмпеляў - чырвонага колеру *(мал. 5.)*.




***Мал. 5***

Для пазначэння бясплатнай службовай карэспандэнцыі некаторыя дзяржаўныя ўстановы скарыстоўвалі адмысловыя штэмпелі... Так на ўсёй карэспандэнцыі, якая выходзіла з канцылярыі магістрата г. Ліды ў 1937-1939 гг. ставіўся круглы штэмпель (Ф45мм) з малюнкам герба і тэкстам “MAGISTRAT m. LIDY / Stempel listowy” (“Магістрат г. Ліды / Штэмпель для лістоў”) *(мал. 6.)*.




***Мал. 6***

У 1939 годзе начальнікам Лідскай пошты быў інжынер Ян Драбязгевіч.

Паводле “Спісу абанентаў тэлефоннай сеткі Дырэкцыі акругі пошт і тэлеграфаў у Вільні на 1939 год” Лідская пошта мела больш за 30 нумароў тэлефонаў. У горадзе мелася даведкавае тэлефоннае бюро, (тэл. № 231), бюро выпраўлення непаладак (рамонт сеткі і тэлефонаў), а таксама бюро паслуг - прыём тэлеграм па








***Мал. 7***

тэлефоне ад насельніцтва. Амаль усе начальнікі паштовых аддзяленняў і кіраўнікі аддзелаў, а таксама дзяжурныя механікі мелі кватэрныя тэлефоны.

Чыгуначная станцыя ў Лідзе мела свой невялікі камутатар з некалькімі дадатковымі нумарамі. Яны былі ўстаноўлены ў начальніка дарожнага аддзела, на электрастанцыі і чыгуначным тэлеграфе.

У канцы 20-х пачатку 30-х гадоў у Польшчы многія ўстановы і фірмы, якія мелі вялікі аб'ём перапіскі, у мэтах прэстыжу, пачалі скарыстоўваць франкіравальныя штэмпельныя машыны. Гэтыя машыны пастаўляліся ў Польшчу з-за мяжы - з Англіі і Нямеччыны. Першай формай, машыны якой былі ўведзеныя ў эксплуатацыю ў краіне, была ангельская фірма "Universal Postal Frankevs Ltd" у Лондане. У розныя гады пастаўляліся машыны тыпу "Midget", яны адрозніваліся канструктыўнымі ўдасканаленнямі і насілі найменні "Midget - 3", "Midget - 5" і г. д.

Уладальнікі лідскіх фірм набылі некалькі такіх франкіравальных машын. Штэмпель такой машыны складаўся з трох частак: - своеасаблівага знака паштовай аплаты з малюнкам герба дзяржавы і надпісу "POCZTA POLSKA", адраса і наймення фірмы або фабрыкі, прадпрыемства або дзяржустановы і каляндарнага круглага штэмпеля з перакладнай датай. Пакуль удалося знайсці толькі франкіравальны штэмпель лідскай фірмы "Ardal". У філатэлістычнай даведкавай літаратуры паказваецца што штэмпель скарыстоўваўся ў 1939 годзе. Магчыма скарыстоўваўся і раней, але не знойдзена больш ранніх адбіткаў на карэспандэнцыі. Для такіх штэмпеляў скарыстоўвалася масціка чырвонага колеру *(мал. 7)*.

У матэрыяле "Пошта ў Лідзе" ("Лідскі Летапісец" № 3-4, стар. 46-47, 2004 г.) паказвалася, што ў 30-х гадах у Лідзе працавала 4 паштовых установы, дзякуючы ласцы вядомага польскага публіцыста, філатэліста і знаўцы гісторыі пошты Вітольда Журоўскага-Граеўскага, маю магчымасць паказаць перадваенны план горада Ліды з указаннем размяшчэння 3-х паштовых аддзяленняў.

1. Галоўны паштамт у цэнтры горада - "Ліда-1".

2. Паштова-тэлеграфнае агенцтва на чыгуначнай станцыі - "Ліда-2"

3. Паштовае агенцтва на тэрыторыі вайсковай залогі (казармы імя маршала Рыдза-Сміглага) - "Ліда-3". Месца размяшчэння паштовага агенства "Ліда-4" на плане не паказана *(мал. 8)*.

**АСТРЫНА (Астрыно)**

Паштовые аперацыі с простой карэспандэнцыяй пры валасным кіраванні ў Астрыне былі пачаты ў сакавіку 1901 года. Астрына была злучана паштовым трактам са Шчучынам. У ліпені1910 года тут было адчынена паштовае аддзяленне, рэарганізаванае праз год у паштова-тэлеграфнае. Да 1915 года начальнікам аддзялення быў Георгі Турын.

**БАСТУНЫ**

У сакавіку 1885 года на чыгуначнай станцыі Бастуны быў наладжаны абмен поштай з паштовымі вагонамі, а таксама сталі магчымымі падача і прыём тэлеграм па ўсёй Расійскай імперыі. Усе паштовыя аперацыі ў ізноў адчыненым паштовым аддзяленні было даручана выконваць начальніку чыгуначнай станцыі Бастуны. У 1887 годзе ў пасёлку Бастуны была адчыненая паштовая станцыя з правам прыёму і выдачы простай і заказной карэспандэнцыі, а таксама грашовых пераводаў. Начальнікам гэтай паштовай станцыі быў Андрэй Самусёнак. З 1 студзеня 189l года паштовая станцыя ў Бастунах была ператвораная ў паштовае аддзяленне. Гэтым аддзяленнем кіраваў з 1891 года Сцяпан Кісялёў, з 1895 - Мікалай Пятроў, з 1901 - Кузьма Капаніцкі. У чэрвені 1903 года паштовае аддзяленне ў Бастунах было ліквідавана як нерэнтабельнае, маланаведванае і г.д. А ўсе паштовыя аперацыі ізноў былі перададзеныя на станцыйнае аддзяленне. Начальнікам чыгуначнай станцыі Бастуны і адначасова мясцовым паштмайстрам да 1911 года быў Уладзімір Міхайлаў, а затым Пётр Хацкевіч. Станцыйнае паштовае аддзяленне абслугоўвала ўсю жырмунскую воласць. У "Паштова-тэлеграфным часопісе" у спісах паштовых устаноў Расіі, паштовае аддзяленне ў Бастунах імянуецца як *"станцыйнае паштовае аддзяленне ў Бастунах Палескіх"*.

**БЕЛІЦА**

Паштовая станцыя ў Беліцы на дарозе Навагрудак - Гародня была вядомая з 1803 года. На паштовай карце Расіі 1817 года Беліца паказаная як паштовая станцыя на гасцінцы Ліда - Слонім, ад Дзятлава - 21 вярста. Пасля закрыцця паштовага тракта на Беліцу ў 1820 годзе бліжэйшай паштовай станцыяй ад Беліцы была паштовая станцыя Нёман. У Беліцы 1 студзеня 1914 года было адчынена паштова-тэлеграфнае аддзяленне, злучанае з чыгуначнай станцыяй Нёман.




***Мал. 8***

**БЕНЯКОНІ**

Паштовая станцыя на гасцінцы Ліда-Вільня. Пазначаная на паштовай карце Расіі 1817 года, за 26 вёрст ад Едліны і за 23 вярсты ад Сакалова. Да 1885 года паштовая станцыя ў Беняконях захоўвала ўсе правы паштовых станцый - прыём і выдача простай і заказной карэспандэнцыі. У тым жа годзе ўсе паштовыя аперацыі па прыёме і выдачы карэспандэнцыі былі перанесеныя на чыгуначную станцыю Беняконі, з гэтай станцыі таксама ажыццяўлялася тэлеграфныя стасункі з усімі гарадамі Расіі. Усе гэтыя аперацыі былі даручаныя начальніку чыгуначнай станцыі. Участак чыгункі Ліда-Беняконі быў уведзены ў эксплуатацыі ў 1884 годзе. З 1 верасня 1891 года на чыгуначнай станцыі Беняконі было адчынена самастойнае паштовае аддзяленне, якое ўзначальваў Андрэй Паліваны. З 1893 года паштовае аддзяленне ўзначальваў Ібрагім Гямбіцкі, з 1 траўня 1900 года - Сцяпан Харневіч, з 1906 - Уладзімір Лашчук. У пачатку XX стагоддзя паштовае аддзяленне са станцыі было перанесена ў само мястэчка Беняконі. У траўні 1909 года паштовае аддзяленне было рэарганізавана ў паштова-тэлеграфнае. Яго ўзначальваў з 1911 года Вікенці Пальчаў. Паштова-тэлеграфнае аддзяленне ў Беняконях абслугоўвала насельніцтва воласцяў Беняконьскай і заходняй часткі Дзевяніскай.

**ВАСІЛІШКІ**

Паштовая станцыя ў Васілішках была адчыненая ў чэрвені 1878 года. На станцыі праводзіліся аперацыі з карэспандэнцыяй усякага роду. Паштовая станцыя ў Васілішках была злучаная паштовым трактам з паштовай станцыяй у Шчучыне, а з 1882 года з Ішчольнай. 1 студзеня 1891 года паштовая станцыя была ператворана ў паштовае аддзяленне. У 1893-1904 гг. дазорцам станцыі, а затым і начальнікам паштовага аддзялення быў Ян Трус, затым аж да 1915 года - Лявон Якубовіч. У 1906 годзе рух пошты (паштовы тракт) быў перанесены ў Скрыбаўцы. У ліпені 1909 года паштовае аддзяленне было ператворана ў паштова-тэлеграфнае.

**ВОРАНАВА**

Час адкрыцця паштовай станцыі ў Воранаве на тракце Ліда-Вільня невядомы. Па рашэнні Галоўнага Паштовага Дэпартамента Расіі паводле прадстаўлення начальніка Гарадзенскай паштовай акругі на гэтай станцыі з 1 студзеня 1843 года прымалася і выдавалася, як простая, так і заказная карэспандэнцыя. У 1885 годзе паштовая станцыя Веранова (Воранава) была злучаная з чыгуначнай станцыяй Бастуны паштовым трактам (9 вёрст), а ў 1905 годзе з чыгуначным паўстанкам Вераново (Воранава) -1,5 вярсты. З 1 студзеня 1891 года паштовая станцыя была ператвораная ў паштовае аддзя-

ленне. Дазорцам паштовай станцыі Веранова (Воранава) з 1871 года, а затым і начальнікам паштовага аддзялення аж да 1904 года быў Андрэй Рынгуцкі, а затым Вікенці Пальчаў. З 1911 года паштовым аддзяленнем кіраваў Мітрафан Сяцько. Паштовае аддзяленне ў Воранаве абслугоўвала воласці: Аляксандраўскую, Сядліскую і паўднёвую частку Беняконьскай. У траўні 1913 года паштовае аддзяленне было ператворана ў паштова-тэлеграфнае. У 1915 годзе паштовае аддзяленне з Воранава з усёй маёмасцю было эвакуявана ўглыб Расіі. Ніхто з службоўцаў пошты не вярнуўся на старое месца працы, не была вернута і маёмасць пошты, т.ш. яна была расфармаваная. У спісах паштовых установ Расіі (паводле “Паштова-тэлеграфнага часопіса”) да канца 70-х гадоў 19 стагоддзя, мястэчка, дзе было размешчанае паштовае аддзяленне, іменавалася “Воранаўская”.

**ДАКУДАВА**

Паштовыя аперацыі пры Дакудаўскім валасным кіраванні былі адкрытыя ў 1906 годзе. Паштовы тракт злучаў Дакудава з чыгуначнай станцыяй Нёман (17 вёрст).

**ДЗЕВЯНІШКІ**

Бліжэйшай паштовай станцыяй гэтага мястэчка ў 1885-1886 гг. былі Бенякон, пазней Жэмласлаў. У лютым 1908 года ў Дзевянішках было адчынена паштовае аддзяленне, якое ўзначаліў Аляксандр Байрашэўскі. Аддзяленне было звязана паштовым трактам з чыгуначнай станцыяй Беняконі. У 1910 годзе паштовы тракт быў перанесены на чыгуначную станцыю Юрацішкі праз Жэмласлаў.

**ЖАЛУДОК**

Паштовая станцыя ў Жалудку была адчыненая ў жніўні 1882 г. з правам паштовых аперацый з карэспандэнцыяй усякага роду - простай, заказной, страхавой. Паштовая станцыя ў Жалудку была звязаная з паштовай станцыяй у Ішчолне - 8,5 вёрст. З 1 студзеня 1891 года паштовая станцыя была ператвораная ў паштовае аддзяленне, а ў 1898 годзе была пабудаваная тэлеграфная лінія Жалудок - Шчучын, тады ж паштовае аддзяленне было ператворана ў паштова-тэлеграфнае. У 1906 г. дастаўка карэспандэнцыі (паштовы тракт) была перанесена з Жалудка на чыгуначную станцыю Скрыбаўцы (12 вёрст). Дазорцам станцыі з моманту яе ўтварэння, а потым начальнікам паштовага і паштова-тэлеграфнага аддзялення на працягу 33 гадоў быў Габрыель Раткевіч. Пад яго ж кіраўніцтвам у 1915 годзе Жалудокская паштовая кантора была эвакуяваная ў глыб Расіі, дзе праз некаторы час была расфармаваная.

**ЖЫРМУНЫ**

Паштовая станцыя на тракце Ліда-Вільня адчыненая ў сакавіку 1873 года.. На гэтай станцыі прымалася і выдавалася простая карэспандэнцыя. Усе паштовыя аперацыі выконваў дазорац станцыі. У 1878 годзе з чэрвеня на станцыі ўжо выдавалася і прымалася ўсякага роду карэспандэнцыя - простая і заказная. У 1885 годзе з уводам у эксплуатацыю на чыгуначнай станцыі Бастуны паштовага аддзялення, паштовая станцыя ў Жырмунах была зачыненая.

**ЖЭМЛАСЛАЎ (цяпер Жэмыслаў)**

Паштовае аддзяленне ў маёнтку Жэмласлаў, які належаў Уладзіславу Умястоўскаму, было адчынена ў студзені 1886 года пасля настойлівых і доўгіх просьбаў і стараннях гаспадара маёнтка. У лістападзе таго ж года яно было ператворана ў паштова-тэлеграфнае. Спачатку яно было злучанае паштовым трактам з паштовым аддзяленнем у Беняконях (33.3\4 вярсты), але ў 1900 годзе гэты курс быў перамешчаны да паштовага аддзялення ў Іўі (24 км), а ў 1907 годзе пошта з ПТК Жэмласлава адпраўлялася на чыгуначную станцыю Юрацішкі (13 км). Начальнікамі пошты ў Жэмлаславе былі: з 1886 г. - Мікалай Булык, з 1892 - Аляксандр Шубін,з 1897 - Андрэй Пусецкі, з 1905 - Аляксандр Барадзей.

**ЗАБАЛОЦЦЕ (цяпер Забалаць)**

У некаторых паштовых дакументах сустракаецца назва **Забалотнае**.

Паштовыя аперацыі пры валасным кіраванні тут былі адкрытыя для простай карэспандэнцыі з чэрвеня 1904 года. Забалоцце было злучанае паштовым трактам з Васілішкамі.

**ІЎЕ**

Паштовая станцыя ў Іўі вядомая па дакументах са студзеня 1877 года. Яна была злучаная паштовым трактам з Лідай праз Дзіковічы (29,5 вёрст). Дазорцам станцыі з 1 лютага 1881 года быў Сулейман Мурза - Мурзіч. У 1885 годзе паштовы тракт быў перанесены непасрэдна на Ліду - 35 вёрст. 1 студзеня 1891 года станцыя была ператвораная ў паштовае аддзяленне, а ў снежні 1896 года - у паштова-тэлеграфную кантору (ПТК) і злучаная тэлеграфнай лініяй з Лідай. З 1896 года начальнікам ПТК быў Кастусь Сівака, з 1910 - Ян Чарняўскі, з 1911 - Сцяпан Сенька. З 1907 года ўся карэспандэнцыя паступала не непасрэдна паштовымі трактамі ў ПТК Іўя, а паштовымі вагонамі на чыгуначную станцыю Гаўя (13 вёрст) і ўжо адгэтуль накіроўвалася ў ПТК Іўя. Паштовая кантора Іўя абслугоўвала воласці: Іўеўскую, Лугамавіцкую, Ліпніцкую, а з 1892 года па 1905 - Юрацішскую.

**ІШЧОЛНА**

На паштовай карце Расіі 1817 года паштовая станцыя Ішчолна, размешчаная за 15 вёрст ад Радзівонішак, і за 13 вёрст ад Шчучына. У 1850 годзе гэтую паштовую станцыю на таргах набыў, а затым утрымоўваў купец Спакойны. З 1864 года на гэтай станцыі ўтрымоўваліся толькі паштовыя коні для падмены. У 1906 годзе паштовая станцыя Ішчолна была зачыненая, хоць была абсталяваная і ўтрымоўвалася лепш за іншыя. Размяшчалася станцыя ў шырокіх мураваных будынках, якія належалі сям’і Скарбэк-Важынскіх, гаспадарам добр Ішчолна. У Ішчолне, як і ў Масявічах, ніякіх паштовых аперацый з карэспандэнцыяй не праводзілася. Простыя лісты, якія высылаліся, апускаліся ў паштовую скрыню, а карэспандэнцыя, што паступала - лісты і газеты - прывозілася з Ліды.

**КАМЕНКА**

На паштовай карце Расіі з 1817 года паштовая станцыя Каменка ўжо значылася, ад Шчучына 16 вёрст,

ад Скідаля 19 вёрст. У паштовых дакументах з сярэдзіны 19 стагоддзя не значыцца.

**ЛЕБЯДА**

У 1904 годзе пры валасным кіраванні былі адкрытыя паштовыя аперацыі з простай карэспандэнцыяй, г.зн. прыём і выдача простых лістоў. Населены пункт Лебяда быў размешчаны на паштовай дарозе Ліда - Гародня пры адгалінаванні тракта на Дзмітравічы і Алімпіянава. Лебяда была злучаная паштовым трактам з Лідай. У 1906 годзе гэты паштовы тракт быў перанесены ў Скрыбаўцы. У 1915 годзе паштовыя аперацыі пры валасным кіраванні яшчэ ажыццяўляліся.

**ЛУПЕНІЦА**

Конная паштовая станцыя ў Лупеніцы вядомая трохі раней за 1817 год (3 фурманы, 9 коней). На карце паштовых станцый, аддзяленняў і паштовых трактаў Расіі, выдадзенай у 1817 годзе, станцыя ў Лупеніцы ўжо паказаная. Была размешчаная на паштовым тракце Ліда - Наваградак (16 вёрст ад Ліды). Адгэтуль адна галіна накіроўвалася на Навіны (20 вёрст) да Наваградка, другая на Беліцу (16 вёрст) да Слоніма. Амаль да 1885 года пошта дастаўлялася з паштовай станцыі Лупеніца трактам на Дакудава і далей у Іўе. У 1850 годзе паштовую станцыю ў Лупеніцы ўтрымоўвала сям’я купца Спакойнага. У 1860 годзе паштовая станцыя была размешчана ў вёсцы Васькевічы (Ганчары), а ў 1880 г. - у фальварку Дзяковічы. Да 1885 года на гэтай станцыі былі адмененыя ўсякія паштовыя аперацыі і станцыя была ліквідаваная. Паштовы тракт таксама быў зачынены.

**МІЛЬКАЎШЧЫНА**

На паштовай дарозе Ліда - Гародня. У 1912 годзе тут мелася паштовае аддзяленне пад кіраўніцтвам Юльяна Глода. Гэтае аддзяленне было звязана паштовым трактам са Скідалем і Шчучынам. Абслугоўвала паселішча Каменку і Каменскую валасць. Паштовае аддзяленне ў Мількаўшчыне падпарадкоўвалася Гарадзенскай паштовай акрузе, адчынена ў снежні 1904 года.

**МАСЯВІЧЫ**

На паштовай карце Расіі 1817 года паштовая станцыя Разівонішкі паказаная за 15 вёрст ад Ліды (у надпісе на карце дапушчаная памылка - насамрэч вёрст 20), а ад Ішчолны за 17 вёрст. У 1850 годзе паштовыя станцыі ў Радзівонішках, Лідзе і Жырмунах утрымоўваў пасля таргоў купец Вольф Сольц. У 1860 годзе паштовая станцыя (пасля скасавання дамовы з купцом Сольцам) з Радзівонішак была перамешчаная ў Масявічы, размешчаныя за 18 вёрст ад Ліды. Пасля адкрыцця перавозак пошты па Пецярбургска-Варшаўскай чыгунцы ў Масявічах утрымоўваліся толькі абменныя паштовыя коні на тракце Ліда - Шчучын. У 1906 годзе ў сувязі з пераносам руху пошты па чыгунцы Ліда - Ваўкавыск, паштовая станцыя ў Масявічах была зачыненая.

**НАРОШЫ**

У Нарошах паштовыя аперацыі для простай карэспандэнцыі пры валасным кіраванні былі адкрытыя ў 1901 годзе. У Нарошах знаходзілася Дубіцкае валасное кіраванне.

**НЁМАН**

У снежні 1884 года на чыгуначнай станцыі Сялец была адчыненая паштовая станцыя, дзе прымалася і выдавалася простая і заказная карэспандэнцыя, а таксама праводзілася адпраўка тэлеграм. Паштовая станцыя звалася Сялец, як і размешчаная побач вёска. Дазорцам станцыі з 11 сакавіка 1885 года быў Тэадор Гуйло, які пасля пераўтварэння і пераназвання станцыі ў паштовае аддзяленне Нёман - з 1 студзеня 1891 г. - застаўся начальнікам гэтага паштовага аддзялення. З 1907 года начальнікам быў Анастасій Ігнаццеў. У ліпені 1909 года паштовае аддзяленне было ператворана ў паштова-тэлеграфнае. Яно абслугоўвала воласці: Дакудаўскую, Беліцкую і Ганчарскую.

**РАДУНЬ**

Да 1905 года мястэчка Радунь і валасць абслугоўваліся паштовым аддзяленнем у Эйшышках. У ліпені 1905 года ў Радуні было адчынена паштовае аддзяленне, якое мела непасрэдную трактавую сувязь праз Эйшышкі з чыгуначным паўстанкам Веранова (Воранава). У жніўні 1910 года паштовае аддзяленне рэарганізавана ў паштова-тэлеграфную кантору (ПТК). Начальнікам ПТК з дня заставання канторы быў Кастусь Лапінскі, у канцы 1910 года кіраўніком канторы быў прызначаны Павел Ластоўскі.

**САБАКІНЦЫ**

У 1907 годзе для простай карэспадэнцыі пры валасным кіраванні былі адкрытыя паштовыя аперацыі. Сувязь паштовым трактам з Васілішкамі.

**СУБОТНІКІ**

У 1878 годзе паштовая станцыя ў Суботніках значылася ў пераліку паштовых установаў губерні (адчыненая ў студзені 1877 г.). Праз Гальшаны і Ашмяны яна была звязаная паштовым трактам з чыгуначнай станцыяй Солы. У 1883 г. на паштовай станцыі ў Суботніках праводзіліся ўсякага роду паштовыя аперацыі. Адначасова з адкрыццём у Жэмлаславе ПТК у 1886 годзе паштовая станцыя ў Суботніках была скасаваная. У лютым 1913 года па настойлівай просьбе мясцовых жыхароў паштовыя аперацыі ў Суботніках былі адкрытыя пры валасным кіраванні.

**ШЧУЧЫН**

Паштовая станцыя ў Шчучыне вядомая з 1803 года. Ужо ў пачатку XIX стагоддзя на станцыі праводзіліся ўсякія паштовыя аперацыі з карэспандэнцыяй, але толькі з простай. Па дадзеных “Паштова-тэлеграфнага часопіса” на Шчучынскай паштовай станцыі з красавіка 1844 года ўжо прымалася і выдавалася простая, заказная і страхавая карэспандэнцыі. У 1850 годзе паштовую станцыю ў Шчучыне набыў на таргах купец Эпштэйн, і яна паступова падупадала. Да 1873 года на станцыі, як і ў пачатку стагоддзя, аперацыі праводзіліся толькі з простай карэспандэнцыяй. Паступова праца на станцыі ажыўляецца, і да 1875 года станцыя ізноў

набывае "паштовае значэнне". Аб'ём праходжанняў праз станцыю простай і заказной карэспандэнцыі значна вырас. З 1 студзеня 1891 года паштовая станцыя ў Шчучыне атрымала статус паштовага аддзялення, якое з 1 студзеня 1896 года было рэарганізавана ў паштова-тэлеграфнае. Дазорцам станцыі з 2 студзеня 1871 года, а затым і начальнікам паштовага аддзялення быў Геранім Рэксць, Пётр Клокаў узначаліў шчучынскую пошту з 1904 года, а з 1907 ёю кіраваў Самуіл Цімашкоў.

У 1909 годзе Шчучынскае паштова-тэлеграфнае аддзяленне абслугоўвала воласці - Шчучынскую, Ражанскую, Лацкую (Дэмбравіцкую), Астрынскую і Дубіцкую (Навадворскую). Шчучын быў звязаны паштовым трактам з Лідай, а з 1906 года з чыгуначнай станцыяй Ражанка, куды накіроўвалася выхадная карэспандэнцыя і адкуль паступала ўваходная.

**ЭЙШЫШКІ (цяпер Эйшышкес - Літва)**

Паштовая станцыя ў Эйшышках вядомая са студзеня 1875 года. На ёй ажыццяўляліся ўсе паштовыя аперацыі - выдача і прыём простых і заказных лістоў. Станцыя была звязаная паштовым трактам з Верановым (Воранавым) - 20 3\4 вярсты. Дазорцам станцыі з 1 студзеня 1881 года быў Стэфан Вайноўскі. У 1885 годзе паштовы тракт (траса пошты, прыём пошты) быў перанесены ў Бастуны (22,5 вярсты). Таму з 1 студзеня 1891 года паштовая станцыя ў Эйшышках была ператвораная ў паштовае аддзяленне. З 29 лістапада 1897 года паштовае аддзяленне ўзначальваў Аляксандр Марсант. З 1904 - Андрэй Троцкі. З 1906 - Сцяпан Сянько. У 1903 году паштовы тракт (траса руху пошты) з Эйшышак - Бастуны быў перанесены на паўстанак Веранова (Воранава). У чэрвені 1908 года паштовае аддзяленне было ператворана ў паштова-тэлеграфнае. З 1911 года начальнікаў ПТК у Эйшышках быў Аляксандр Моніт. ПТК у Эйшышках абслугоўвала воласці: Эйшышкаўскую, Коннаўскую і да 1905 г. Радуньскую.

**Гэтыя дадзеныя можна дапоўніць звесткамі аб тэлефанізацыі населеных пунктаў у перыяд 1921-1939 гг. Гісторыя пошты і тэлефона іншых населеных пунктаў Лідчыны будзе апісаная ў наступным матэрыяле.**

18 чэрвеня 1919 года па дамове паміж Генеральным Камісарам Усходніх земляў і Міністэрствам Пошт і Тэлеграфаў Польшчы, была ўтвораная Віленская дырэкцыя пошт і тэлеграфаў. Тэрытарыяльна ў склад Дырэкцыі ўвайшлі паўночныя і цэнтральныя раёны Віленшчыны, астатнія ўвайшлі ў склад Люблінскай і Львоўскай Дырэкцый. Калі ў 1920 годзе да Вільні падышлі часткі Чырвонай Арміі, Віленская дырэкцыя была эвакуяваная спачатку ў глыб Польшчы а затым была перамешчаная ў Гародню. Пасля завяршэння савецка-польскай вайны і падпісання мірнай Рыжскай дамовы 1921 года Віленская Дырэкцыя ПіТ з 1 траўня 1921 года абаснавалася ў Вільні. Спачатку ёй падпарадкоўваліся толькі 4 паштовыя канторы: Віленская, Гарадзенская, Кобрынская і Ваўкавыская. Пасля ўтварэння Віленскай паштовай акругі ў яе ўвайшлі ваяводствы - Віленскае, Наваградскае, Палескае і некалькі раёнаў Беластоцкага і Валынскага ваяводстваў.

З 1927 года на тэрыторыі Віленскай паштовай акругі вялося інтэнсіўнае аднаўленне і будаўніцтва тэлефонных і тэлеграфных сетак. Да 1939 года тэлефанізацыя невялікіх паселішчаў Лідскага краю ўяўлялася наступным чынам:

**АСТРЫНА (Ostryna)**

Рэжым працы "С". колькасць нумароў тэлефонаў - 15. Паліцыя, гміна, лясніцтва "Чашча" (Czaszcza), маёнткі князя Друцкага - Любецкага, Астрынскае лясніцтва ў пасёлку Зялёная Гара, фабрыка клеенай фанеры "Котра" (філіял фірмы "Plywood Product"), гандляр мясам Хаім Патушынскі, уладальнік аўтапрадпрыемства Айзік Кашляноўскі.

**БАСТУНЫ (Bastuny)**

У мястэчку ўсяго 3 нумары тэлефону. Усе нумары належаць землеўладальнікам - абшарнікам: Люцыяну Кабылінскаму з маёнтка Гарадзенька, Вітольду Ушпулевічу з фальварка Крывое (Krzywe) і Сафіі Гартынг з маёнтка Таўрогі.

Усе тэлефоны працавалі ў рэжыме "L" - абмежаваны дзённы рэжым у звычайныя дні - з 8 раніцы да 12 гадзін і з 15.00 да 18 гадзін. У святочныя дні яшчэ больш скарочаны рэжым працы - з 9 раніцы да 11 і з 15 да 16 гадзін.

**БЕЛІЦА (Bielica)**

Тэлефоны меліся: у паліцэйскім участку, кіраванні гміны і 2 нумары ў прыватных асобаў. Рэжым працы - "L" з 8 да 15 гадзін.

**БЕНЯКОНІ (Bieniakonie)**

У мястэчку налічалася 20 нумароў тэлефонаў. З іх - 2-мя нумарамі валодала пошта - службовы ў начальніка пошты і кватэрны (відаць для тэрміновых выклікаў) у галоўнага манцёра. Таксама тэлефоны меліся - ва ўчастку дзяржаўнай паліцыі, у кіраванні гміны, (вул. Віленская, 1) у адміністратара маёнтка Падвярыйкі, у кіраванні Віленскай доследнай сельскагаспадарчай станцыі. Тэлефонныя апараты былі ўстаноўлены такія, як ва ўладальніка тытунёвага склада Людвіга Расоляка, ляснога прамыслоўцы Лейбы Рабіновіча. На складзе лясных матэрыялаў і тартаку ў К.І. Шахно і ў сельскагаспадарчым спажывецкім кааператыве "Світанак" (Zorza).

Некалькі нумароў тэлефонаў мелася ў заможных абывацеляў мястэчка. Тэлефоны ў Беняконях працавалі ў рэжыме "С" - у буднія дні з 1 красавіка да канца верасня з 7 да 21 гадзіны, ад 1 кастрычніка да канца сакавіка з 8 раніцы да 21 гадзіны, у святочныя дні адпаведна з 8 да 12 гадзін і з 15 да 18 гадзін.

**ВАСІЛІШКІ (Wasiliszki)**

Тэлефоны ў Васілішках працавалі ў рэжыме "С" Па спісе абанентаў лічыцца 12 тэлефонных нумароў, але 6 адсутнічаюць - не паказаны ўладальнікі. Тэлефон меўся ў ксяндза Цыральскага, на паліцэйскім участку, у кіраванні гміны, у Чорным Бары ў дзяржаўным лясніцтве, у купца Кабачніка.

**ВОРАНАВА (Werenow)**

Тэлефоны ў Воранаве працавалі ў рэжыме "L". Усяго па спісе ў Воранаве лічылася 12 нумароў - тэлефон у паліцыі, у кіраванні гміны, у дзяржаўным лясніцтве ў Чорным Бары, у аптэцы Файфеля Бартовіча, а таксама кватэрны тэлефон у інжынера Калужынскага М. у маёнтку "Верануў" і лекара З. Вольфганга і ў шэрага прыватных асобаў.

**ДЗЕВЯНІШКІ (Dziewieniszki)**

Тэлефонаў - 6, рэжым працы "С". Апараты былі ўстаноўлены - у паліцэйскім участку, у кіраванні гміны, у доктара Бранілаўскага, у лясніцтве Трабы ў лесніка ў Кавалях. На паравым тартаку Свянціцкага і Шахны ў Гележах быў усталяваны камутатар з 4 дадатковымі нумарамі.

**ДАКУДАВА (Dokudowo)**

Рэжым працы тэлефонаў - "L". Усяго 2 нумары - у паліцыі і ў кіраванні гміны.

**ЖАЛУДОК (Zoludek)**

Рэжым працы - "С". Усяго па спісе 10 нумароў тэлефонаў, якія былі ўсталяваныя ў паліцыі, гміне, у Габрэйскім народным банку, у кіраўніка меліярацыйных работ інжынера Піатроўскага Е. , у ксяндза Л. Чацвярцінскага і ў шэрагу прадпрымальнікаў. Адміністрацыя маёнтка "Жалудок" мела 10-ці нумарны камутатар. Дадатковыя тэлефоны былі ўсталяваныя ў фальварках: "Жалудок", "Савоўшчына", "Ліпічна", на тартаку і ў лясніцтве ў Зачэпічах. (Zaczepicze).

**ЖЫРМУНЫ (Zyrmuny)**

Тут было ўсяго 2 нумары тэлефона: у паліцыі і ў гміне. Рэжым працы - "L".

**ЗАБАЛОЦЦЕ (Zablocie kolo Lidy)**

Усяго 2 тэлефонных нумары: паліцыя і гміна. Рэжым працы - "L".

**ІЎЕ (Iwie kolo Lidy)**

Па спісе ў Іўі лічылася 25 тэлефонных нумароў. З іх - 2-мя нумарамі валодала пошта. Па адным - у паліцыі, гміне, астатнія нумары былі размеркаваныя паміж уладальнікамі крамаў, складоў і прыватнымі прадпрымальнікамі. Апараты меліся ў скупшчыкаў ільну Балбарыйскага Гітэля, Лідскага Ёселя, Ганедберга Давыда, а таксама ў уладальніка фірмы "Флакс браты Лейбман" ("Flax Bracia Lejbman") па скупцы ільну, ільнянога насення і кудзелі. Тэлефон быў таксама ў анучніка - скупшчыка другаснай сыравіны (szmaty) Моталя Брука, у ўладальніка склада жалеза Дварэцкага, у "Таварыстве грузавых аўтамабіляў" Пінхаса Шофера, а таксама ў ксяндза Бабіча і доктара Рамецкага Б. Філіял Прамыслова-гандлёвага таварыства "Гарацый Гелер" з Варшавы, тартак з электрастанцыяй мелі па адным тэлефонным апараце. Некалькі тэлефонаў было ўстаноўлена ў хатах заможных жыхароў мястэчка. Рэжым працы тэлефонаў у Іўі - "С".

**НЁМАН (Niemen)**

Тэлефоны ў Нёмане працавалі ў рэжыме "С". Усяго па спісе ў мястэчку было 11 тэлефонных нумароў. Тэлефон у паліцыі, на фабрыцы клеенай фанеры "Нёман", у Ёселя Шапіры на тартаку і паравым млыне, некалькі ў прыватных асобаў. На вялікім шклозаводзе (Huty Szklane) І. Столе "Нёман" быў усяго адзін гарадскі тэлефон у прыёмнай, дзе і размяшчаўся завадскі камутатар пошты на 20 дадатковых нумароў, якія ахаплялі ўсю вытворчасць. Уладальнікі завода Фелікс Столе, Браніслаў Столе, і Юзэфа Столе мелі кватэрныя тэлефоны ад завадскога камутатара.

**РАДУНЬ (Radun)**

10 нумароў тэлефонаў. Рэжым працы "С" Тэлефонныя апараты былі ўстаноўленыя ў магістраце, паліцыі, гміне, а таксама ў некалькіх гандляроў.

**САБАКІНЦЫ (Sobakince)**

Усяго 5 тэлефонных нумароў: паліцыя, гміна, дом ляснічага ў Зенапішы (Zieniapisze), у гандляроў. Рэжым працы "L" з 8 да 15 гадзін.

**СУБОТНІКІ (Sobotniki)**

Тэлефонаў па спісе каля 10: паліцыя, гміна, ксёндз, дзяржаўны шпіталь, адміністрацыя маёнтка Жэмласлаў (Zemloslaw). Рэжым працы "L".

**ШЧУЧЫН (Szczuczyn Nowogrodski)**

Шчучынскія тэлефоны працавалі ў рэжыме "N" - кругласутачна. Гарадская тэлефонная станцыя мела 60 тэлефонных нумароў. Пошта з тэлефонам мела 3 нумары, на чыгуначнай станцыі Ражанка (Rozanka nad Niemnom) меўся міжгародні перагаворны пункт, два тэлефоны з 2-мя дабавачнымі мела паліцыя, па адным тэлефонным апараце мелі: фабрыка фанеры "Такон", клуб службоўцаў "Агніска", камунальная ашчадкаса, ветлякарня, механічны млын і электрастанцыя, гандлёва - сельскагаспадарчае таварыства "Земляроб", раённая лякарня, школьны інспектарат, дзяржаўнае лясніцтва ў вёсцы Лагода, акруговы суддзя, скарб, павятовы стараста (два дабавачныя), староства і раённы аддзел мелі 8 дабавачных камутатарскіх нумароў.

Кіраванне маёнтка "Шчучын" і лясоў княгіні Марыі Ёанны Друцкай-Любецкай мела 2 тэлефонныя нумары. Тэлефоны мелі таксама: уладальнік таксі М. Абрамовіч, аптэкар У. Міцкевіч, адвакат П. Блох, доктар-ветэрынар Н. Дуньчык, уладальнік тартака М. Глельбавіцкі, доктар Н. Кандрат, уладальнік аўтобуснага гаража І. Лістоўскі, зубны лекар Л. Сапір-Дварэцкая і іншыя жыхары Шчучына.

**ЭЙШЫШКІ (Ejszyszki)**

Пяць тэлефонных нумароў: паліцыя, раённая лякарня, кіраванне гміны Эйшышкі ў вёсцы Юшдына (Jurzdyna), участак Корпуса аховы мяжы (КПР) па барацьбе з кантрабандай, лясніцтва "Эйшышкі" у Думбле (Dumble). Рэжым працы - "С".

***Л. Коласаў,***
***старшыня Беларускага саюза філатэлістаў.***

***М. Ф. Герасімовіч***

# ШКЛОЗАВОД “НЁМАН”

## Кароткі агляд станаўлення і развіцця

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

У красавіку 1970 года ў краіне шырока адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння Ў.І. Леніна. У гонар гэтай даты перадавікі і наватары вытворчасці за дасягненне высокіх вытворчых паказчыкаў і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці былі ўзнагароджаныя юбілейным медалём “За доблесную працу. У адзначэнне 100-годдзя з дня нараджэння Ў.І. Леніна”. Усяго па заводзе ўзнагароду атрымалі 244 чалавекі. Сярод іх Бяссолаў А.А., Бурдун П.К., Валеўскі М.І., Велькашынскі К.Ф., Ігнаткаў І.П., Карзюк С.Л., Камар Н.М., Драчылоўскі А.С., Клімаў Г.Е., Мяркулава Н.І., Паўлоўскі Я.Ф., Праторскі С.А., Сакін М.С., Стукачоў Ю.І., Трубянкоў У.К., Вігуль І.І., Чудзін І.Я. *(Дадатак №15)*.

За мінулыя 7 гадоў з часу ўводу ў эксплуатацыю корпуса №1, г.зн. з 1963 па 1970 гг. завод падвоіў выпуск таварнай прадукцыі. Асобныя параўнальныя паказчыкі працы прыведзеныя ў ніжэйпададзенай табліцы:

| Найменне паказчыкаў | Адзінка вымяр. | 1963 | 1970 | Тэмп росту % |
|---|---|---|---|---|
| Выпуск таварнай прадукцыі ў аптовых цэнах | т. р. | 4191,0 | 8483,0 | 202,4 |
| Выпуск гатунковага посуду ў натуральным выражэнні, Усяго, | т. шт. | 11258,0 | 18418,0 | 163,6 |
| у т.л. выдзіманы | т. шт. | 7744,0 | 16435,0 | 212,2 |
| прасованы | | 3514,0 | 2073,0 | 59,0 |
| Вырабы з крышталю | т. шт | 583,0 | 1038,0 | 177,8 |
| Колькасць ППП | чал. | 1670 | 2602 | 155,8 |

Падрабязна паказчыкі працы завода за 1970 год выкладзеныя ў дадатку №16.

На перыяд ад уводу ў эксплуатацыю корпуса №2 да замены гаршковай печы ў корпусе №1 на ванную печ бесперапыннага дзеяння для варкі крыштальнага шкла прыходзіцца найбольшая нагрузка на керамічны ўчастак. У гэты час на заводзе працавалі дзве 14-ці гаршковыя і тры 2-х гаршковыя шкловарныя печы, г. зн. адначасова шкло варылася ў 34 гаршках. Гэта значыць, што пры сярэднім тэрміне іх службы на працягу 3-4 тыдняў, трэба было штодня фармаваць па 2 гаршкі. Ні да, ні пасля гэтага такой вялікай патрэбнасці ў іх не было.

Пры пачатку рэканструкцыі завода планавалася пабудаваць новы керамічны цэх магутнасцю 200 тон/год вогнетрывалых вырабаў рознага асартыменту, але ў сувязі з пераходам на бесперапынную тэхналогію варкі і выпрацоўкі каляровых і крыштальных гатункаў шкла было вырашана абмежавацца прыбудовай да дзейнага цэха і ўстаноўкай дадатковага абсталявання.

Асноўнай прадукцыяй участка сталі: шкловарныя гаршкі і тыглі, “кранцы”, “рынкі”, “кухі,” “цэпухі”, “дуплешкі”, “перадкі”, “парожкі”, наборныя галоўкі, а ў далейшым - прапелерныя мешалкі, плунжары, фідэрны прыпас і інш.

На прыкладзе керамічнага ўчастка можна навочна прасачыць змяненне ролі падраздзялення ў тэхналагічным ланцугу вытворчасці ў сувязі з удасканаленнем яго тэхналогіі.

Да пабудовы першай ваннай печы - гэта асноўнае падраздзяленне, якое забяспечвае саму магчымасць варкі шкла. У наступным яго роля таксама высокая, таму што варэнне ўсіх каляровых і крыштальных гатункаў шкла вядзецца толькі ў гаршках. З укараненнем жа бесперапыннай тэхналогіі іх варкі і выпрацоўкі значна зніжаецца яго роля і змяняецца асартымент: замест гаршкоў на першы план выходзяць мешалкі, плунжары і фідэрны прыпас. У працэсе эксплуатацыі яны, як і гаршкі, знаходзяцца ў сталым кантакце са шкламасай, таму і патрабаванні да іхняй якасці такія ж высокія, і ў гэтым плане роля ўчастка ніколі не зніжалася.

У розны час узначальвалі брыгады ўчастка Крыпец І.А., Мурын І.П., Клюкевіч Б.Б., Носік К.П., а ў апошнія гады Верамейка Д.Ю.; у складзе брыгад - Будзевіч І.І., Скаева Л.А., Стукачова А.П., Говар А.І., Сабалеўскі П.І., Лебядзеўскі У.П., Бабачкін А.І., Козел А.І., Зінкевіч І.У., Мячкоўскі С.Б., Яновіч Я.П., Етчык А.І., Анікеенкава А.П. і іншыя.

Заканчваецца будаўніцтва аб’ектаў другой чаргі рэканструкцыі завода.

Тэхнічны нагляд за яго ходам і ўзгадненне ўсіх пытанняў з праектыроўшчыкамі і падрадчыкамі ад імя заказчыка ажыццяўляе з 1968 года намеснік дырэктара па капітальным будаўніцтве Маручак Васіль Арцёмавіч.

30 снежня 1970 г. і 30 верасня 1971 г. па чарзе ўводзіцца ў эксплуатацыю корпус №3 з дзвюма лініямі па вытворчасці вырабаў з шкла агульнай магутнасцю 2,5 млн. руб./год:

першая: ванная печ для варкі бясколернага шкла прадукцыйнасцю 6 т/суткі (1,28 млн. руб./год);

другая: блок з пяці ванных шклаварных печаў прадукцыйнасцю 1,3 т/суткі кожная для бесперапыннай тэхналогіі варкі і выпрацоўкі вырабаў гатункавага посуду шырокага асартыменту з каляровых гатункаў шкла,



*План размяшчэння блока печаў у корпусе № 3.*

афарбаваных вокісламі рэдказямельных элементаў (цэрыю, неадзіму, празеадзіму) з дадаткам малекулярных фарбавальнікаў (вокісаў кобальту, медзі, хрому, нікелю, жалеза і металічнага селену).

Разам з корпусам №3 былі ўведзеныя ў эксплуатацыю цэх апрацоўкі №2а; бытавы корпус; цэх апрацоўкі №2б з двума канвеернымі лініямі па апрацоўцы крышталю і накладу і карданажным участкам; супрацьпажарны вадаём; рэзервуар цёплай вады на градзірню і шэраг іншых аб'ектаў.

Да гэтага часу добра склалася праца брыгад па вытворчасці вырабаў з наколерам у корпусе №2 (селенавы лал ужо варылі ў малагабарытнай ваннай печы бесперапыннага дзеяння), і пераводзіць іх у корпус №3 не мела сэнсу. Замест іх туды былі пераведзеныя брыгады па вырабу рассейвальнікаў, для чаго побач з ваннай печчу бясколернага шкла была пабудаваная малагабарытная супрацьточная двухсекцыйная ванная




***Двухсекцыйная печ для варэння малочнага і памяранцавага шкла.***
1- гарэлкі, 2 - загрузныя кішэні, 3- канал адводу дымавых газаў, 4 - вокны для выпрацоўкі.

печ бесперапыннага дзеяння для варкі малочнага і каляровых (памяранцавае, бэзавае і інш.) гатункаў шкла, выкарыстаных для ўнутранага наколеру.

Па палымянай прасторы яна была падзеленая суцэльнай сцяной з дынасавай цэглы для падтрымкі ў кожнай секцыі аўтаномнага рэжыму. Супрацьточны варыянт спальвання паліва дазволіў абысціся без глухога экрана, які адлучае варачную частку ад вырабатачнай, і забяспечыў падтрымку неабходнай тэмпературы выпрацоўкі без дадатковага падагрэву.

У распрацоўцы і будаўніцтве малагабарытных ванных печаў-спадарожнікаў прымалі актыўны ўдзел Пашук М.Ф., Саковіч У.У., Кунцэвіч М.М., Трубач П.У., Сіневіч А.К., Герасімовіч М.Ф., Сафранюк А.І., Рунец Л.А. і іншыя.

Асаблівасцю варкі малочнага шкла ў ваннай печы з'яўляецца неабходнасць сталага здыму шкламасы.

Устаноўлена, што калі няма выпрацоўкі 8-16 гадзін, то ступень глушэння шкла значна зніжаецца, а таксама мяняецца каэфіцыент тэрмічнага лінейнага расшырэння. Але нават пры сталым здыме патрэбен інтэнсіўны адбор шкламасы два-тры разы ў месяц з мэтай яе найхуткага абнаўлення. Для гэтага з вырабатачнай часткі печы адбіраецца шкламаса з такім разлікам, каб над пратокай заставаўся пласт таўшчынёй 30-40 мм, а затым на працягу 4-6 гадзін праводзіцца наварка да патрэбнага ўзроўню.

Ужо ў 1972 годзе выкарыстанне ваннай печы замест гаршковай пры вытворчасці рассейвальнікаў дазволіла давесці іх месячны выпуск у сярэднім да 57 тыс. шт. пры працы на адным варштаце.

На астатніх 9 варштатах ваннай печы бясколернага шкла выпускаўся гатункавы посуд, у асноўным, чаркавай групы і шклянкі розных ёмістасцяў.

Першым начальнікам цэха вырабаткі №2 быў прызначаны Курачкін П.П., а затым Паўлоўскі Я.Ф.

Кампактнае размяшчэнне блока печаў дазваляла арганізаваць вытворчасць камбінаваных вырабаў, выкарыстоўваючы для чары шкло аднаго колеру, а для ножкі і донца - іншага. Гэта забяспечвала шматварыянтныя магчымасці для мастацкага канструявання вырабаў рознага прызначэння.

Тэрмічная і хімічная аднастайнасць каляровых гатункаў шкла забяспечваецца іх мяшаннем з выкарыстаннем прапелерных мешалак.

У працэсе засваення бесперапыннай тэхналогіі варкі і выпрацоўкі каляровых гатункаў шкла адмысловых цяжкасцяў не было. Але ў 1972 г. пры імкненні атрымаць інтэнсіўна афарбованы неадзімавы лал на адной з печаў блока, мы сутыкнуліся са з'яўленнем у вырабатачнай частцы шкламасы, працятай вялікай колькасцю бурбалак ад мошкі да 1,5-2,0 мм у дыяметры. Проба ж шкламасы, узятая з варачнай часткі перад пратокай, бурбалак не ўтрымоўвала. Якіх-небудзь змяненняў гідраўлічнага рэжыму і рэжыму спальвання паліва, што маглі прывесці да ўтварэння бурбалак, не было. Ужываныя сыравінныя матэрыялы таксама не маглі быць прычынай гэтага.

На працягу сутак, за кошт зменаў тэхналагічных



***Група працоўных, службоўцаў і ІТР шклозавода "Нёман" у дзень абмену партыйных дакументаў (кастрычнік, 1973 г.)***

параметраў, мы спрабавалі ўхіліць загану, якая ўтварылася, але безвынікова. Тады было прынята рашэнне вычарпаць шкламасу да пратокі і правесці інтэнсіўную наварку з паніжаным уводам селену ў шыхту. У выніку ўсё нармалізавалася, але гэта ўжо быў не неадзімавы лал, а проста шкло бэзавага колеру.

Ясна, што з'яўленне незлічонага мноства бурбалак было абумоўлена павышаным уводам металічнага селену, але за паўсядзённай цякучкай нам не ўдавалася правесці серыі доследных варкаў з мэтай вывучэння хімізму гэтай з'явы і вызначыць аптымальныя суадносіны Nd2O3:Se пры атрыманні неадзімавага лалу.

У працэсе эксплуатацыі блока печаў атрымалі пацверджанне выказваныя раней адмыслоўцамі завода заўвагі аб недастатковай плошчы варштата для нармалёвага размяшчэння брыгад, а таксама павышанай тэмпературы ў зоне іх працы, асабліва ў летні перыяд.

Таму ў 1977 г. па ўзгадненні з МПСМ БССР, была праведзеная рэканструкцыя блока. Замест пяці печаў пакінута тры, без паніжэння іх агульнай прадукцыйнасці; па крайніх з іх павялічаная плошча басейнаў і колькасць рабочых вокнаў і пашыраны варштат. Умовы працы брыгад сталі аналагічныя іншым печам.

Да канца 60-х гадоў у краіне значна ўзрос попыт на вырабы з крышталю. Прадпрыемствы гандлю стала патрабавалі ад завода павелічэння іх паставак.

З мэтай пашырэння магчымасцяў па задавальненні гэтых патрабаванняў кіраўніцтва завода (дырэктар Карзюк С.Л., гал. інжынер Пашук М.Ф.) выступілі з ініцыятывай: замест 14-ці гаршковай печы ў корпусе №1 пабудаваць ванную печ бесперапыннага дзеяння для ўкаранення бесперапыннай тэхналогіі варкі і выпрацоўкі вырабаў з крышталю.

24 сакавіка 1970 года праектнаму інстытуту ГПІ-3 (г. Ленінград) быў накіраваны ліст з просьбай выканаць праектныя работы па дадзенай тэме.

Ужо 19 красавіка 1970г. намеснік міністра ПСМ БССР Акуліч С.С. зацвердзіў пратакол нарады №98/71 па разглядзе прадстаўленага тэхна-рабочага праекту замены гаршковай печы на ванную.

***Тэхніка-эканамічныя паказчыкі печы:***

*Тып - ванная печ бесперапыннага дзеяння, праточная, рэгенератыўная, з паўпадковападобным кірункам полымя.*

*Сутачная прадукцыйнасць - 5 т/суткі.*

*Колькасць працоўных вокнаў - 6.*

*Гадавы здым шкламасы - 1785 т.*

*Гадавы выдатак сыравіны - 1559,9 т.*

*Гадавы выдатак паліва - 1500 т.нм3.*

Каштарысны кошт работ вызначаны ў 199,35 т.р., а гадавы эканамічны эфект - 95,6 т.р. Крыніца фінансавання - сродкі фонду развіцця вытворчасці.

Для размяшчэння ваннай печы былі разабраны таксама адзін апечак і малагабарытная ванная печ-спадарожнік для варкі марблітавага шкла.

Работы па рэканструкцыі былі выкананыя на працягу трох месяцаў (травень-ліпень) у 1971 годзе.

Уводзімая магутнасць вызначана ў 2,2 млн. руб.

Галоўным адрозненнем ізноў пабудаванай печы ад печаў для варкі звычайных гатункаў шкла была падоўжаная кішэнь, круглы вырабатачны басейн з прапелернай мешалкай для мяшання шкламасы і прымусовая сістэма выдалення свінцаўтрымоўвальных золяў, якія выносяцца праз рабочыя вокны з адводам у цыклон і далейшым выхадам вычышчанага паветра ў атмасферу па-за межамі цэха.

Першапачаткова было вырашана варыць свінцовы крышталь з утрыманнем PbO 24%.

Пры арганізацыі выпрацоўкі вырабаў чаркавай групы на ізноў пабудаванай печы ўкаранялася тэхналогія вакуумнай адцяжкі ножкі з выкарыстаннем цэнтралізаванай сістэмы вакууму. Галоўнай яе перавагай перад тэхналогіяй з выкарыстаннем "фарынкі" было скарачэнне складу брыгады на 2 чалавекі і атрыманне ў працэсе фармавання кантаванай ножкі, якая не патрабуе апрацоўкі яе паверхні за кошт выкарыстання ўставак з сталі ЭІ-943 пры вырабе "вакуумнай" формы і цеплавога рэжыму яе работы.

Але пры вакуумным спосабе ўзрастае верагод-

насць пераахаладжвання канца ножкі, што ў далейшым парушае трываласць яе злайкі з донцам. Тэхнолагам, канструктарам і механікам сумесна з брыгадзірамі прыйшлося шмат папрацаваць, каб не дапусціць гэтага.

Вырабы з крышталю працягвалі карыстацца павышаным попытам, і з мэтай яго больш поўнага задавальнення ў 1978 годзе праводзіцца рэканструкцыя гэтай ваннай печы з павелічэннем вырабатачнай часткі да 8 рабочых вокнаў і ўстаноўкай дзвюх мешалак.

У гэтыя гады начальнікам цэха выпрацоўкі №1 быў Драздоў М.Ф. Ён прыйшоў на завод пасля заканчэння Беларускага палітэхнічнага інстытута ў 1959 годзе. З маладым запалам узяўся за справу, спасцігаючы тонкасці тэхналогіі гутніцтва і дапаўняючы тэарэтычныя веды практычным досведам. Ужо ў 1962 годзе прызначаецца начальнікам цэха апрацоўкі, а ў 1967 году - начальнікам самога буйнога на той час цэха выпрацоўкі, у якім працавала больш за 1000 чалавек. З 1981по 1986 год - галоўны інжынер завода. Актыўна займаецца асваеннем уводзімых у эксплуатацыю новых вытворчых магутнасцяў, у т.л. тэхналогіяй электраваркі крышталю ў корпусе №4.



***Драздоў М.Ф. (уверсе ў цэнтры) сярод аднакурснікаў: М. Лукашэнка, А. Губар, І.Гурскі, М. Герасімовіч, А. Грабская, А. Балуценка, С. Грыгор'ева.***

Арганізацыйна забяспечвае суладную працу вытворчых падраздзяленняў для дасягнення лепшага канчатковага выніку.

У 1990 годзе абіраецца старшынём выканкаму Бярозаўскага гарсавету.

За вялікую творчую працу, удасканаленне тэхналогіі і забеспячэнне сталага росту вытворчасці тавараў народнага спажывання Міхаіл Фадзеевіч узнагароджаны ордэнамі "Працоўнага Чырвонага Сцяга" і "Знак Пашаны", юбілейным медалём "За доблесную працу. У адзначэнне 100-годдзя з дня нараджэння Ў.І. Леніна".

Інтэнсіўнае нарошчванне аб'ёмаў вытворчасці патрабавала сталага прытоку новых кваліфікаваных рабочых, а падрыхтаваць іх можна было толькі на дзейных працоўных месцах. У гэтыя гады кожны брыгадзір займаўся навучаннем і падрыхтоўкай кадраў для арганізацыі і камплектавання новых брыгад. Вялікую арганізацыйную працу па дадзеным пытанні нараўне з начальнікамі цэхаў і змен праводзіла Салаўёва Я.П.

У наступныя гады быў утвораны аддзел падрыхтоўкі кадраў і эканамічнай адукацыі ў складзе Кулікова Ў.А., Салаўёвай Я.П. і Грынюк А.П.

Навучанне і перападрыхтоўка персаналу для працы з пад'ёмна-транспартным і зварачным абсталяваннем і слесараў розных спецыялізацыі праводзіліся ў вучэбна-курсавым камбінаце, які многія гады ўзначальвала Маркаран К.І.

Дзякуючы эфектыўнай сістэме адбору і падрыхтоўкі кадраў, якая абапіралася на шматгадовыя традыцыі і назапашаны досвед, быў захаваны высокі ўзровень якасці выпусканай прадукцыі, што пацвярджаецца праведзенай у 1972 годзе яе дзяржаўнай атэстацыяй, у выніку якой усе вырабы былі атэставаныя толькі па вышэйшай і першай катэгорыям якасці. Першымі вырабамі, адзначанымі Дзяржаўным знакам якасці (ДзЗЯ), быў набор шклянак зав. нум. 750 ёмістасцю 50, 100 і 150 мл з каляровага шкла, афарбаванага РЗЭ і выраблены на блоку печаў цэха выпрацоўкі №2.



***Першыя вырабы, атэставаныя па вышэйшай катэгорыі якасці (набор шклянак, зав. нумар 750, 1972 г.). Аўтар – Л.М. Мягкова.***

У наступныя гады колькасць вырабаў з ДзЗЯ была даведзена да 40 найменняў, а іх удзельная вага ў агульным аб'ёме выпусканай прадукцыі дасягала 20% і больш. Добры прыклад па іх вырабу паказвалі брыгады Сцефановіча С.У., Грос Р.М., Баяроўскага Ў.У., Вайцюшкевіча Г.М.

Вялікім поспехам завода было атрыманне ў 1973 году на Міжнароднай выставе ў г. Яблонец-на-Нісе "Гран-пры", якім быў адзначаны набор ваз пад агульнай назвай "Кветка" і залатога медаля за дэкаратыўную кампазіцыю "Кветкі", а ў 1979 годзе - залатога медаля за камплект ваз, выкананых па тэхналогіі маліравання (аўтары, адпаведна, Федаркоў А.Ф., Жохаў У.П і Мурахвер У.С.).

На заводзе пасляхова ўкараняецца сістэма бездэфектнай працы. Колькасным выразам якасці працы становіцца каэфіцыент рэшты прадукцыі з першага прад'яўлення, які становіцца адным з асноўных



**_Набор вазаў «Кветка», уганараваны Гран-Пры на міжнароднай выставе ў г. Яблонец-на-Нісе, 1973 г. Аўтар – А.Ф. Федаркоў._**



**_Камплект ваз, адзначаных залатым медалём на Міжнароднай выставе ў г. Яблонец-на-Нісе, 1979 г. Аўтар - У.С. Мурахвер._**



**_Дэкаратыўная кампазіцыя “Кветкі”, адзначаная залатым медалём на Міжнароднай выставе ў г. Яблонец-на-Нісе, 1973 г. Аўтар - У.П. Жохаў._**

паказчыкаў пры налічэнні прэміяльных выплат. Калі ў 1971 году па вырабах з крышталю і накладу ён складаў адпаведна 74% і 63%, то за 1977 год ён дасягнуў 84% і 75%. Лепшым гэты паказчык быў у брыгадах Казлоўскага Ў. А., Жука Б.А., Абдрахманава А.А., Бабкевіч П.У., Праторскага А.А., Кротава Ў.П., Ігнаткова І. П. і Мяркулава А.Ф. Адказнасць за якасць пераносілася непасрэдна на выканаўца.

Упершыню быў разарваны заганны ланцуг, калі адны дапушчалі дэфекты, другія іх выпраўлялі, а адказнасць за нізкую якасць прадукцыі нёс трэці - кантралёр, які яе правяраў.

Вялікі ўклад у яго распрацоўку, укараненне і паўсядзённы кантроль за функцыянаваннем нараўне з персаналам цэхаў выпрацоўкі і апрацоўкі ўнеслі Аўраменкава Ў.Л., Татарчанка М.У., Данільчык У.А., Роман І.Б., Русакова Л.Л., Верамейчык Е.І., Кохан Р.К., Якутовіч Я.Ф., Петрыман Я.Д., Бубноўская І.А., Дубарэвіч Я.І., Турык Я.Н., Конюх Г.А.

За час выкарыстання сістэмы бездэфектнага вырабу прадукцыі высветлілася, што яна не ахоплівала ўсіх ступенек вытворчага працэсу. Таму, вывучаючы досвед працы перадавых прадпрыемстваў краіны ў гэтым кірунку, завод у 1976 годзе пачаў распрацоўваць комплексную сістэму кіравання якасцю прадукцыі.

КС УКП - гэта сукупнасць тэхнічных, арганізацыйных, эканамічных і сацыяльных мерапрыемстваў, рэгламентаваных стандартамі прадпрыемства, накіраваная на атрыманне максімальнага эканамічнага эфекту ад вытворчасці і спажывання прадукцыі і рэалізуецца на ўсіх стадыях жыццёвага цыклу вырабу. Мэтай КС УКП з’яўляецца таксама павелічэнне ўдзельнай вагі прадукцыі з Дзяржаўным Знакам якасці і павышэнне яе канкурэнтаздольнасці на сусветным рынку.

У лістападзе 1976 года была створана кардынацыйна-працоўная група, кіраўніком якой быў прызначаны Герасімовіч М.Ф. На яе ўскладалася ўся аператыўная праца па стварэнні КС УКП. У першую чаргу групай было распрацавана, узгоднена і зацверджана вышэйстаячай арганізацыяй тэхнічнае заданне, якое вызначала аб’ём работ па стварэнні КС УКП. У яго было ўключана 35 стандартаў прадпрыемства, якія ахопліваюць такія бакі вытворчай дзейнасці як планаванне якасці выпусканай прадукцыі, атэстацыя, метралагічнае забеспячэнне, матэрыяльнае і маральнае стымуляванне працоўных, арганізацыю бездэфектнай працы і кантролю вытворчасці ды інш.

Актыўны ўдзел у распрацоўцы стандартаў прадпрыемства прымалі Герасімовіч М.Ф., Аўраменкава Ў.Л., Іванюк Г.М., Паўлоўскі Я.Ф., Кісляк П.П., Драздоў М.Ф., Пагодскі У.М., Лучына Л.А., Шэўчык Л.М., Сталярова Т.В., Сцефановіч А.І., Янзіна Т.П.,




***У майстэрні мастакоў: Л.М. Мягкова, У.С. Мурахвер, Т.І. Малышава, В.Ю. Сазыкіна.***

Кушнярова С.С., Вінаградава І.Д., Рунец Я.А., Трубач П.У., Мураўёва А.М., Палічэйка М.І., Курачкін П.П., Кохан І.М., Салаўёў Ф.Л.

Метадычную і кансультатыўную дапамогу ў распрацоўцы КС УКП аказвалі работнікі МПСМ БССР і трэста "Аргтэхбуд" Вількоцкая Г.А., Рудакова М.У., Кусонская Я.К., Ціценка Т.Н., Смірнова А.Ф., Федасеева Н.І., Кожух У.Я., Сідарэнка А.К.

5-9 чэрвеня 1978 года камісіяй МПСМ БССР з удзелам прадстаўніка Дзяржстандарту распрацаваная заводам КС УКП была прынятая і зарэгістраваная ў Гарадзенскай лабараторыі Дзяржнадзору за стандартамі і вымяральнай тэхнікай 19 чэрвеня 1978 года за № 16 *(Дадатак №17)*.

Прыкладам брыгад з высокай якасцю выканання работ сталі брыгады Сцефановіча І.А., Хвашчэўскай Г.І., Пячуры Г.І., Шулейкі М.І., Лабінскага Я.Д., Кіені Г.А., Мацкевіча А.С., Шатавай У.У., Нячаева Ў.Н., Шанько С.Н., Мінько А.І., Свораба М.У., Бандарэнка І.У., Шэўчыка П.Н., Судніка Р.М., Келмуця А.Н., Гяцольда Е.К., Прашчыцкага Б.Э., Веремейкі І.І., Жодзь М.М., Бабкевіч П.У., Казлоўскага Ў.А., Ігнаткова І.П., Праторскага А.А., Кротава Ў.П., Захаранкава А.А., Кіені Д.А., Кірэля С.У., Зязюлі С.У., Чылека Г.І., Трубянкова Ў.К., Беняша С.Н., Лінкевіча Г.Б., Валеўскага М.І., Казака Р.С., Федаркова А.Ф., Воўкава П.А., Дзешука А.Ф., Анацкага К.М., Хлябовіча Б.А., Драчылоўскага А.С. У поспехі, якіх дасягнуў завод, яны ўнеслі вялікі ўклад.

Яшчэ працягваецца будаўніцтва корпуса №3, а ўжо на падставе Пастановы СМ СССР ад 24 лістапада 1969 г. № 900 Міністэрства прамысловасці будаўнічых матэрыялаў СССР выдае загад № 623/39 ад 10 снежня 1969 г. аб далейшым нарошчванні магутнасцяў па вытворчасці гатунковага посуду на прадпрыемствах міністэрства, у тым ліку і на шклозаводзе "Нёман".



***Мастакі за адборам узораў на выставу***

Распрацоўкай праектнай дакументацыі займаецца інстытут "Поўдзгіпрашкло" (г. Кіеў). Галоўным інжынерам праекту быў спачатку Яцуноў І.А., а затым Айзенберг І.Д. У забеспячэнні прагрэсіўных рашэнняў пры праектаванні карпусоў №4 і №5 важная роля належала галоўнаму інжынеру праектнага інстытута Гурскаму І.Т.

У адпаведнасці з загадам МПСМ СССР №7 ад 6 студзеня 1972г. "Аб арганізацыі вытворчасці гатункавага посуду і тэрмасаў на імпартным абсталяванні", па якім на шклозаводзе "Нёман" прадугледжвалася ўстанавіць дзве машыналініі па фармаванні вырабаў гатункавага посуду на ножцы, была праведзеная карэкціроўка задання на праектаванне, зацверджаная намеснікам міністра ПСМ СССР Д.І.Алёхіным 5.03.1972 г.

Адкарэктаваны праект быў разгледжаны і зацверджаны пратаколам №28-193/72 ад 28 жніўня 1972 г.

Праектам прадугледжвалася пабудаваць два вытворчыя корпусы (№4 і №5) па вырабу гатункавага посуду з шкла і крышталю з скончаным вытворчым цыклам і шэраг дапаможных аб’ектаў.

У сувязі з тым, што закупленыя па імпарце ў фірмы “Інтэрглас” (Бельгія) дзве машыналініі павінны былі манціравацца ў корпусе №5, з яго і пачалося будаўніцтва ў студзені 1972 года. Пры гэтым прадугледжвалася:

1) вытворчасць вырабаў featрознага асартыменту з крышталю;

2) механізаваная дзвюхстадыйная вытворчасць вырабаў на ножцы (чарка, фужэр, келіх, крэманка).

Магутнасць корпуса №5 вызначалася ў 6,5 млн. руб./год, у т.л. па крышталі - 2,6 млн. руб. і мехвытворчасць - 3,9 млн. руб.

Для варкі крыштальнага шкла была пабудаваная ванная печ бесперапыннага дзеяння прадукцыйнасцю 5т/суткі з поўным падзелам варачнага і вырабатачнага басейнаў па палымянай прасторы і аўтаномным абаграваннем вырабатачнай часткі. Астатнія паказчыкі аналагічныя ваннай печы крышталю ў корпусе №1.

Схема шклаварнай печы для механізаванага фармавання вырабаў характарызуецца наступнымі паказчыкамі:




***План ваннай печы механізаванага вытворчасці вырабаў на ножцы.***

| | | |
|---|---|---|
| прадукцыйнасць | | - да 20 т/суткі |
| плошча басейнаў: | варачнага | - 25,15 м$^2$ |
| | вырабатачнага | - 8,8 м$^2$ |
| глыбіня басейнаў: | варачнага | - 900 мм |
| | вырабатачнага | - 500 мм |
| пратока: | даўжыня | - 1200 мм |
| | шырыня | - 600 мм |
| | вышыня | - 300 мм |
| колькасць пар гарэлак | | - 2 шт. |

Печ абсталяваная сістэмамі аўтаматычнага кантролю і рэгулявання тэмпературы палымянага абшару ў варачнай і вырабатачнай частках і фідэрах, рэжыму ціску, узроўню шкламасы і пераводу кірунку полымя.

Мантаж і наладку закупленага абсталявання вялі прадстаўнікі фірмы “Інтэрглас” з удзелам спецыялістаў завода.

Кожная машыналінія ўключала:

- два фідэрныя сілкавальнікі;
- шклофармавальную машыну фірмы “Алівота” тыпу М16-115 для фармавання чар;
- прэс ПЖА для фармавання ножкі з донцам і яе знітоўкі з чарай;
- канвекцыйную печ адпалу;
- аўтамат фірмы “Бібейк” для адрэзкі каптурыка, шліфоўкі, фацэтавання і дыстыроўкі краю вырабаў і наступнай іх разгрузкі на канвеер;
- машыну агнявой паліроўкі краю вырабаў;
- канвеерную канвекцыйную печ для замацавання фарбаў і золата пры дэкараванні вырабаў;
- паўаўтамат фірмы “Кутчар” для нанясення алмазнай грані;
- канвеер для міжаперацыйных перамяшчэнняў вырабаў;
- перастаўнікі вырабаў;
- устаноўку для механізаванага пакавання вырабаў.

Вывадка печы, наварка шкламасы і мантаж абсталявання былі выкананыя ў адпаведнасці з устаноўленым графікам.

Але ў далейшым, як гаворыцца, справа не заладзілася. Калі аўтамат М16-115 працаваў нармалёва, то прэс ПЖА працаваў нездавальняльна, зводзячы на нішто старанні спецыялістаў. Фірме прыйшлося два разы яго мяняць і замест нарматыўных трох месяцаў на мантаж і наладку было выдаткавана больш за год.

Абсталяванне было прынята ў эксплуатацыю толькі ў чэрвені 1975 года па выніках прыёмаздатачных выпрабаванняў з уцэнкай кошту з-за паніжэння прадукцыйнасці на 16,6%, г.зн., магутнасць устанаўлівалася 3,25 млн. руб. замест 3,9 млн. руб., а сутачная прадукцыйнасць адной лініі пры фармаванні чаркі ёмістасцю 50 г - 16,5 тыс. шт/суткі.

Заводам строга выконваліся ўсе патрабаванні, якія змяшчаюцца ў дакументацыі, па складзе шкла, што дазволіла пазбегнуць прэтэнзій з боку фірмы на нізкі выхад прыдатнай прадукцыі. Фірма неаднаразова перадавала шкло на хімічны аналіз незалежным лабараторыям і па іх выніках заўсёды пераконвалася ў тым, што ён адпавядае азначанаму.

Рэкамендаваны фірмай “Інтэрглас” склад шкла ўтрымоўваў (у % па масе): 69,5 $SiO_2$; 4,5 $CaO$; 3,4 $BaO$; 2,1 $PbO$; 1,6 $Al_2O_3$; 1,4 $B_2O_3$; 11,6 $Na_2O$; 5,4 $K_2O$ ; 0,5 $SO_3$. Звыш 100% на 100кг шкла ўводзілася 0,5кг $As_2O_3$. Частка $Na_2O$ уводзілася праз сульфат натрыю.

Для адмыслоўцаў завода ён здаўся некалькі своеасаблівым з-за нязвыклага спалучэння сульфату натрыю, вокісу свінцу і вялікай колькасці мыш’яку. Практыка варкі паказала, што ён адрозніваўся вельмі высокай адчувальнасцю да атмасферы палымянай прасторы печы.

Калі быў падпісаны акт прыёмкі і прадстаўнікі фірмы пакінулі завод, пасля шматразовых доследных варэнняў з наступнымі лабараторнымі даследаваннямі ўзораў шкла мы спыніліся на наступным хімічным складзе (у % па масе): 71,0 $SiO_2$; 6,5 CAO ; 3,0 BaO; 1,65 $Al_2O_3$; 0,85 $B_2O_3$; 11,6 $Na_2O$ і 5,4 $K_2O$. Звыш 100% на 100кг шклы ўводзілі 100-150 г $As_2O_3$ .

На распрацаваны адмыслоўцамі завода хімічны склад шкла для механізаванай вытворчасці вырабаў на ножцы было атрымана аўтарскае пасведчанне № 608772 з прыярытэтам ад 16 жніўня 1976года. У групу распрацоўкі ўваходзілі Герасімовіч М.Ф., Трубач П.У., Трубач Н.А., Сіневіч А.К.

У далейшым пад карэнную рэканструкцыю падпала пазіцыя перадачы вырабаў з машыны М16-115 на ПЖА.

Па прапанове Пагодскага Ў.Н., Ляцко П.П., Грынько Г.Л. і Фядотава А.Ф. груваcткі гарачы канвеер быў заменены нахільнай горкай з фтарапласту.

Быў выкананы шэраг мерапрыемстваў па забеспячэнні стабільнага цеплавога рэжыму ў зоне размяшчэння шклофармавальнага абсталявання (аптымізацыя працы прытокава-выцяжной вентыляцыі, ухіленне скразнякоў, дадатковыя гарэлкі на ПЖА і інш.).

Вялікую працу прарабілі супрацоўнікі ЦЗЛ Кушнярова С.С., Трубач Н.А., Шаль У.К., Табенка Л.А., Пенда Л.Л., Шаль Г.Б. і іншыя, укараніўшы штодзённы кантроль шчыльнасці шкла, палымяную фотаметрыю, комплекснаметрычнае і патэнцыяметрычнае тытраванне і іншыя сучасныя метады аналізу.

Першым начальнікам цэха выпрацоўкі №3 быў прызначаны Пагодскі Уладзімір Мікалаевіч.

Ужо да канца 1975 года была стабільна дасягнутая ўстаноўленая прадукцыйнасць машыналіній пры нарматыве 12 месяцаў, г.зн. завод датэрмінова асвоіў уведзеныя магутнасці.

За ўкараненне ўпершыню ў краіне тэхналогіі машыннага фармавання вырабаў на ножцы і яе датэрміновае асваенне група спецыялістаў у 1978 г. была адзначаная прэміяй Савета Міністраў СССР, у т.л. ад завода - Карзюк С.Л., Пашук М.Ф., Рагоўскі М.У., Пагодскі У.Н. і Грос У.У.

Пры мехвытворчасці, калі нізкі працэнт выхаду прыдатнай прадукцыі з-за шматлікіх дэфектаў фармавання, часта ўзнікаюць спрэчкі паміж механікамі і тэхнолагамі аб тым, чыя недапрацоўка з'яўляецца таму прычынай.

З досведу сваёй працы хачу сказаць, што часцей за ўсё прычынай браку з'яўляецца дрэнная падрыхтоўка або зношанасць формакамплекту, неадрэгуляванасць працы вакуумнай і выдзімальнай сістэм, нізкі ўзровень тэхдогляду і парушэнне цеплавога рэжыму ў зоне размяшчэння абсталявання. Верагоднасць адхілення складу шкла ад азначанага, якое прыводзіць да з'яўлення масавага браку, вельмі малаважная. Вялікую ролю тут іграе падтрымка тэмпературы шкломасы ў фідэры, ад якой у вялікай ступені залежыць вязкасць і фармовачныя ўласцівасці шкла і якая павінна надзейна падтрымлівацца аўтаматычна.

Магутнасці па вытворчасці крышталю ў корпусе №5 у суме 2,6 млн. руб. у аптовых цэнах былі ўведзены ў снежні 1974 года. У пускавы комплекс уваходзілі: бытавы корпус з пераходам у корпус №5, два дымавыя коміны па 50 м, склад дапаможных матэрыялаў, падземны склад аварыйнага паліва на 300 м3, супрацьпажарны рэзервуар на 250 м3, станцыя перапампоўкі каналізацыйных сцёкаў, унутрыпляцовачныя сеткі: кабельныя, вадаправодныя, каналізацыйныя, газазабеспячэння, сціснутага паветра; аўтапраезды, пазапляцовачныя сеткі (пашырэнне палёў фільтравання) і іншыя аб'екты.

Для своечасовага будаўніцтва і паспяховай эксплуатацыі ўведзеных вытворчых магутнасцяў у корпусе №5 шмат зрабілі Карзюк С.Л., Пашук М.Ф., Маручак У.А., Сталяроў Л.Ф., Аўраменкава В.Л., Фядотаў С.Ф., Дзяшчэня Л.Я., Сучкоў У.П., Пантус І.А., Сцяпанаў І.Г., Рагоўскі М.У., Мураўёў Р.У., Шмыгалёў К.Е., Жыгала А.Л., Вольскі С.У., Радзевіч І.А., Махнач М.Н., Пагодскі У.М., Бурлыка А.Г., Пракапеня М.А., Грынько Г.Л., Фядотаў А.Ф., Палічэйка М.І., Кулікова Р.Ю., Мураўёва А.Н., Вігуль І.І., Сталярова Т.У., Шэўчык Л.М., Іванюк Г.М., Кохан І.М., Сямёнава Т.І., Кісляк Л.І., Радчанка Г.М. і іншыя.

Першымі машыністамі і наладчыкамі шклофармавальных машын былі Курачкін У.П., Швадчык А.Т., Холад І.Б., Субота С.І., Санкевіч А.С., Дудкін М.А., Урбановіч А.Л., Скобля Ў.У., Грос У.Б., Ляцко Я.А., Проторскі А.Л., Грыб М.М., Карыцкі І.І.

Наладчыкамі абсталявання халоднай часткі працавалі Міхневіч Г.І., Пячурчык Ф.Ф., Міхайлаў У.У., Сцефановіч Ф.Н., Смаляк Г.Е., Мацукевіч А.Н., Юралевіч У.Я. Наладку і абслугоўванне электраабсталявання і сродкаў КІПіА вялі Гаўрош У. У., Дзяжноў У. І. і Пышко С.П.

У 1977 годзе інстытут “Поўдзгіпрашкло” праводзіць карэктыроўку тэхнічнага праекту па заданні намесніка міністра ПСМ БССР Акуліча С.С., зацверджанага намеснікам міністра ПСМ СССР Кабанавым Н.П. 26 сакавіка 1976 года па павелічэнні выпуску крышталю ў корпусе № 5 на 2,5 млн. руб. за лік устаноўкі дадатковага абсталявання і пашырэння зоны працы брыгад. Пры гэтым сумарная праектная магутнасць карпусоў № 4 і № 5 даводзіцца да 13,2 млн. руб. у дзейных коштах на 1.01.1975 года і колькасці персаналу, які працуе ў іх, да 2439 чал, у т.л. корпус № 4 - 876 чалавек і корпус № 5 - 1189 чалавек.

Карэктыроўка прадугледжвала таксама будаўніцтва “Школы майстроў” і прывядзенне дапаможных служб завода ў адпаведнасць з магутнасцямі асноўнай вытворчасці.

Пытанням рэканструкцыі і тэхнічнага пераўзбраення завода стала надавалі ўвагу працаўнікі МПСМ БССР Кожух У.Я., Сідарэнка А.К., Рудакова М.В., Зубей Л.М, Федасеева Н.І. і інш.

26 снежня 1978 года прымаюцца магутнасці ў памеры 1,3 млн. руб., звязаныя з вышэйпрыведзенай карэктыроўкай. У склад уступнага комплексу ўвайшлі: медсанчастка на 50 ложкаў, пераходная галярэя паміж карпусамі № 5 і № 2, пажарны пост на 2 аўтамашыны, воданапорная вежа тэхнічнай вады, рэзервуары для

тэхнічнай і гаспітной вады адпаведна на 500 і 250 м3, рэзервуар для пажаратушэння, тры артэзіянскія свідравіны з помпавымі станцыямі першага ўздыму, магільнік для шкодных адходаў, рэканструяваныя бытавыя памяшканні састаўнога цэха і іншыя аб'екты.

За актыўную працу па павелічэнні выпуску тавараў культурна-бытавога прызначэння і іх высокую якасць завод у 1978 годзе быў узнагароджаны Ганаровай граматай Прэзідыюма Вярхоўнага Савета БССР.



*План двухсекцыйнай ваннай печы ў корпусе №4.*

Пяць гадоў, якія аддзялялі ўвод у эксплуатацыю корпуса №5 і першых аб'ектаў корпуса №4, дазволілі калектыву завода:

1) надаць належную ўвагу пытанням якасці выпусканай прадукцыі, пашырэнню асартыменту і камплектнасці;

2) забяспечыць належны ўзровень кваліфікацыйнай падрыхтоўкі рабочых вядучых прафесій (выдзімальшчык, аздабляльнік, шліфавальшчык);

3) падняць тэхнічны ўзровень абсталявання дапаможных участкаў (рамонтна-механічны, карданажны, рамонтна-будаўнічы і інш.) для якаснага выканання запатрабаванняў асноўнай вытворчасці.

Аб тэмпах росту аб'ёмаў выпуску прадукцыі ў 70-я гады можна судзіць па паказчыках, прыведзеных у ніжэйзгаданай табліцы:

| Найменне паказчыкаў | Адз. вым. | 1970 | 1979 | Тэмп росту, % |
|---|---|---|---|---|
| Выпуск таварнай прадукцыі ў аптовых коштах | т. р. | 8483,0 | 22926,0 | 271,4 |
| Гатункавы посуд у натуральным выражэнні, усяго | т. шт. | 18418,0 | 45912,0 | 249,3 |
| у т. л.: выдзіманы | т. шт. | 16435,0 | 44727,0 | 272,1 |
| прасованы | т. шт. | 2073,0 | 1185,0 | 57,1 |
| Вырабы з крыштал. | т. шт. | 1038,0 | 6397,0 | 616,2 |
| Рассейвальнікі | т. шт. | 470,0 | 552,0 | 117,4 |
| Колькасць ППП | чал. | 2602 | 4423 | 170,0 |

28 лістапада 1980 г. была ўведзеная ў эксплуатацыю першая чарга корпуса №4 магутнасцю 2,9 млн. руб. гатункавага посуду з каляровага шкла ў дзейных аптовых коштах.

Першым начальнікам цэха выпрацоўкі №4 прызначаны Салаўёў Франц Львовіч.

У пускавы комплекс увайшлі дзве шклаварныя печы з наступнымі тэхнічнымі характарыстыкамі:

1) тып - ванная печ бесперапыннага дзеяння, рэгенератыўная, двухсекцыйная пад агульным скляпеннем (з двума варачнымі і двума вырабатачнымі басейнамі і двума пратокамі), з падкавападобным кірункам полымя:

плошча варачнага басейна - 7,52х2=15,04 м2;
плошча вырабатачнага басейна - 2,23х2 = 4,46 м2;
колькасць працоўных вокнаў - 6;
прадукцыйнасць - 3 т/сут.х2=6 т/сут;

2) тып - ванная печ бесперапыннага дзеяння рэгенератыўная, праточная з падкавападобным кірункам полымя;

плошча варачнага басейна - 9,7 м2;
плошча вырабатачнага басейна - 3,3 м2;
колькасць рабочых вокнаў - 6;
прадукцыйнасць - 4 т/суткі,

а таксама такія дапаможныя аб'екты, як станцыя нейтралізацыі кіслых сцёкаў, зарадная станцыя на 25 электрапагрузчыкаў, пераходная галярэя паміж карпусамі № 4 і № 5; дымавы комін вышынёй 50 м, унутрыплашчадачныя і пазаплашчадачныя сеткі (кабельныя, каналізацыйныя, газазабеспячэння і інш.).

Гэта былі апошнія ўведзеныя аб'екты, калі дырэктарам быў Сяргей Лук'янавіч Карзюк - у лютым 1981 года ён пайшоў на пенсію, прапрацаваўшы на заводзе 29 гадоў, з іх 19 гадоў на пасадзе дырэктара.

Сяргей Лук'янавіч прыйшоў на завод у 1952 годзе на пасаду галоўнага інжынера, валодаючы ўжо вялікім практычным досведам працы. Пры Леановічу Л.А. і Каштанаве М.Ф. ён актыўна ўдзельнічае ў мадэрнізацыі і ўдасканаленні старой вытворчасці і распрацоўцы прапаноў па яе карэннай рэканструкцыі.

Заступіўшы на пасаду дырэктара ў 1962 годзе, з уласцівай яму энергіяй і глыбокім веданнем справы кіруе стварэннем завода, які дынамічна развіваецца і адпавядае па сваіх тэхнічных і арганізацыйных параметрах сучасным патрабаванням.

Бесперапынная тэхналогія варэння і выработкі каляровых і крыштальных гатункаў шкла, механізаваная вытворчасць вырабаў на ножцы, арганізацыя вытворчасці вітражнага шкла, смальты, абліцовачнай пліткі і рассейвальнікаў, выплаўка чыгуну і сталі - вось далёка няпоўны пералік мерапрыемстваў, якія былі паспяхова ўкаранёныя ў практыку работы завода пад яго кіраўніц-

твам. Усе, каму прыходзілася асвойваць новую вытворчасць, ведаюць з якімі цяжкасцямі прыходзіцца пры гэтым сутыкацца. Сяргей Лук'янавіч з ўласцівай яго характару таварыскасцю і працавітасцю ўмеў паставіць работу так, што пытанні вырашаліся як быццам самі па сабе, а гэта не кожнаму дадзена.

Разам з пашырэннем завода расце і развіваецца пасёлак. З'явіліся 4-х і 5-і павярховыя дамы, пабудаваныя два дзіцячыя садкі і дзве сярэднія школы, палац культуры, крамы, лякарня, інтэрнат, забудоўваюцца і асфальтуюцца новыя вуліцы, шырока вядуцца работы па добраўпарадкаванні (газіфікацыя, водазабеспячэнне, каналізацыя і інш.). І да ўсяго гэтага Сяргей Лук'янавіч мае непасрэднае дачыненне.

Ён - "Заслужаны работнік прамысловасці БССР", лаўрэат прэміі Савета Міністраў СССР, узнагароджаны ордэнам Леніна і Працоўнага Чырвонага Сцяга, неаднаразова абіраўся дэпутатам раённага, абласнога і Вярхоўнага Савета БССР.

Ягоная шматгадовая праца на заводзе ў памяці людзей, якія працавалі з ім, пакінула глыбокі след. Як напамінак аб гэтым, адна з вуліц Бярозаўкі ў 1997 годзе была пераназваная ў вуліцу імя С.Л. Карзюка, а на доме, у якім ён жыў, усталявана памятная дошка.

Новым дырэктарам завода быў прызначаны Пашук Мікалай Фёдаравіч, які працаваў на працягу амаль 18 гадоў галоўным інжынерам.

Працягваецца будаўніцтва аб'ектаў рэканструкцыі завода, у т. л. і "Школы майстроў", дзе прадугледжвалася рыхтаваць спецыялістаў рабочых прафесій - наборшчык, выдзімальшчык, аздабляльнік, шліфавальшчык - замест ужыванага на заводзе метаду навучання ў брыгадзе, а таксама павышаць кваліфікацыю і майстэрства рабочых, якія жадалі валодаць навыкамі вытворчасці шырокага асартыменту вырабаў.

Але ўжо ў канцы 1981 года прымаецца рашэнне замест "Школы майстроў" арганізаваць прафесійна-тэхнічную вучэльню, выпускнікі якой размяркоўваліся б на шклозавод "Нёман" і Барысаўскі крыштальны завод.

Пабудаваны корпус вучэльні быў абстаўлены ўсім неабходным абсталяваннем (14-ці гаршковая шкловарная печ, лер, апечкі, тэмперныя печы, шліфавальныя станкі і інш.) для навучання практычным навыкам і плошчаамі для вучэбных класаў.

Першы набор навучэнцаў праведзены ў 1982 годзе.

А першым дырэктарам вучэльні быў прызначаны Гальперын Леанід Ібрагімавіч.

31 снежня 1982 года ўведзеная ў эксплуатацыю другая чарга корпуса №4 магутнасцю 1,3 млн. руб. у дзейных аптовых коштах. У пускавы комплекс увайшлі:

- ванная шкловарная печ прадукцыйнасцю 4,0 т/суткі для варэння бясколернага шкла;
- прафесійна-тэхнічная вучэльня;
- інтэрнат на 395 месцаў і іншыя аб'екты.

Завод упэўнена ўступіў у юбілейны 1983 год. Па ініцыятыве дырэктара завода Пашука М.Ф. праводзяцца вялікія падрыхтоўчыя работы да святкавання 100-годдзя заснавання завода: па распрацоўках архітэктара Спясіўцава Ю.М. акультурваюцца вытворчыя карпусы і тэрыторыя, добраўпарадкоўваецца пасёлак і аб'екты




***Будынак прафесійна-тэхнічнай вучэльні №116.***

сацкультбыту; шырокі размах атрымала спаборніцтва па годнай сустрэчы юбілею; сродкі масавай інфармацыі распавядаюць аб дасягненнях калектыву па павелічэнні выпуску тавараў народнага спажывання. Кіруе падрыхтоўчымі работмі намеснік дырэктара па кадрах і побыту Сафранюк А.І.

62 брыгады і дзве змены асноўнай вытворчасці выканалі план трох гадоў адзінаццатай пяцігодкі да гэтай юбілейнай даты.

Падрабязныя звесткі аб працы завода за 1983 год прыведзеныя ў дадатку №18.

За вялікія дасягненні па павелічэнні выпуску тавараў народнага спажывання і іх высокую якасць і ў сувязі са 100-годдзем з дня заснавання завод быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, 45 працаўнікоў адзначаны высокімі ўрадавымі ўзнагародамі, а двум: Жукоўскаму Іосіфу Сцяпанавічу і Бартосіку Івану Станіслававічу, прысвоена званне "Заслужаны работнік прамысловасці БССР" *(Дадатак № 15.)*.

Параўнанне паказчыкаў працы завода з вядучымі прадпрыемствамі аналагічнага профілю за 1983 год прыведзены ў ніжэйзгаданай табліцы.

З прыведзеных дадзеных відаць, што завод займае трэцяе месца ў краіне па аб'ёму выпуску таварнай прадукцыі і гатункавага посуду ў аптовых і рознічных цэнах.

Вялікі досвед завода па вырабу вітражных гатункаў шкла ў 80-х гадах быў шырока выкарыстаны для вытворчасці модуляў дэкаратыўна-прасторавых кампазіцый Менскага метрапалітэна. Вітражнае шкло і смальта адпраўляюцца для аздаблення розных аб'ектаў у Гародні, Віцебску, Ташкенце, Благавешчанску, Хабараўску, Казані, Кіеве і іншых гарадах.

Кіраўніцтвам завода стала падтрымліваліся сувязі з навукова-даследчымі і вышэйшымі вучэбнымі ўстановамі, асабліва з Беларускім Палітэхнічным інстытутам і Менскім НДІСМ. Выкладчыкі БПІ Безбародаў М.А., Жуніна Л.А., Мазелеў Л.Я., Ярмоленка М.М., Левітман С.Я., Качан І.С., Кашпар М.А., Новікава А.З., Ракаў І.Л., Манчанка З.Ф. аказвалі кансультатыўную дапамогу інжынерна-тэхнічным работнікам завода па розных пытаннях шкляной тэхналогіі і хімічнага кантролю вытворчасці, а таксама выконвалі шэраг гасдамоўных работ, накіраваных на павышэнне яго эфектыўнасці. Па прапановах завода групай супрацоўнікаў НДІСМ у складзе Дзямідовіча Б.К., Пялецкага Ў.І., Фісюка Г.К., Сабалеўскага А.Б., Ёда С.С., Губскай А.Г., Садчанка М.П., выкананыя даследчыя работы па ўзбагачэнні кварцавага пяску ў кіпячым пласце, а таксама па ўтылізацыі нейтралізаваных шламаў ад хімічнай паліроўкі крышталю. Атрыманыя на ўзроўні лабараторных выпрабаванняў гіпса-бетонавыя ўзоры вырабаў пацвердзілі магчымасць іх

| Найменне паказчыкаў | Адз. вым. | Найменне заводаў | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Шклозавод "Нёман" | Барысаўскі крыштальны завод | Гусеўскі крыштальны завод | Дзяцькаўскі крыштальны завод | Ленінградскі з-д мастацкага шкла | Кіеўскі з-д мастацкага шкла |
| Таварная прадукцыя ў аптовых коштах | т. р. | 24342 | 16639 | 37590 | 35214 | 9314 | 15977 |
| Гатункавы посуд у аптовых цэнах | _,_ | 22900 | 16573 | 37174 | 34764 | 9026 | 15499 |
| у т.л. выдзіманы | _,_ | 21322 | 12781 | 37055 | 29469 | 8034 | 9368 |
| прасованы | _,_ | 1578 | 3792 | 119 | 5295 | 942 | 6131 |
| Гатункавы посуд у рознічных цэнах | _,_ | 81823 | 60687 | 127829 | 153075 | 35033 | 68820 |
| у т.л. выдзіманы | _,_ | 74860 | 40394 | 127055 | 128239 | 32588 | 31485 |
| прасованы | _,_ | 6963 | 19783 | 170 | 24836 | 2445 | 37335 |
| Гатункавы посуд з крышталю: | | | | | | | |
| у аптовых цэнах | _,_ | 9542 | 7620 | 24499 | 29018 | 9026 | 15499 |
| у рознічных цэнах | _,_ | 57281 | 45189 | 102465 | 144611 | 35033 | 68820 |
| Гатункавы посуд у натуральным выразе | т. шт. | 48849 | 72677 | 74559 | 55334 | 2106 | 5609 |
| Вага гатовай прадукцыі. | | | | | | | |
| усяго | тн | 8317 | 9099 | 10726 | 14059 | 1978 | 3038 |
| у т.л. крышталь | _,_ | 1989 | 1945 | 3628 | 11139 | 1978 | 2665 |
| Колькасць, | | | | | | | |
| усяго | чал. | 5237 | 2954 | 6302 | 5186 | 1127 | 2234 |
| у т.л. ППП | _,_ | 4821 | 2737 | 5912 | 4781 | 1120 | 2136 |
| Сярэднегадавая зарплата аднаго працоўнага | руб. | 2174 | 2206 | 2042 | 2268 | 2506 | 2230 |
| Прыбытак | т. р. | 4760 | 3189 | 14862 | 9233 | 2918 | 3859 |

выкарыстання ў якасці зыходнай сыравіны для вытворчасці будматэрыялаў.

Але распад Савецкага Саюза і шэраг негатыўных з'яў, якія рушылі за гэтым, не далі магчымасці перайсці ад доследных узораў да прамысловай вытворчасці.

Лічу, што надышоў час вярнуцца да гэтага пытання.

Паспяховая праца завода, як па энергічным нарошчванні вытворчых магутнасцяў, так і высокай канкурэнтаздольнасці выпусканай прадукцыі паслужыла падставай вызначыць яго месцам правядзення галіновых саюзных і рэспубліканскіх нарад па абмене перадавымі метадамі працы ў вытворчасці гатункавага посуду і тарнага шкла.

Такія нарады-семінары ў 60-80 гады праходзілі на заводзе рэгулярна, і кіраўніцтва забяспечвала належны арганізацыйны ўзровень для плённай працы яго ўдзельнікаў.

Заканчаецца будаўніцтва і мантаж тэхналагічнага абсталявання ў корпусе № 4.

29 снежня 1984 года ўводзіцца ў эксплуатацыю электрапеч для варкі крыштальнага шкла прадукцыйнасцю 2,5 т/суткі і магутнасцю 2,2 млн. руб. гатункавага посуду ў дзейных аптовых цэнах, а таксама кампрэсарная станцыя прадукцыйнасцю 200м3/хвіл. сціснутага паветра, і склад плавіковай кіслаты на перавалачнай базе (дзве ёмістасці па 50м3 кожная).

На першым паверсе корпуса № 4 быў размешчаны ўчастак па вырабу і зборцы кардонных скрынак з хромэрзацу і каляровага кардону. Разам з участкам па перапрацоўцы гофракартона, размешчанага ў корпусе №2б цэха апрацоўкі, тут вырашаліся ўсе пытанні, звязаныя з упакоўкай шклавырабаў.

Узначальвалі карданажна-падрыхтоўчы ўчастак Мыслівец І.У., Грыгаровіч А.Я., Козел І.М., а апошнія гады Грос С.У. Тэхнолагам участка шмат гадоў працавала Жыгала М.У. Добрымі работнікамі зарэкамендавалі сябе Бобрынская А.С., Несцер М.М., Урбановіч Я.М., Буська Н.. І., Лейтар Н.П., Шэдзька Ў.У., Філіпчык П.П., Гук Я.Ф., Жых А.К., Шыпіцына П.П., Генец І.У., Казак А.І., Рахман У.Д., Гірыновіч У.І., Каляда Ў.І., Суднік Г.А.

У 1987 годзе электрапечка была рэканструяваная з мэтай павелічэння прадукцыйнасці да 4 т/суткі.

Асартымент прадукцыі - прасованыя вазы рознага прызначаная і лодачкі з наступнай поўнай дапрацоўкай паверхні алмазнай гранню і хімічнай паліроўкай, а пазней дадаткова элементы жырандоляў, а таксама выдзіманыя штофы і некаторыя іншыя вырабы.

Выкарыстаныя хімічныя саставы крышталю для варкі ў газапалымяных і электрычнай печах прыведзеныя ў ніжэйзгаданай табліцы:

Шыхта для электраваркі крышталю не ўтрымоўвае калієвай салетры, а колькасць уводзімага свінцовага сурыку на кампенсацыю страт на ўлятучванне PbO у працэсе варкі паменшана напалову.

| Тып печы | Утрыманне вокіслаў, вагавыя працэнты | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | SiO2 | B2O3 | PbO | ZnO | Na2O | K2O | SO3 | As2O3 | Разам |
| Газаполымевая | 58,30 | 1,0 | 24,0 | 1,0 | 2,0 | 13,3 | 0,15 | 0,25 | 100,0 |
| Электрычная | 57,80 | 1,0 | 24,0 | 1,0 | - | 15,9 | 0,10 | 0,20 | 100,0 |



***Электрапеч для варкі крышталю ў корпусе №4 прадукцыйнасцю 4,0 т/суткі.***

У другой палове 80-х гадоў у краіне пачынае мяняцца сітуацыя, і, як гэта адбілася на працы завода, разгледзім некалькі ніжэй. А тут хачу адзначыць, што на падставе задання, зацверджанага МПСМ СССР 24.06. 1982 г. інстытут "Поўдзгіпрашкло" праектуе блок дапаможных цэхаў у складзе рамонтна-механічнага, электрарамонтнага і аўтатранспартнага цэхаў.

З пералічаных аб'ектаў быў пабудаваны толькі аўтатранспартны цэх за тэрыторыяй пляцоўкі завода, які на стадыі падрыхтоўкі да здачы ў эксплуатацыю быў перададзены ізноў створанай жыллёва-камунальнай службе.

У снежні 1986 года МПСМ БССР разгледзела дакументацыю па кансервацыі аб'ектаў пашырэння завода, а 17 красавіка 1989 года быў выдадзены загад №56 "Аб закрыцці зводнага каштарысу на пашырэнне шклозавода "Нёман".

Так было прынята рашэнне аб канцы работ па рэканструкцыі завода за кошт дзяржаўных капітальных укладанняў. У наступныя гады ўсе работы па ўкараненні новых тэхналогій, закупцы абсталявання, выкананні іншых мерапрыемстваў вядуцца за кошт уласных сродкаў і крэдытаў.

Тут дарэчы сказаць аб чалавеку, які на працягу 20 гадоў займаўся на заводзе пытаннямі капітальнага будаўніцтва. Гэта

наменнік дырэктара Маручак Васіль Арцёмавіч. Адказваючы за своечасовы ўвод аб'ектаў у эксплуатацыю, ён забяспечваў узгодненыя дзеянні генеральнага падрадчыка і змежнікаў, вырашаў пытанні з праектыроўнікамі, будбанкам і вышэйстаячымі арганізацыямі па профілі сваёй працы, а таксама прыцягваў неабходныя службы завода да рашэння цяжкасцяў і затрымак, якія ўзнікаюць, а ў будаўніцтве яны здараюцца вельмі часта. Сваёй шматгадовай працай ён унёс годны ўклад у стварэнне цэласнага вытворчага комплексу па вырабе тавараў народнага спажывання з шкла і ў тым, што завод стаў адным з вядучых прадпрыемстве галіны, ёсць і яго вялікая заслуга.

Зменлівая сітуацыя ў краіне вельмі моцна адбілася на працы завода. Абвешчаная кампанія барацьбы за цвярозасць паставіла па-за законам асноўны асартымент прадукцыі: чаркі, фужэры, келіхі, шклянкі малой ёмістасці, графіны - бо прадпрыемствы гандлю ў 1986 і наступных гадах адмаўляліся атрымліваць іх на продаж у рознічную сетку.

Сотні формакамплектаў аддадзенага анафеме асартыменту прыйшлося адправіць на пераплаўку. Звыш 30% персаналу, звязанага з фармаваннем гэтых вырабаў, трэба было тэрмінова перападрыхтаваць на выпуск іншых. Быў ўзяты кірунак на павелічэнне выпуску гарлачоў, шклянак ёмістасцю 200 мл і вышэй, розных вазаў для кветак і сервіроўкі стала. Акрамя гэтага, у якасці прыярытэту было вырашана значна пашырыць выпуск рассейвальнікаў, як па асартыменце, так і па тыражу.

Ужо ў 1987 годзе была рэканструяваная адна шкловарная печ у корпусе № 4 для арганізацыі выпуску прасованых вырабаў - вазы для садавіны, талеркі, разеткі, попельніцы і г.д.- з выкарыстаннем аўтаматычнага прэса АПП-12 з фідэрным сілкаваннем і канвеерам агнявой паліроўкі.

Хутка асвоілі прафесію машыністаў і наладчыкаў Ціханаў А.К., Барысевіч Ч.Т., Філонаў У.У., Шапель У.П. і інш. Актыўны ўдзел у распрацоўцы і ўкараненні дадзенай тэхналогіі прымалі Рунец Б.Б., Шаль С.Ф., Кушнярова С.С., Грынько Г.Л., Пракапеня М.А., Рагоўскі М.Б., Мураўёў Р.У., Трубач П.У., Вініцкі Ю.Г., Герасімовіч М.Ф., Аўраменкава Ў.Л., Драздова Л.І., Сямёнава Т.І., Кісляк Л.І., Арэхва А.А., Кохан І.М., Цяцярук А.І., Урбан А.У., Рунец Л.А., Жынко С.М., Махнач М.М., Міхалькевіч І.М., Ядлоўскі А.П., Вазняк Ю.У.

З мэтай паніжэння выдаткаў на выраб форм была асвоеная і ўкаранёная з дапамогай Беларускай палітэхнічнай акадэміі тэхналогія атрымання прэсформаў з набліжанай гравюрай метадам дакладнага ліцця.

Для павелічэння выпуску рассейвальнікаў з малочнага шкла ў 1987 годзе па праекце ПКБ Гусеўскага філіялу ГІС была пабудаваная электрапеч. Праектная прадукцыйнасць - 700 кг/суткі; фактычна здымалі да 1,0 тн/суткі.

У якасці электродаў выкарыстоўваліся малібдэнавыя стрыжні дыяметрам 38 мм, агульнай даўжынёй - 1500 мм і працоўнай даўжынёй - 600 мм (ад халадзільніка да канца электрода).




***Электрапеч для варкі малочнага шкла***

Новая тэхналогія варэння дазволіла значна знізіць выдатак фтористых злучэнняў для атрымання глушанага шкла за лік скарачэння страт фтору на ўлятучванне і забяспечвала стабільнасць к.т.р., што з'яўляецца вызначальным пры выпрацоўцы накладных вырабаў. Параўнальныя дадзеныя па складзе шыхты для малочнага шкла пры варцы ў газаполымевай і электрычнай печах прыведзеныя ў ніжэйпададзенай табліцы:

| Найменне матэрыялаў | Адз. вым. | К-сць на 1 тн шкла, кг | |
|---|---|---|---|
| | | газаполымевая печ | электрапеч |
| Пясок кварцавы | кг | 617,0 | 673,0 |
| Мел | кг | 20,1 | 64,9 |
| Барый вуглякіслы | кг | 19,6 | - |
| Бялілы цынкавыя | кг | 26,0 | 21,0 |
| Сода кальцыніраваная | кг | 111,9 | 158,2 |
| Паташ | кг | 77,9 | 81,1 |
| Гліназём | кг | - | 10, 1 |
| Крыяліт | кг | 240,4 | 101,2 |

Пры першай наварцы электрапечы сутыкнуліся са з'яўленнем лугу (шчолаку), які прыйшлося выпальваць з дапамогаю пілавіння. Прычына яго з'яўлення - неўсталяваны рэжым энергаспажывання. Надалей выпадкаў з'яўлення лугу не было.

У працэсе работы быў устаноўлены наступны рэжым:

- напруга - 750 - 800 В;
- сіла току - 52 - 55 А.

Рэгуляванне электразабеспячэння забяспечвалася трансфарматарам тыпу РОТМ-250 і пячнымі трансфарматарамі ПА-180.

Выдатак вады на халадзільніках: 4 - 5 л/хвін.; тэмпература вады, якая выходзіць - не больш за 50°С.

Увод электродаў праводзіцца пасля таго, як узровень наваранай шкломасы перавысіць на 50 мм узровень іх устаноўкі. Адтуліны да ўводу электродаў затыкаюцца шамотнымі затычкамі.

Актыўны ўдзел у будаўніцтве печы і асваенні тэхналогіі варкі прымалі Рунец Б.Б., Герасімовіч М.Ф., Трубач П.У., Трубач Н.А., Кісляк П.П., Лецка П.П., Валеўскі А.М., Арэхва А.А., Махнач М.М., Салянкоў А.П., Рунец Л.А., Урбановіч У.І., Ядлоўскі А.П., Вазняк Ю.У., Бухцінаў У.І., Кіслы І.К.

Замовы на пастаўку рассейвальнікаў раслі з года ў год, і хоць у 1990 г. іх было выраблена больш за 2,82 млн. штук, але поўнасцю задаволіць патрэбнасць Лідскага завода электравырабаў, Віцебскага завода "Эвістар", Менскага завода вылічальнай тэхнікі і шэрагу іншых прадпрыемстваў шклозавод "Нёман" не мог. Гэта быў вялікі і, здавалася, доўгатэрміновы рынак, і трэба было адшукваць шляхі па яго насычэнні.

У 1990 годзе спецыялісты завода прапрацоўваюць пытанне закупкі імпартнага абсталявання для фармавання рассейвальнікаў.

Ужо ў сакавіку 1991 года абсталяванне, закупленае ў фірмы "Лінднер" (Нямеччына), было ўведзена ў эксплуатацыю. Праграмная прадукцыйнасць - 4,5 кроплі/хвіл.

Праект рэканструкцыі печы, расстаноўкі абсталявання, энергазабеспячэння і іншых пытанняў інжынернага ўладкавання быў распрацаваны канструктарскім бюро завода пад кіраўніцтвам галоўнага інжынера Рунца Б.Б. і з актыўным удзелам Пракапені М.А., Шмыгалёва К.Я., Кругліка А. І., Рунца Л. А., Стукачова Г.Ю.

Шмат энергіі і творчага запалу ў забеспячэнні паскоранага мантажу абсталявання прыклалі Рагоўскі М.У., Арэхва А.А., Пашук Г.Н., Урбан А.У., Цецярук А.І., Дзяшчэня Л.Я., Кісляк П.П., Лецка П.П., Ядлоўскі А.П., Вазняк Ю.У., Махнач М.Н. Актыўна працавалі над новым хімічным складам шкла, рэжымамі варкі і фармавання рассейвальнікаў Рунец Б.Б., Трубач П.У., Трубач Н.А., Валеўскі А.М., Кушнярова С.С., Герасімовіч М.Ф., Аўраменкава Ў.Л., Вініцкі Ю..Г. Хутка асвоілі новую тэхніку Махнач М.М., Харунжы Ў.М., Гук І.Г., Дудкін М.А. Пытаннямі нармавання і рацыянальнай расстаноўкі персаналу актыўна займаліся Кісляк Л.І., Воўк У.П., Сямёнава Т.І., Чхала Т.У., Іванюк Г.М., Кіеня А.К., Марушка С.М., Рунец Я.А., Воўкава В.М.

Якасны мантаж і імкненне хутчэй атрымаць аддачу ад новага абсталявання дазволілі апаратыўна правесці яго асваенне і датэрмінова выйсці на праектную магутнасць.

Працягваўся пошук новых вырабаў для арганізацыі іх вытворчасці на заводзе, і з 1989 г. пачалася актыўная праца па падрыхтоўцы вытворчасці да вырабу элементаў жырандоляў тыпу "Шатон", "Меч" і "Сляза". Галоўная цяжкасць была ў атрыманні ўставак з нержавелай сталі з адфармаванай паверхняй элемента, бо завод не меў неабходнага абсталявання, з дапамогай якога можна атрымліваць патрэбныя адбіткі па тэхналогіі пластычнай дэфармацыі. Развязаць гэтую праблему ўдалося, размясціўшы замову на іх выраб на Менскім заводзе "Тэрмапласт".

Вялікую работу па канструяванні і вырабе неабходнага абсталявання, распрацоўцы нарматыўна-тэхнічнай дакументацыі і асваенні тэхналогіі фармавання элементаў жырандоляў правялі Пракапеня М.А., Кохан І.М., Мазала А.А., Кіеня Ў.М., Цяліцын Р.К., Бушэйка В.І., Герасімовіч М.Ф., Аўраменкава Ў.Л., Іванюк Г.М., Шаль С.Ф., Гірыновіч М.С., Кісляк Л.У., Расейна Л.І., Герасімовіч С.М. і.інш.

У 1989 годзе завод закупіў першыя 10 персанальных кампутараў фірмы "Алівеці" (Італія) з мэтай забяспечыць апаратыўны кантроль за выкананнем плану паставак прадукцыі спажыўцам у асартыменце ў адпаведнасці з заключанымі дамовамі. Першыя кампутары былі ўстаноўленыя ў цэхах выпрацоўкі №№1, 2, 3, 4, цэху апрацоўкі, аддзеле збыту і планава-эканамічным аддзеле.

Усе пералічаныя і шэраг драбнейшых мерапрыемстваў дазволілі заводу ў вельмі сціслыя тэрміны пераразмеркаваць структуру асартыменту выраблянай прадукцыі. Але галоўная праца ўсё-такі была ў пераравучанні персаналу на ручное фармаванне іншага асартыменту замест вырабаў чаркавай групы, у вырабе вялікай колькасці новага абсталявання, у пераабсталяванні рабочай зоны брыгад. І трэба сказаць, што, нягледзячы на вялікія цяжкасці ў гэты перыяд, не было дапушчана зніжэння аб'ёмаў выпуску таварнай прадукцыі.

Параўнальныя дадзеныя аб працы завода за 1983 і 1990 гг. прыведзены ў ніжэйпададзенай табліцы.

Вытворчасць прасованых вырабаў узрасла амаль у 5 раз, рассейвальнікаў - у 4,7 раза, а выпуск выдзіманых вырабаў скараціўся амаль напалову за кошт спынення выпуску чарак, фужэраў, келіхаў і шклянак малой ёмістасці. У 1990 годзе выдаткі на 1 руб. таварнай прадукцыі склалі 80 кап., а балансавы прыбытак - 6026,0 т.р. *(Дадатак № 19.)*.

Вялікі ўклад у паспяховую працу завода ўнеслі брыгады Аляшкевіча С.Г., Грыб К.К., Жукоўскага І.С., Сянько Ў.Г., Хвашчэўскай Г.І., Лінкевіча Г.Б., Кіені Г.А., Куляша К.К., Ігнатовіча Л.У., Міхайлава А.У., Грынько Ў.І., Козел А.Н., Шыманскага М.А., Хаджаева Ў.І., Данейкі Ў.М., Канатоўскага А.А., Проніна Ў.І., Сосіка

| Найменне паказчыкаў | Адз. вым | 1983 | 1990 | Тэмп росту, % |
|---|---|---|---|---|
| Таварная прадукцыя ў аптовых цэнах | т.р. | 24342,0 | 30507,0 | 125,3 |
| Гатункавы посуд у натуральным выражэнні, | | | | |
| усяго | т. шт | 48849,0 | 28251,0 | 57,8 |
| у т. л.: выдзіманая | т. шт | 48199,0 | 24652,9 | 51,2 |
| прасованая | т.шт | 650,0 | 3243,1 | 498,9 |
| Вырабы з крышталю | т. шт | 7821,0 | 6595,2 | 84,3 |
| Рассейвальнікі | т. шт | 599,0 | 2821,7 | 471,1 |
| Колькасць персаналу, | | | | |
| усяго | чал. | 5237 | 5000 | 95,5 |
| у т.ч. ППП | чал. | 4821 | 4490 | 93,1 |

І.М., Багінскага Ў.Р., Міхайлава А.У., Даўлюда А.У., Шкляра Ў.А., Савіцкай І.К., Навумовіча Ў.У., Лапаць Л.С., Машко І.Л., Кашко А.С., Манькоўскага А.А., Баяроўскага Ў.У., Шавель А.У., Чарнікевіча Ў.М., Шпарко С.П., Цішука С.С., Дымовіча В.І., Крыпца А.К., Александрука А.А., Сцекаленкі А.І., Нясон К.Б., Кіені П.М., Пенды Ў.І., Белана І.А., Курачкіна Ў.П., Воўкава П.А., Валеўскага Ў.М., Стальмакова А.А., Зубовіча С.А., Чудзіна І.Я., Багуцкага І.Р., Верамейчыка Г.М., Марцуля М.К.., Стомы М.А, Нясона М.Б. і многіх іншых.

Важная роля ў забеспячэнні добрай працы асноўных цэхаў належыць працаўнікам так званых дапаможных падраздзяленняў, кожнае з якіх па сваім кірунку стварае неабходныя для гэтага ўмовы.

Энергетычнае забеспячэнне вытворчага працэсу арганізуецца работай электрацэха, кацельні, кампрэсарнай, сантэхучастка і газавай службай, галоўнае прызначэнне якіх забяспечыць бяспечнае, рацыянальнае і безаварыйнае выкарыстанне электраэнергіі, прыроднага газу і вады для вытворчых патрэбаў.

У розныя гады энергетычную службу ўзначальвалі Брыль У.М., Фядотаў С.Ф., Сталяроў Л.Ф., Урбановіч І.П., Арэхва А.А., а ў апошнія гады - Сушчэўскі У.І. Кіраўнікі і спецыялісты ўчасткаў Дзяшчэня Л.Я., Сцяпанаў І.Г., Ядлоўскі А.П., Вазняк Ю.У., Урбан А.У., Бібелашвілі Р.К., Шылін І.Е., Радзевіч І.А., Рудоквас І.Г., Сучкоў У.П., Грэйба Л.С., Рахман А.П., Сінітоўскі У.Я., Капцюк У,І., Пышко Я.А., Аўраменкаў М.І., Жыдкоў Н.Ф., Бяспалаў У.К., Петрыман Д.І., Буяк Б.С. і іншыя.

Служба метралогіі і аўтаматызацыі забяспечвае інструментальны кантроль работы цеплавых агрэгатаў рознага прызначэння па ўстаноўленых параметрах, расходных і дазавальных прылад, а таксама падтрымку ў працаздольным стане наяўных сродкаў аўтаматызацыі, як набытых, так і самастойна выробленых.

Кіраўнікі і спецыялісты службы Кіеня І.Г., Чылек М.П., Радзевіч І.А., Махнач М.Н., Міхалькевіч І.М., Запольскі У.У., Пенда Э.Б., Бурлыка М.І, Макоўскі І.І., Бакач В.І., Пышко С.П., Коска К.С., Рабкоўскі С.С., Анішчук С.П., Салянкоў А.П., Рэксць В.Ф., Буката Р.І., Мікалайчык Ю.М. сумесна з іншымі супрацоўнікамі стала ўдасканальвалі яе працу для павышэння ўплыву на паляпшэнне канчатковага выніку.

Са стварэннем механічных службаў у асноўных цэхах рамонтна-механічны цэх займаецца вырабам нестандартнага абсталявання для патрэб вытворчасці з мэтай скарачэння ручной працы, вядзе капітальны рамонт дзейнага абсталявання, а таксама аказвае дапамогу асноўным і дапаможным цэхам у рашэнні пытанняў сваёй кампетэнцыі.

Узначальвалі РМЦ Сафранюк А.І., Шмыгалёў К.Е., Мураўёў Р.У., Цяцярук А.І., а станочныя, слясарныя і зварачныя работы выконвалі Гладкоў У.І., Вярбіцкі А.П., Сянкевіч Л.І., Камінскі Ў.К., Грыпіч У.С., Зубкоў У.Д., Міхайлаў У.М., Сенатар І.С., Ларын А.Ф., Бельскі Я.А. і шэраг іншых спецыялістаў.

Рамонтна-будаўнічы цэх нараўне з вырабам драўлянага інвентару, прылад і прыстасаванняў для патрэб асноўнай вытворчасці вядзе работы па падрыхтоўцы будынкаў да працы ў восеньска-зімовы перыяд, рамонт падлог і даху, нарыхтоўку і распілоўку лесу, падрыхтоўка бетону і рошчыны для мулярных работ, малярныя работы, афарбоўку абсталявання і нарыхтоўку пяску для класіфікацыі. Работнікі цэха актыўна прыцягваюцца да выпраўлення недаробак пры ўводзе ізноў пабудаваных цэхаў у эксплуатацыю і на выкананне іншых вытворчых патрэб.

Начальнікамі цэха ў розныя гады былі Пакалюеў У.М., Насуля П.С., Дмухоўскі Т.І., Сечка Э.А., Шатаў С.У., Макарэвіч А.П., Барысаў В.Т., а сталярныя, цяслярныя, мулярныя і малярные работы вялі Каравайка Ў.К., Жодзь У.М., Дзевяты М.І., Кашко Ў.П., Мурын А.С., Воўкаў Я.П., Шунько Г.І., Жамойцін П.К., Захараў У.М. і іншыя спецыялісты.

Аўтатранспартны цэх забяспечвае дастаўку на завод сыравіны, вогнеўпораў, металу, кіслот, пакавальных, будаўнічых і іншых матэрыялаў, неабходных для вытворчай дзейнасці, а таксама дастаўляе гатовую прадукцыю на перавалачную базу для адпраўкі спажыўцам.

З другой паловы 70-х і да 90-х гадоў уключна цэх забяспечваў штозменны прыезд на працу і ад'езд працоўных, якія жылі ў бліжэйшых вёсках (Ганчары, Беняві чы, Агароднікі, Дроздава), а па заканчэнні змены - іх дастаўку да месцаў пражывання.

У розныя гады цэхам кіравалі Рыбалкін І.К., Гарэлік У.К., Урбановіч З.П., Лапата Г.І., а кіроўцамі працавалі Горбач В.К., Паршын А.А., Сай У.Б., Бянько П.І., Варановіч К.У., Тарашкевіч Л.І., Кумпяк С.І., Скобля Ч.К., Тарашкевіч С.І., Буцкевіч Я.М., Шкода М.Ф., РамаНоўскі М.Ю., Гота А.Ф. і іншыя.

У кожнай службе і на ўчастку ёсць свае высокакваліфікаваныя спецыялісты, ролю якіх у адзіным вытворчым працэсе нельга пераацаніць.

Вялікае садзейнічанне і дапамогу кіраўніцтву завода ў арганізацыі спаборніцтва і розных форм вучобы, выхаваўчай працы і правядзення культурна-масавых мерапрыемстваў аказвалі ў розны час работнікі грамадскіх арганізацый Рыбакоў М.І., Мітрафанава А.С.,Сокал Г.І., Касацікаў Г.А., Міхалькевіч Г.Г., Янзіна Т.П., Кулікоў У.А., Гарэлік У.К., Казак М.І.,

Лучына Л.А., Пашкоўскі М.С., Сарокін М.Д., Сасноўскі С.С., Шаль Р.Ф., Урбан А.Г., Бічэўская Т.Г., Вінніцкая Ж.Н., Нясон І.І., Хацяневіч Л.П.

Так, дзякуючы аператыўным дзеянням кіраўніцтва і суладнай працы ўсіх падраздзяленняў, завод паспяхова вытрымаў прад'яўленае выпрабаванне на трываласць.

Здавалася, што ўсё дрэннае ўжо ззаду. Нажаль, гэта толькі здавалася.

***Дадатак 15.***

**УЗНАГАРОДЫ КАЛЕКТЫВУ, АСОБНЫМ ПРАЦАЎНІКАМ І ПРАДУКЦЫІ ЗАВОДА.**

**Урадавыя ўзнагароды калектыву завода:**

**1972 г.** - юбілейная Ганаровая грамата ЦК КПБ, Прэзідыюма Вярхоўнага Савета БССР, Савета Міністраў БССР і Белсаўпрофа.

**1978 г.** - Ганаровая грамата Вярхоўнага Савета БССР.

**1983 г.** - ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга.

**1998 г**. - Ганаровая грамата Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Работнікі завода, якія атрымалі ўрадавыя ўзнагароды за дасягненне высокіх паказчыкаў у працы:**

**Ордэн Леніна**

Беняш Сцяпан Мікалаевіч, апрацоўшчык.
Ігнаткоў Іван Пятровіч, шліфоўшчык.
Карзюк Сяргей Лук'янавіч, дырэктар завода
Трубянкоў Віктар Кірэевіч, апрацоўшчык
Шмыгалёва Вольга Іванаўна, шліфоўшчыца.

**Ордэн Кастрычніцкай Рэвалюцыі**

Буднікаў Віктар Паўлавіч , шклавар.
Мяркулаў Адольф Фёдаравіч, шліфоўшчык.
Сусуновіч Антаніна Максімаўна, майстар змены.

**Ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга**

Аўраменкава Валянціна Лявонцьеўна, нам. дырэктара.
Андрушкевіч Сяргей Лук'янавіч, шліфоўшчык.
Бартосік Іван Станіслававіч, шліфоўшчык.
Беняш Сцяпан Мікалаевіч, апрацоўшчык.
Барысенкава Валянціна Мікалаеўна, выдзімальшчыца.
Валеўскі Мікалай Іванавіч, апрацоўшчык.
Драздоў Міхаіл Фадзеевіч, начальнік цэха.
Жукоўскі Іосіф Сцяпанавіч, прасоўшчык.
Зязюля Сяргей Васільевіч, апрацоўшчык.
Кіеня Зміцер Аляксандравіч, апрацоўшчык.
Кірэль Сяргей Уладзіміравіч, апрацоўшчык.
Карзюк Сяргей Лук'янавіч, дырэктар завода.
Мяркулава Ніна Іванаўна, шліфоўшчыца.
Надольская Раіса Аляксандраўна, шліфоўшчыца.
Пятрэнка Іван Рыгоравіч, апрацоўшчык.
Праторскі Аляксандр Аляксандравіч, шліфоўшчык.
Прашчыцкі Баляслаў Эдуардавіч, апрацоўшчык.
Трубянкоў Віктар Кірэевіч, апрацоўшчык.
Хвашчэўская Галіна Іосіфаўна, апрацоўшчыца.
Чылек Георгій Іосіфавіч, апрацоўшчык.
Юргель Уладзімір Браніслававіч, шліфоўшчык.

**Ордэн Дружбы народаў**

Кохан Аляксандр Аляксандравіч, выдзімальшчык.
Мінько Арсень Ільіч, апрацоўшчык.
Пашук Мікалай Фёдаравіч, дырэктар завода.
Рунец Браніслаў Браніслававіч, галоўны інжынер.

**Ордэн "Знак Пашаны"**

Барысенкава Валянціна Мікалаеўна, выдзімальшчыца.
Васіленкава Валянціна Іосіфаўна, шліфоўшчыца.
Драздоў Міхаіл Фадзеевіч, начальнік цэха.
Жук Барыс Андрэевіч, шліфоўшчык.
Захарэнкаў Аляксей Мікалаевіч, апрацоўшчык.
Іванова Ганна Аляксееўна, апрацоўшчыца.
Іванюк Рыгор Васільевіч, шліфоўшчык.
Кіеня Пётр Мікалаевіч, апрацоўшчык.
Кірэль Сяргей Уладзіміравіч, апрацоўшчык.
Казлоўскі Ўладзімір Аляксандравіч, шліфоўшчык.
Казлоўскі Леанід Лаўрынавіч, апрацоўшчык.
Кротава Антаніна Фёдараўна, шліфоўшчыца.
Кулікоў Уладзімір Андрэевіч, сакратар парткаму.
Курачкін Пётр Пятровіч, начальнік цэха.
Машко Адам.Людвігавіч, апрацоўшчык.
Мянькоўскі Аляксандр Аляксандравіч, апрацоўшчык.
Мінчанкоў Мікалай Андрэевіч, прасоўшчык.
Мацкевіч Чеслаў Іосіфавіч, апрацоўшчык.
Паўлоўскі Яўген Фаміч, начальнік цэха.
Пашук Мікалай Фёдаравіч, галоўны інжынер.
Пуціла Вера Ўладзіміраўна, шліфоўшчыца.
Рагоўскі Мечыслаў Уладзіміравіч, галоўны механік.
Сцяпанава Тамара Фёдараўна, шліфоўшчыца.
Сучкоў Віктар Пятровіч, начальнік ЖКГ.

**Ордэн Працоўнай Славы II ступені**

Вярбіцкі Анатоль Паўлавіч, электрагазазваршчык.
Казлоўская Дар'я Іосіфаўна, шліфоўшчыца.
Лабінскі Яўген Дзмітрыевіч, апрацоўшчык.

**Ордэн Працоўнай Славы III ступені**

Арапава Аляксандра Іосіфаўна, размалёўшчыца.
Вярбіцкі Анатоль Паўлавіч, электрагазазваршчык.
Вайцюшкевіч Генадзь Аляксандравіч, апрацоўшчык.
Гаўрыленкава Людміла Іванаўна, размалёўшчыца.
Говар Валянціна Ільінічна, выдзімальшчыца.
Духоўнік Георгій Васільевіч, выдзімальшчык.
Кацык Анатоль Кірылавіч, шліфоўшчык.
Кіеня Генадзь Аляксандравіч, апрацоўшчык.
Кіеня Аляксандр Аляксандравіч, апрацоўшчык.
Кіслая Марыя Іванаўна, выдзімальшчыца.
Казак .Рышард Станіслававіч, апрацоўшчык.
Козел Станіслава Станіславаўна, выдзімальшчыца
Казлоў Рыгор Антонавіч, шліфоўшчык.
Казлоўская Дар'я Іосіфаўна, шліфоўшчыца.
Канавалава Раіса Рыгораўна, шліфоўшчыца.
Карыцкі Іосіф Іосіфавіч, выдзімальшчык.
Каско Віктар Міхайлавіч, слесар.
Кулеш Казімір Канстанцінавіч, апрацоўшчык.
Куранная Марыя Мікалаеўна, шліфоўшчыца.
Лабінскі Яўген Дзмітрыевіч, апрацоўшчык.
Мацюшка Галіна Мечыславаўна, шліфоўшчыца.
Міхайлаў Андрэй Віктаравіч, апрацоўшчык.

Міхайлаў Віктар Мікалаевіч, электрагазазваршчык.
Несцер Рыгор Рыгоравіч, апрацоўшчык.
Петракова Ядвіга Станіславаўна, ст. інжынер-тэхнолаг.
Прашчыцкі Юры Баляслававіч, апрацоўшчык.
Пухоўскі Іван Міхайлавіч, апрацоўшчык.
Свораб Міхаіл Васільевіч, выдзімальшчык.
Свораб Ніна Антонаўна, шліфоўшчыца.
Скрэнда Ўладзімір Феліксавіч, прасоўшчык.
Сідар Тамара Яўгенаўна, апрацоўшчыца.
Трафілава Ларыса Сяргееўна, выдзімальшчыца.
Чылек Анатоль Іосіфавіч, апрацоўшчык.
Шаль Рышард Францавіч, нам. нач. цэха.
Шэўчык Сяргей Раманавіч, апрацоўшчык.
Яцына Наталля Рыгораўна, выдзімальшчыца.

**Медаль “За працоўную доблесць”**

Абдарахманаў Аляксандр Аляксандравіч, шліфоўшчык.
Аўраменкава Валянціна Лявонцьеўна, начальнік АТК.
Апановіч Яўген Аляксандравіч, апрацоўшчык.
Багмут Сафія Ўладзіміраўна, шліфоўшчыца.
Бяссолава Галіна Сцяпанаўна, выдзімальшчыца.
Бобрык Уладзімір Браніслававіч, токар.
Багуцкая Антаніна Рыгораўна, шліфоўшчыца.
Баярчык Алег Міхайлавіч, выдзімальшчык.
Верамейка Іосіф Іванавіч, апрацоўшчык.
Войдак Зофія Ўладзіміраўна, шліфоўшчыца.
Герасімовіч Мікалай Фёдаравіч, галоўны тэхнолаг.
Германовіч Сафія Аляксандраўна, размалёўшчыца.
Грыгаровіч Антаніна Ягораўна, майстар змены.
Грыпіч Васіль Сельвестравіч, слесар.
Ётчык Ганна Раманаўна, резчыца на агні.
Кісляк Пётр Пятровіч, начальнік цэха.
Курыла Любоў Рыгораўна, шліфоўшчыца.
Кушняроў Фёедар Фёдаравіч, начальнік цэха.
Лапкоўская Марыя Маратаўна, наборшчыца.
Лысёнак Андрэй Сямёнавіч, фармоўшчык-заліўшчык.
Матус Соф’я Яўгенаўна, шліфоўшчыца.
Навумовіч Валянцін Уладзіміравіч, апрацоўшчык.
Арэхва Аляксандр Аляксандравіч, галоўны энергетык.
Астравух Ян Казіміравіч, слесар-сантэхнік.
Савельева Надзея Міхайлаўна, шліфоўшчыца.
Сянкевіч Лідзія Віталеўна, шліфоўшчыца.
Сафранюк Апанас Іванавіч, галоўны канструктар.
Сталяроў Леанід Філіпавіч, галоўны энергетык.
Сусуновіч Антаніна Максімаўна, начальнік змены.
Сучкоў Віктар Пятровіч, начальнік ЖКГ.
Тарашкевіч Леанід Анатольевіч, кіроўца.
Шэўчык Раман Мікалаевіч, выдзімальшчык.
Шмыгалёў Кастусь Ягоравіч, нач. цэха металаформаў.
Яновіч Валянцін Міхайлавіч, гравёр па метале.

**Медаль “За працоўную адзнаку”**

Анацкая Алена Максімаўна, шліфоўшчыца.
Аляшкевіч Сяргей Георгіевіч, апрацоўшчык.
Атаповіч Вольга Іосіфаўна, выдзімальшчыца.
Барташэвіч Алена Мар’янаўна, рэзчыца на агні.
Бяспалава Руфіна Паўлаўна, майстар змены.
Бондар Таіса Пятроўна, шліфоўшчыца.
Баяроўскі Уладзімір Віктаравіч, апрацоўшчык.
Браслаўскі Яўген Феліксавіч, апрацоўшчык.
Буцкевіч Уладзімір Яўгенавіч, апрацоўшчык.
Гетка Сцефаніда Ігнацьеўна, выдзімальшчыца.
Гарэлік Любоў Канстаўцінаўна, ст. інжынер-тэхнолаг.
Грышукевіч Ірына Ўладзіміраўна, выдзімальшчыца.
Дзяшук Галіна Пятроўна, размалёўшчыца.
Захараў Валеры Мікалаевіч, маляр.
Зубава Вольга Аляксандраўна, шліфоўшчыца.
Ігнаткова Святлана Сяргееўна, шліфоўшчыца.
Кашко Аляксандр Сяргеевіч, апрацоўшчык.
Кісляк Уладзімір Сяргеевіч, прасоўшчык.
Касцюк Ружа Іванаўна, выдзімальшчыца.
Кохан Васіль Міхайлавіч, электраманцёр.
Малько Жорж Канстанцінавіч, апрацоўшчык.
Мітрафанава Вольга Андрэеўна, шліфоўшчыца.
Мягкова Людміла Міхайлаўна, галоўны мастак.
Несцер Аляксандр Віктаравіч, апрацоўшчык.
Орда Валянціна Міхайлаўна, выдзімальшчыца.
Радзецкая Аграфена Іванаўна, шліфоўшчыца.
Раманоўскі Міхаіл Юльянавіч, кіроўца.
Рунец Станіслаў Станіслававіч, электраманцёр.
Сцекаленка Анатоль Іванавіч, апрацоўшчык.
Трубач Пётр Уладзіміравіч, галоўны тэхнолаг.
Урбановіч Уладзімір Міхайлавіч, электраманцёр.
Шайпук Кастусь Віктаравіч, выдзімальшчык.
Шатава Вера Ўладзіміраўна, размалёўшчыца.
Шэўчык Ніна Іванаўна, шліфоўшчыца.
Шеўчык Мікалай Гаўрылавіч, выдзімальшчык.
Шэўчык Пётр Мікалаевіч, шліфоўшчык.

**Юбілейны медаль “За доблесную працу. У адзначэнне 100-годдзя з дня нараджэння Ўладзіміра Ільіча Леніна”**

Абдарахманаў Аляксандр Аляксандравіч, гравіроўшчык.
Аўраменкава Валянціна Лявонцьеўна, начальнік АТК.
Аўраменкаў Уладзімір Аляксандравіч, паліроўшчык.
Адамовіч Марыя Міхайлаўна, шліфоўшчыца.
Анацкі Аляксандр Мікалаевіч, выдзімальшчык.
Андрушкевіч Соф’я Лук’янаўна, шліфоўшчыца.
Арапава Аляксандра Іосіфаўна, размалёўшчыца.
Афанасенкаў Леанід Ягоравіч, майстар змены.
Бабкевіч Вячаслаў Пятровіч, слесар.
Багмут Андрэй Андрэевіч, запраўшчык ГСМ.
Башко Ванда Іосіфаўна, выдзімальшчыца.
Бялінка Ўладзімір Максімавіч, апальшчык.
Бялушка Алена Іванаўна, шліфоўшчыца.
Беняш Сцяпан Мікалаевіч, апрацоўшчык.
Бяссолаў Аляксей Аляксандравіч, выдзімальшчык.
Бабкова Антаніна Мартынаўна, кантралёр АТК.
Бобрык Уладзімір Браніслававіч, токар.
Багуцкі Іван Раманавіч, апрацоўшчык.
Бондар Віктар Максімавіч, апрацоўшчык.
Барысенкава Валянціна Мікалаеўна, выдзімальшчыца.
Барташэвіч Алена Мар’янаўна, рэзчыца на агні.
Буднікаў Віктар Паўлавіч, шклавар.
Буднікава Ніна Ільінічна, кантралёр АТК.
Бурдун Пётр Канстанцінавіч, хімпаліроўшчык.
Буяк Уладзімір Іванавіч, апрацоўшчык.
Буяк Валянціна Сцяпанаўна, размалёўшчыца.
Буяк Уладзімір Іосіфавіч, электраманцёр.
Буяк Валянцін Іосіфавіч, цясляр.
Валеўскі Мікалай Іванавіч, апрацоўшчык.
Валеўская Казіміра Антонаўна, маркіроўшчыца.
Васілеўскі Аляксандр Іванавіч, апрацоўшчык.
Васіленкава Валянціна Іосіфаўна, шліфоўшчыца.
Велькашынскі Кароль Францішкавіч, слесар.
Вярбіцкі Анатоль Паўлавіч, электразваршчык.
Верамейчык Генадзь Міхайлавіч, апрацоўшчык.
Вігуль Іосіф Іосіфавіч, начальнік лабараторыі НАП.
Вініцкі Георгі Сцяпанавіч, галоўны бухгалтар.
Вісельскі Мікалай Карлавіч, апрацоўшчык.
Вадэйка Ян Станіслававіч, выдзімальшчык.
Воўкава Феона Мартынаўна, выдзімальшчыца.
Гаўрыленкава Людміла Іванаўна, размалёўшчыца.

*партызан. Маруся (Кучук) і трое дзяцей з'явіліся ў атрад. Узрост сыноў 16-17, 13-14, 10-11 гадоў. Маруся заявіла, што муж - камуніст, арыштаваны фашыстамі, уцёк у Варшаву. Выкрыць здрадніка дапамагла Ганна Піліпаўна Васільева з Масквы.*

*- Намі кіруе Англія,- прызналася здрадніца на допыце. - Яшчэ Польска будзе!".*

На працягу 1943-44 г. разглядаліся следчыя справы: Чахальскага Аляксандра Іванавіча, абвінавачанага ў здрадзе Радзіме (27.01.-28.11.43); Варанецкага Антона Аляксандравіча, абвінавачанага ў шпіянажы на карысць немцаў (20-30.01.1944); Мардзвінкіна Васіля Паўлавіча па абвінавачанні ў дэзертырстве (31. 08.1943 - 5.03.1944); Кісілеўскага Яна Ўладзіміравіча па абвінавачанні ў марадзёрстве, п'янстве і сувязі з белымі бандамі (21.09.43 - 29.03.1944); Капачэля Станіслава і яго брата ў адкрытым выступе супраць партызан (27-30.03.1944); Шастак (Чэпікавай) Надзеі Нічыпараўны забітай пры спробе дэзертырства (4.12.43 -31.03.1944); Даўлюд Браніслава і Урбановіча Кастуся забітых пры спробе да ўцёкаў (5.05.1944 і 6.05.1944); Сакаловай Ганны Іванаўны абвінавачанай у шпіянажы і сувязі з польскімі бандамі (15.05.1944). Справы гэтыя ў нацыянальным архіве ўсё яшчэ недаступныя.

Партызанамі расстраляныя таксама Жук Яўген і Пятроўскі Павел Іванавіч.

**Дзямідаў У.А.:** *"Павел Пятроўскі - родны брат Уладзіміра Пятроўскага, быў яшчэ некаторы час у атрадзе і ўсё ж уцёк. Гэтым заняўся асобы аддзел, непасрэдна Сасноўскі. Яны яго злавілі і па рашэнні камандавання расстралялі".*

## 71. Агентуршчыкі

*"Тав. Шуту!*

*Загадваю да 20-00 23 сакавіка 1944 г. даць звесткі аб руху на чыгунцы Ліда-Баранавічы. За невыкананне майго загаду буду прымаць меры спагнання. Папярэджваю яшчэ раз аб падаванні звестак у тэрмін.*

*23 сакавіка 1944 г.*

*Нам. камандзіра атрада "Іскра" па выведцы Сляткоў."*

*"Нам камандзіра атрада "Іскра"*
*па выведцы ад партызана*
*Шута Генадзя Сцяпанавіча*

*Заява.*

*Пры прызначэнні мяне ў агентурную выведку заяўляў, што я не адпавядаю гэтаму прызначэнню, папершае мае гады, адукацыя і няўменне падыходзіць да чалавека (бо я меў дысцыплінарныя спагнанні), а падыход да чалавека ў працы агентуршчыка вельмі важны. Па-другое, нідзе і ніколі не працаваў у грамадскіх арганізацыях, так што пры сучасным становішчы, якое ўскладняецца, пры ўсёй напрузе маіх сіл і жаданняў мая праца не можа быць нават здавальняючай. Мне думаецца, што ў іншым месцы мая праца будзе больш карыснай і мэтазгоднай.*

*З прычыны чаго пераканаўча прашу аб зняцці мяне з агентурнага выведніка. Прашу не адмовіць маёй просьбе.*

*3 красавіка 1944 г."*


Шут Г. С.

***Шут Генадзь Сцяпанавіч*** *(1925 - 12.07.1944) з в. Дроздава, беларус, адукацыя 6 класаў, член ЛКСМБ з 1940, адзін з першых партызан на Лідчыне, пачынаў у атрадзе Радзецкага. Удзельнічаў у баі пад Гярвенікамі, у падрывах цягнікоў, знішчэнні фанернай фабрыкі. У лютым 1943 г. стварыў у Дроздаве падпольную камсамольскую арганізацыю. Двойчы быў паранены. Прадстаўляўся да ордэна Чырвонай Зоркі. Пахаваны ў Ганчарах.*

*"Ніканор!!!*

*Камандаванне партызанскага атрада "Іскра" ведае пра вас як пра добрага чалавека, спадзяецца на вас як на свайго чалавека. Па даручэнні камандавання прашу вас зрабіць для карысці Радзімы вельмі каштоўнае і цяжкае заданне, а менавіта: Вам як стрэлачніку лёгка будзе закласці магнітную міну на цыстэрну або на боепрыпасы на станцыі. Міна магнітная, варта толькі пакласці выбухоўнік і прыляпіць да цыстэрны, а яна сама падарвецца праз тры гадзіны пасля таго як закласці выбухоўнік. Міна вельмі маленькая і лёгкая, мае такі ж колер як цыстэрна. Яшчэ падрабязней вам распавядзе той, хто вам яе ўручыць. Не турбуйцеся, калі вы гэта зробіце, Радзіма вас не забудзе. Звернецеся па раду і дапамогу да СШ. Я думаю, што ён вам не адмовіць.*

*Уручальніку гэтага дайце адказ. Спадзяюся на Вас як на савецкага чалавека, і думаю, што нягледзячы на ўсе цяжкасці, вы гэта зробіце на карысць Радзіме. Па даручэнні камандования атрада "Іскра".*

*З прывітаннем Шут"*

*"Паважаны тав. Міша!*

*Маючы раней з Вамі сувязь, выпадкова па нейкіх прычынах перапыненую да цяперашняга часу, і ведаючы Вас як актыўнага работніка ў мінулым, просім Вас звязацца з намі больш актыўна без усякага страху, маючы ад нас на гэта адпаведны дакумент. Ад імя атрада запэўніваю Вас, што праца Ваша не пройдзе дарма, у свой час будзе аддзячана. Просім Вас дастаць пашпартных бланкаў, цалкам чыстых і пастарайцеся перадаць нам."*

*"Атрымаўшы ад Вас ліст, спяшаюся даць адказ. Таварыш Геня! Рады Вам дапамагчы, чым толькі магу, але што датычыцца справы з пашпартнымі бланкамі, ні ў якім разе нельга, таму што раён зараз не выдае бланкаў з прычыны той, што старшыня воласці падкачаў нам усім, і яго арыштавалі і зараз спынілі выдачу пашпартоў. Буду старацца, калі дастану, то перашлю з вялікім задавальненнем. Тое што датычыцца сакратара, то ў мяне зараз сакратара няма і не ведаю, дзе перадаць, быў сакратар Мішын Ягор, які змабілізаваны ў Рагулеўскае войска. У дальнейшай будучыні будзем мець перапіску і будзем паведамляць падрабязна і буду старацца, каб выслаць Вам бланкі ў далейшай будучыні. Пацікаю Вашу руку, хоць завочна, і лічу Вас як сябра і братам па крыві. З прывітаннем Міша."*

## 72. Камсамольцы

Склад камсамольскай арганізацыі атрада "Іскра" па стане на 1 траўня 1944 г.

Чальцоў - 53, у тым ліку рускіх - 21, беларусаў - 15, украінцаў - 12, габрэяў -5, агітатараў - 5, 2 падпольныя камсамольскія арганізацыі, у іх 6 беларусаў, у красавіку загінуў 1 камсамолец. У траўні былі праведзена 7 камсамольскіх сходаў, у камсамол былі прынятыя 7 чалавек: 4 беларусы, 2 габрэі і 1 украінец.

*"У красавіку 1944 г. у Дакудаве арганізавана падпольная камсамольская арганізацыя з 4 чалавек: Махнач М. Пл.- сакратар, Кіеня Сяр. Ал., Крыпец Іван Дзмітрыевіч, Даўлюд Ал. Паўлавіч. Распаўсюджваюць газеты і ўлёткі ў раёне. Камсамолкай Быстрыцкай Мар. у Лідзе распаўсюджана зв. 300 асобнікаў. Ёю прыведзены з аэрадрома ваеннапалонны, які даў дакладныя звесткі аб стане аэрадрома. Камсамолка Ярашэвіч Вера перавяла 27 чалавек. Камсамольская арганізацыя в. Ганчары, створаная ў жніўні 1943 г: Ярашэвіч Вера - сакратар, Кучынская - чалец. У Ганцавічах арганізавана камсамольская група 4 лютага 1944 г.: Каламыцкі Сямён, 1923 г.н., Каламыцкі Томак, 1926 г.н. У в. Дроздава група арганізавана 26 лютага 1944 г.: Кумпяк Зіна 1924 г.н., з 1940 г. камсамолка - сакратар, Дзікевіч Мікалай, 1922 г.н, камсамолец з 1940 г., Быстрыцкая Вольга, Буяк Насця" (З справаздачы Сляткова "Аб працы камсамольскай арганізацыі атрада "Іскра"). (Ф. 3618, св. 1, даведка 5).*

Захаваўся план працы, напісанага яго рукой: "Я павінен! Увечар складаць працу наступнага дня:

*1. Правесці індывідуальныя гутаркі з камсамольцамі.*

*2. Пагутарыць з маладымі камсамольцамі.*

*3. Праверыць выпуск баявых лісткоў.*

*4. Праверыць зброю.*

*5. Праверыць, ці дадзена камсамольцам якое заданне.*

*6. Правесці ксм сход або бюро.*

*7. Правядзенне гутарак самім або камсамольцамі на розныя тэмы.*

*8. Прывядзенне ў парадак дакументаў.*

*9. Праверка выканання рашэнняў ксм сходаў і плану гк-рк ЛКСМБ.*

*10 Інструктаж па працы сакратароў ксм арганізацый".*

*"Справаздача аб працы ксм арганізацыі атрада "Іскра" за чэрвень 1944 г.*

*За справаздачны месяц праведзена ротных ксм сходаў па 2, акрамя таго праведзены адзін агульнаатрадны сход. На гэтых сходах вырашаліся пытанні:*

*1. Прыём у камсамол.*

*2. Дача рэкамендацый для ўступлення ў партыю*

*3. Справаздачы сакратароў ротных ксм арганізацый.*

*4. Выбары намеснікаў сакратароў з мясцовых камсамольцаў*

*5. Тры гады Вялікай Айчыннай вайны.*

*Унутры атрада і сярод насельніцтва праведзеныя гутаркі групавыя:*

*1. Тры гады Вялікай Айчыннай вайны.*

*2. Чытка брашуры "Карэльскія дзяўчаты".*

*3. Гутарка па артыкуле "Думкі аб будучыні"*

*4. Дэсантная аперацыя англа-амерыканскіх войскаў у Паўн. Францыі.*

*5. Чырвоная Армія наступае на ўсіх Беларускіх франтах.*

*6. Чытка загадаў тав. Сталіна.*

*7. Чытка артыкулаў "Камсамольскай праўды"*

*8. Партызанскі рух у Югаславіі.*

*9. Чытка зводак Савінфармбюро, газет і ўлётак.*

*Новае папаўненне зведзена ў адну роту і навучаецца вайсковай справе лепшымі камсамольцамі-камандзірамі (Бажко, Сакалоў, Кудзінаў). Камсамольцы па даручэннях дапамагаюць асобным асобам у вывучэнні зброі, стралковай справы, падрыўной справы і г.д. З новым папаўненнем асобна праведзеныя гутаркі:*

*1. СССР - краіна сацыялізму.*

*2. Аб правадырах.*

*3. Прапрацоўка загадаў т. Сталіна аб Вялікай Айчыннай вайне.*

*4. Прысяга беларускага партызана.*

*У баявой і дыверсійна-падрыўной рабоце вызначыліся за справаздачны месяц камсамольцы Рудзько, Чыркоў, Чуча, Уласаў, Даўлюд, Говар, Шурубенка, Кудзінаў."*

## 73. Красавіцкія і травеньскія аперацыі

5 красавіка ў раёне Пудзіна адбылася сутычка з польскімі партызанамі.

19 красавіка група партызан трэцяй роты ў колькасці 13 чалавек пад камандаваннем камзвяза Бажко

Мікалая Мікалаевіча пакетам толу вагой у 6 кг падарвала цягнік на чыгунцы Ліда-Маладзечна паміж мастом цераз Жыжму і ст. Гаўя. Разбіты паравоз, 2 вагоны з рэйкамі, разбуранае чыг. палатно на 50 м, рух цягнікоў затрыманы на 8 гадзін. У аперацыі ўдзельнічалі Арлюк Захар, Віленскі Ільля, Кудаш Арсень, Рухлядзеў Аляксандр, Хромін Іван, Горлін Іван, Сіланцеў Павел, Белаброда Фелікс, Макаранка Міхась, Новік Пётр, Афанассеў Андрэй, Саўлоў Сяргей.



***Віленскі Ілья Лейбавіч*** *(8.04.1916-199?)- габрэй з Ліды. Адукацыя 8 класаў. Слесар. Удзельнік польска-нямецкай вайны 1939 г. У ПА "Іскра" з лютага 1943 г., шараговец 2 роты. Удзельнічаў у падрыве 9 цягнікоў.*

27 красавіка 1944 г. Лазавы, Мартыросаў, Багданаў, Гаўрыленка, Яншын, Сапажкоў Зміцер падарвалі чыг. мост ля в. Бярозаўцы-Карповічы блізка ад ст. Гаўя.

5 траўня. Лазавы, Мартыросаў, Варонін Рыгор, Харламаў Анатоль з атрада "Балтыец", Манзюк Сямён, Мазур Уладзімір, Анацкі Мікалай, Вашыўцаў Іван падарвалі цягнік з аўтамашынамі, калючым дротам і інш. вайсковым грузам на пераездзе Бердаўка -Ліпнішкі.

7 траўня падарвана аўтамашына на шашэйнай дарозе Гута- Наваградак, забіты 2, паранены 4 гітлераўцы, разбітая 1 машына. Удзельнічалі партызаны 3 роты Сцепаненка, Навуменка, Жамойцін, Кудла К., Лапуць, Каральчук, Слесар.

***Акт ад 8 траўня 1944 г.***

*Група партызан атрада "Іскра" у колькасці 10 чалавек пад камандаваннем камандзіра звяза Медзінцава Міхася Рыгоравіча падарвала варожы цягнік на чыгунцы Ліда - Маладзечна паміж станцыямі Ліда -Гаўя. У выніку выбуху: 2 вагоны з матацыклами - разбіты, 1 вагон з прадуктамі - разбіты, 1 платформа з дзвюма бронемашынамі - разбітая. Пры крушэнні забіта гітлераўцаў - 19. Рух цягнікоў затрыманы на 27 гадзін. У аперацыі ўдзельнічалі: Бондар Яўген, Барысаў Сяргей, Бацвіна Хведар, Карасялідзэ Іосіф, Кудзінаў Андрэй, Мартыросаў Гурген, Рубінштэйн Рувім, Фельдан Ігнат, Шчарбакоў Сяргей. Вызначыліся: Рубінштэйн, Фельдан, Кудзінаў, Карасялідзэ.*

*Камандзір атрада лейтэнант Коннаў.*
*Камісар атрада мал. палітрук Цімафееў.*
*Ст. групы Медзінцаў.*
*(НАРБ. Ф.1329. Оп 1. Д. 49. Л.120)*

10 траўня Лазавы, Гаўрыленка, Паніч, Сіланцеў Павел, сумесна з дыверсійнай групай "Вераніка" падарвалі цягнік, які ішоў на захад з баявой тэхнікай на чыг. перагоне паміж ст. Ліда - Масты.

12 траўня адбыўся бой пад камандаваннем камзвяза Бажко М.М. з засадай акаўцаў на хутарах каля в. Татарцы. Удзельнічалі партызаны другой роты: Уласаў У., Віленскі І.Л., Водзіеў П., Кудаш А., Шурубенка А., Рубінштэйн, Фельдан І. Забіты 6 акаўцаў, паранены 2.

14 траўня на паседжанні падпольнага Лідскага гаррайкаму КП(б)Б разглядалася пытанне аб працы камандзіра і камісара ПА "Іскра" тав. Коннава і Цімафеева. Прынята пастанова, у якой сказана, што з групы ў 25 чалавек вырасла баявая, поўнасцю ўзброеная адзінка колькасцю ў 215 чалавек, якая на 12 траўня мае на сваім ліку 52 падарваныя цягнікі, 3460 забітых гітлераўцаў і 145 расстраляных. У траўні падарвана 3 цягнікі, 2 аўтамашыны, 1 экскаватар, праведзены бой з белапалякамі.

Ля в. Бенявічы партызаны трэцяй роты Бакіноўскі, Карусейчык, Чыркоў і Фёдараў былі акружаныя ў хаце акаўцамі ў колькасці да 40 чалавек. Забіта 5 акаўцаў, паранена 4.

15 траўня група ПА "Іскра" старшы Балтуноў, на перагоне Мінойты -Даржы падарвала паравоз і 12 вагонаў. Рух затрыманы на 24 гадзіны. Вызначыліся Данейка, Сапешка, Сакалоў, Бурава *(Фонд 3617, воп. 1,св.1, спр. 2, арк. 177.)*

У траўні былі выведзеныя з Ліды ў партызанскія атрады 17 усходнікаў - шафёраў і работнікаў гаража.

## 74. Разгром 4 батальёна АК ля в. Альхоўка 18 траўня 1944 г.

**Лазавы С.Т.:** *"У траўні выведнікі дакладвалі, што белапольскія банды рыхтуюць новы ўдар. Стала цёпла, і наш атрад перабазаваўся ў лес, разбіў лагер паміж в. Альхоўка -Крывічы каля хутароў Хітрага-Саколы".*

**Васільеў Ф.С.:** *"Капітан Рагнер, верны сабака, атрымаў строгае ўказанне ачысціць Лідскі раён ад усіх савецкіх партызан. І вось капітан Рагнер вырашыў у святочны дзень арганізацыі белапольскіх банд у складзе трох калон, пад камандаваннем "Крыся" і "Сібірака" нечакана напасці на партызанскую брыгаду імя Кірава, загнаць нас у Нёман і на другім беразе з засады знішчыць. Ён быў упэўнены ў выкананні гэтага плану. Адважна перайшлі мост цераз Нёман і накіраваліся проста на в. Журавічы. Тут яны напароліся на наш далёкі сакрэтны пост, які іх абстраляў і адразу ж пасеяў у іх няўпэўненасць нечаканага нападу. Мне былі чутныя далёкія ранішнія стрэлы з вінтовак і аўтаматаў. З хутара Хітрага тэрмінова выклікаў свайго намесніка па вайсковай выведцы тав. Дзямі-дава, які таксама чуў гэтыя стрэлы і рыхтаваўся з двума выведнікамі ў выведку, высвятліць, што гэта за стрэлы. Праз паўгадзіны Дзямідаў далажыў, што белапольская банда ў складзе трох калон рухаецца: першая калона ўздоўж берага Нёмана, проста на в. Альхоўку, другая калона ў кірунку в. Крывічы, трэцяя правей ад другой з выхадам справа на Крывічы, з такім разлікам, каб сагнаць партызан у раку і з двух бакоў расстраляць. Такі быў мудры план

*знішчэння народных мсціўцаў.*

*Да вяртання выведкі камандзіры атрадаў былі выкліканыя на хутар Хітрага. Тут быў складзены план сустрэчы. На зваротных схілах могілкаў в. Альхоўка амаль ушчыльную ўздоўж усяго ўзлеску, ад самога берага Нёмана, добра замаскаваныя залеглі тры наймацнейшыя атрады, узброеныя амаль усе аўтаматамі і супроцьтанкавымі стрэльбамі. Першы атрад - атрад адважных, не ўмеўшых хавацца за чужыя спіны, такія як партызан Дабралежа Іван Максімавіч, кулямётчык, за яго вялікі рост і адвагу хлопцы яго любоўна звалі "Паўтара Івана". Гэта атрад "Іскра", атрад "Балтыец" і трэці ў колькасці да ста салдат, узброеных аўтаматамі, камандзір атрада маёр Сарокін, далёкі выведнік Чырвонай Арміі. Гэтай групай я даручыў камандаваць начальніку штаба брыгады тав. Пракаповічу Міхаілу. Другі кірунак на в. Крывічы - сустракаў банду атрад "За Савецкую Беларусь". Добра і ўтойліва залеглі перад в. Крывічы па абодвух баках дарогі. Атрад поўнасцю з гэтай вёскі. Трэці кірунак белабандытаў на атрад Арджанікідзэ і атрад "Арол". Кіраўніцтва боем атрадаў ажыццяўлялася мной з хутара Хітрага.*



***Дабралежа Іван Максімавіч** - нарадзіўся ў 1919 г. у с. М. Бурлун Вяліка-Бурлунскага раёна Харкаўскай вобласці, украінец, з снежня 1942 г. у палоне, працаваў у дэпо. У ПА "Іскра" з сакавіка 1943, камандзір аддзялення.*

*Супраціўнік разлічваў нас заспець знянацку. Атрады хутка занялі абарону і добра замаскаваліся. Гэта былі не лініі абароны, а засады. Бо супраціўнік пра нас нічога не ведаў, я камандзірам груп загадаў: падпусціць супраціўніка як мага бліжэй да сабе, а потым расстраляць ва ўпор. Тых, хто будзе ўцякаць, праследваць і расстрэльваць на хаду. Загад мой быў атрадамі выкананы. Бандытаў падпусцілі блізка да сабе, а потым ураганным агнём, усё адразу змялі, як ветрам здула іх геройства. Яны ў паніцы кінуліся адыходзіць, кідаючы сваю зброю. Рагнер, бачачы такое замяшанне, дакладней такую паніку яго бандыцкага войска, і каб самому выратавацца, хутчэй даў сігнал з ракеты "адыходзіць". Па гэтым сігнале полк бандытаў пачаў уцякаць з усіх трох кірункаў, пакідаючы на полі бою 90 забітых і шмат параненых".*

**Карых С.М.:** *"У пачатку траўня 1944 г. у Налібоцкай пушчы нямецкімі карнікамі была блакаваная партызанская брыгада імя Леніна. Гэтай брыгадзе прыйшлося вельмі цяжка, яна папрасіла дапамогі ў брыгады імя Кірава. Уся брыгада пайшла з раёна в. Альхоўка, Крывічы і з Альхоўскіх хутароў на выратаванне Ленінскай брыгады. Для абароны Альхоўкі і Крывічаў быў пакінуты атрад "За Савецкую Белорусь". 18 траўня 1944 г. прыкладна ў 10-12 гадзін дня агентурная выведка далажыла аб тым, што з боку Пудзіна, Васілевічаў і Бярозаўкі на в. Альхоўка і Крывічы ў трох кірунках рухаецца полк б/п. Асноўныя сілы б/п былі накіраваныя супраць в. Альхоўка. Напярэдадні гэтых падзей у Альхоўку з Усходу прыбыў атрад пад камандаваннем маёра Сарокі. Быў распрацаваны план абароны в. Альхоўка і Крывічы. У в. Крывічы пакінулі невялікі заслон з партызан атрада "За Савецкую Беларусь". Асноўныя сілы былі кінутыя на абарону в. Альхоўка. Спецатрад маёра Сарокі, атрад "За Савецкую Белорусь" і частка партызан з атрада "Іскра" занялі абарону за Альхоўкай да Нёмана. Прыкладна ў 13-14 гадзін з боку в. Васілевічы да Альхоўкі пад'ехала конная выведка б/п. Партызаны не выявілі сябе. Праз гадзіну -дзве пасля гэтага з лесу высунуўся батальён б/п. Партызаны далі ім магчымасць заняць частку в. Альхоўка, а калі ўсе іх сілы ўцягнуліся ў Альхоўку адкрылі знішчальны агонь. За 15-20 хвілін амаль усе б/п былі знішчаныя. Мала каму ўдалося, кінуўшы зброю, збегчы. Партызанам у гэтым баі дасталіся вялікія трафеі: кавалерыйскія коні, сёдлы, узбраенне, боепрыпасы і г.д. У забітага афіцэра знайшлі карту, на якой быў вычарчаны план аперацыі. Знайшлі загад: у выпадку поспеху, а ў гэтым яны не сумняваліся, даць серыю ракет і рухацца з Альхоўкі на Крывічы. Затым сумеснымі высілкамі знішчыць партызан у в. Крывічы, захапіць гэтыя вёскі і знішчыць партызан, якія будуць вяртацца з Налібоцкай пушчы. Партызаны далі серыю ракет, нібы б/п маюць поспех і захапілі Альхоўку. А самі хутка рушылі насустрач другому батальёну б/п. Зблізіўшыся з другім батальёнам б/п паміж в. Альхоўка і Крывічы, з ходу разграмілі і другі батальён б/п. І ў гэтым баі партызанам дасталіся багатыя трафеі".*

**Лазавы С.Т.:** *"У 12 гадзін дня б/п абстралялі ў Альхоўцы нашых выведнікаў. Знаходзячыся ў той час у Альхоўцы паспяшаўся далажыць у атрад, што б/п займаюць Альхоўку, я рушыў па дарозе да Крывічаў, але з боку могілкаў мяне абстралялі з кулямёта. Я на сваім кані паспеў схавацца ў кустах і хутка даехаў у партызанскі лагер, далажыў Коннаву аб становішчы, якое склалася. Камандзір па трывозе прывёў атрад у баявы стан, выведка далажыла, што з боку в. Малыя Ляхавічы б/п падпалілі частку хатаў у в. Крывічы. Сапраўды, Крывічы завалакло дымам. Сабраліся камбрыг Васільеў, камандзіры атрадаў Коннаў, Пралыгін, з боку хутара Хітрага падышлі атрады маёра Сарокі, здзейсніўшыя баявыя рэйды ў тыле ворага. У Альхоўку зайшлі б/п бандыты, далі ім магчымасць знаходзіцца ў Альхоўцы гадзіны 2-3 часу, хапіла, каб б/п напіліся самагонкі. А потым па сігналу камбрыга Васільева раптоўным кідком кінуліся вызваляць Альхоўку ад б/п. П'яная арда б/п была выбітая з Альхоўкі на працягу 2 гадзін, б/п страцілі ў гэтай аперацыі 69 чалавек забітымі, да 50 параненымі. Захапілі вялікія трафеі зброі, коней, палонных не бралі, адразу расстрэльвалі. З нашага боку страт*

*не было, быў паранены ў жывот Павел Сямёнаў, які на раніцу сканаў. Дзеля пазбягання хвароб і трупнага паху альхоўскія сяляне сабралі б/п трупы і пахавалі на могілках у брацкай магіле".*

Колькасць загінулых ацэньвалася па рознаму. Забіта 40, паранена 58 б/п. Забіта 48, паранена 45. Забіта 47 акаўцаў і 6 партызан. Лазавы, які ў гэтым баі забіў дваіх, сцвярджаў, што акаўцы страцілі забітымі 69 чалавек, чырвоныя партызаны страцілі аднаго. Быў забіты і дэсантнік з групы маёра Сарокіна.

А вось што аб гэтым паходзе 4 батальёна АК на левабярэжжа Нёмана напісаў Казімір Краеўскі: *"Наступальная аперацыя, прадпрынятая ў канцы зімы 1944 г. рускімі супраць атрадаў АК, а таксама паведамленне аб забойстве ў красавіку палякаў з-за Нёмана, якія жадалі пераправіцца на "польскі" бераг да атрадаў АК, схілілі камандзіра групоўкі "Поўдзень" - маёра "Котвіча" - да падрыхтоўкі франтальнага ўдару на брыгаду імя Кірава ў Крывічах. Загад для атрадаў, якія прынялі ўдзел у гэтай аперацыі падпісаў падпаручнік "Рагнер", аднак вядома, што аўтарам плану дзеянняў быў сам маёр "Котвіч". На акцыю ішоў увесь 4 батальён. "Котвіч" распрацаваў досыць складаны план узаемадзеянняў трох калон, якія павінны былі асобнымі трасамі прасоўвацца левым берагам Нёмана. У загадзе на акцыю "Гадавіна" вызначалася галоўная мэта: "Франтальны ўдар на Крывічы ўсім батальёнам і знішчэнне часткі брыгады Кірава (прымаючы да ўвагі не вельмі значныя сілы батальёна варта выкарыстаць момант раптоўнасці)".*

*План аперацыі зыходзіў з таго, што ўсе тры калоны пераправяцца лодкамі праз Нёман у Ганцавічах. Першая рота "Фрэда" мела для руху самую доўгую трасу Устронь-Боркі, Журавельнікі, Мерзнікі, Генюшы, Храпенева, Ляхавічы, Збойск, Крывічы. Да Крывічаў рота павінна была дайсці, рухаючыся велізарнай гіганцкай дугой і абыходзячы з паўднёвага ўсходу. Другая калона, складзеная з 3 роты "Алега", роты ЦКМ "Мевы", звязаў "Кубы" і "Куны", мела для выканання меншую дугу, рухаючыся праз Астроўну, Ясянёва, Журавельнік, Глініца і Атмінава. Разам з калонай ішоў "Рагнер і "Котвіч". Трэцяя калона, 2 рота "Лотніка", ішла самой кароткай трасай уздоўж Нёмана праз Пудзіна і Альховку. У Глініцы павінна была сустрэцца з калонай "Рагнера". Конны звяз, які павінен быў ехаць асобнай трасай, ужо перад Альхоўкай злучыўся з ротай "Лётніка". План распрацаваны "Котвічам" меў шмат слабых бакоў, да таго ж не ўлічыў крытычных заўваг камандзіраў падраздзяленняў. Трасы руху былі залішне працяглымі, сістэма паступовага пасоўвання атрадаў заблытаная.*

*Адразу ж быў згублены найважнейшы фактар-захоп знянацку. Інфарматары савецкага камандавання разгадалі польскія планы. Брыгада імя Кірава пакінула Крывічы і падрыхтавала засаду на атрады АК у раёне Альхоўкі. Калі ўначы 18 траўня другая рота і конны звяз пасля кароткай сутычкі занялі Альхоўку, былі атакаваныя галоўнымі сіламі брыгады. Конны звяз патрапіў у засаду на паляне паміж вёскай і лесам, панёс вялікія страты. Другая рота была часткова разбітая і змушаная перайсці да абароны на ўскраіне Альхоўкі. Ад поўнай паразы выратавала яе калона якую вялі "Рагнер" і "Котвіч". У шматгадзінным баі, які адбываўся на значным абшары вакол Альхоўкі, савецкія атрады былі адбітыя. Вялікае значэнне меў агонь цэкаэмаў падпаручніка "Мевы". Атрады АК адступілі, забіраючы параненых і частку загінулых. У баявой мітусні згубіўся маёр "Котвіч" з групай легіянераў. Адыходзілі асобна і з астатняй часткай батальёна сустрэліся пасля пераправы за Нёманам. Тым часам першая рота "Фрэда" выканала атрыманае заданне выцяць на Крывічы. Захапіла вёску пасля кароткай сутычкі з савецкай залогай, страты якой былі малаважнымі. З прычыны правалу аперацыі адступіла за Нёман.*

*У баі пад Альхоўкай загінулі 23 легіянеры АК, і таксама некалькі дзесяткаў атрымалі раны. ... Савецкія рапарты вызначалі перабольшаныя страты АК больш за 40 забітых і 50 параненых, 6 палонных, таксама здабыча 2 ркмаў, 2 пм, 20 кб, 2 пісталеты, 8 гранат і 500 патронаў. Колькасць здабытай рускімі зброі яўна паказвае, што рэальная велічыня стратаў паказаная ў рэляцыі складзенай польскімі ўдзельнікамі бою. Праўдзівая інфармацыя аб узяцці некалькіх палонных, якія пасля допытаў былі расстраляныя бальшавікамі. Можна дапусціць, што да ліку загінулых акаўцаў савецкае камандаванне дадало ў сваіх рапартах мірных жыхароў Альхоўкі, забітых падчас шматгадзіннага савецкага наступу. Вёска падчас бою часткова згарэла. Страты рускіх партызан рэляцыі польскіх удзельнікаў бою ацэньваюць, як вельмі вялікія. Гавораць у іх часам аб 100 параненых і забітых. Затое рапарты савецкага камандавання гавораць аб малаважных стратах рускіх. ...*

*... Усе загінулыя польскія партызаны 20 або 21 траўня па загадзе кіраўніцтва савецкай партызанкі былі мясцовымі жыхарамі звезеныя фурманкамі на сельскія могілкі ў Альхоўцы і пахаваныя ў дзвюх магілах за іх межамі. Трупы былі агаленыя да бялізны альбо дагала і насілі сляды гвалту - мелі выбітыя вочы і разадраныя раты. Пасля вайны частка трупаў была эксгумаваная сваякамі загінулых, астатнія спачываюць пры могілках у Альхоўцы. Не адпавядае праўдзе пагалоска аб ганаровым пахаванні загінуўлых праведзеным савецкай партызанкай. Удалося ўстанавіць прозвішчы некаторых салдат загінулых пад Альхоўкай: падпаручнік Ежы Ляшчынскі "Лётнік", падпаручнік Казімір Папкоўскі "Міхал", Хенрык Максімчык, Рамуальд Садоўскі "Жбік", Ян і Вацлаў Рахаткі, капрал "Баруўка", капрал "Шары", "Бас" (Kazimierz Krajewski. Armia Krajowa na ziemi Lidzkiej./ Ziemia Lidzka. 1999. № 39, s. 25-26)*

**Дзікевіч М.М.:** *"Веснавой раніцай у гадзін дзевяць па так называнай "праектавай" дарозе рухалася калона чалавек 120-150 Арміі Краёвай. Мы*

*ўбачылі іх з вінтоўкамі і карабінамі ў рагатоўках з арламі, вырабленымі з бляхі, мундзірах, пашытых з вясковага палатна. Рознага колеру порткі і галіфэ, розны абутак (боты, камашы, абмоткі). На двух вазах везлі лодкі. Стала зразумела: будуць перабірацца на другі бок Нёмана.*

*Якімі дарогамі ўцякалі асноўныя сілы "белых" ваякаў з-пад Пудзіна мы не бачылі. Бачылі толькі, як праз некалькі дзён у адзіночку і групамі беглі яны каля хутароў назад".*

## 75. Помста па-польску

*"Праз тры дні рушыла чарговая польская выправа на левы бераг Нёмана. Падпаручнік "Рагнер" меў намер дайсці да Альхоўкі і забраць адтуль сваіх загінулых салдат. Акрамя 1V батальёна ў акцыі ўдзельнічала "Багданка". У пачатку ў некалькіх чарговых вёсках савецкія партызаны адыходзячы прадпрымалі спробы адпору і адстрэльваліся. Польскае камандаванне, быўшы пад уплывам паразы тры дні назад, палічыла, што працяг аперацыі быў бы залішне рызыкоўным. Рашэнне не было правільным. З савецкіх рапартаў выцякае, што на гэты раз рускія атрады былі захопленыя знянацку польскай акцыяй, і можна было ім устроіць сур'ёзную паразу (наваліць горы рускіх трупаў на радасць фашыстам -В.С.).*

*Па дасягненні Пудзіна, зкамунізаванай вёскі, былой адной з савецкіх баз, падпадзяленні 1V батальёна правялі там адказныя дзеянні. Спалілі частку пабудоў і застрэлілі некалькі чалавек. Непасрэднай нагодай адказу быў факт, што жыхары вёскі пераследвалі адыходзячых з-пад Альхоўкі параненых польскіх салдат, стралялі ў іх і спрабавалі іх злавіць. Падчас стыхійнай адказнай акцыі здзейснены аднак адпаведныя памылкі і блытаніна" (Kazimierz Krajewski Armia Krajowa na ziemi Lidskiej./Ziemia Lidzka. 1999. № 39, s. 26).*

## 76. Перамовы камандавання атрада "Іскра" і 4 батальёна 77 палка АК

**Карых С.М.:** *"Пасля гэтага разгрому б/п запрасілі ў нас міру. Яны прапанавалі скласці мір і агульнымі высілкамі граміць гітлераўцаў. Камандаванне Лідскага міжрайцэнтра і брыгады імя Кірава далі згоду на перамовы".*

Не зусім так, першым 24 чэрвеня 1944 г. звярнулася да камандавання польскіх легіянераў з лістом камандаванне ПА "Іскра":

*"Здаецца не цалкам ясна, як магло здарыцца, што польскія легіёны разам з нямецкімі акупантамі аказаліся душыцелямі свайго народа і асабліва беларускай часткі насельніцтва, якое ні ў чым не вінавата. Зараз польскія атрады дзейнічаюць у розных раёнах разам з Чырвонымі партызанамі, знішчаюць немцаў, дапамагаюць вызваленню сваёй тэрыторыі і свайго народа.*

*Рэгулярныя польскія дывізіі разам з Чырвонай Арміяй б'юць нямецкае войска. Польскія патрыёты б'юць немцаў у Італіі. Гэта зразумела і цалкам лагічна. Але калі глядзіш, што іншыя польскія атрады нічым не адрозніваюцца ад немцаў і ўсімі сіламі вядуць вайну з чырвонымі партызанамі - гэта не зразумела.*

*Таму мы зараз розніцы не бачны пакуль што паміж немцамі і вамі. Але ўсё ж спадзяёмся на адпаведны паварот у вашай палітыцы. Мы не жадаем праліваць славянскую кроў дарма і так дурное. Калі ў вас наспеў менавіта некаторы палітычны паварот, то мы ідзём з вамі на перамовы і звяжам вас з польскімі патрыётамі ў СССР і Камандаваннем польскага войска ў СССР. Стан і становішча сваё вы ведаеце выдатна, таму мы вас не агітуем, а проста жадаем скараціць ахвяры і накіраваць увесь агонь супраць агульнага ворага - немцаў.*

*Таму мы просім Вас на першы раз адказаць пісьмова". (НАРБ. Ф.4, оп. 33 а, д. 472, арк.104.)*

Адказ прыйшоў праз тры дні.

*"У сувязі з атрыманнем Вашага ліста ад 24 чэрвеня 1944 г. паведамляю, што польскія атрады заўсёды жадалі быць у дружалюбных адносінах з крэўным і вялікім славянскім народам. Нажаль, сярод ідэйных савецкіх партызан украліся такія адзінкі, якія заўсёды імкнуліся змагацца з намі. Узаемна пралітая кроў паказала нам дарогу да агульнай дамоўленасці. З радасцю гляджу на паварот Вашай палітыкі. Ахвотна дамоўлюся з вамі з нагоды сумеснай барацьбы з нямецкімі захопнікамі. Наш батальён з першых дзён яго стварэння вядзе барацьбу з немцамі. Вы добра ведаеце, хто заняў бункер у Бярозаўцы, хто абяззброіў Усялюбскія бункеры. Калі жадаеце дамовіцца з намі з нагоды агульнай барацьбы супраць немцаў, прышліце да мяне Вашага парламенцёра 30 чэрвеня 1944 г. да 12 гадзін дня. Пароль: "Варшава", водгук "Масква". Даю сваё афіцэрскае слова, што з Вашым парламенцёрам нічога дрэннага не здарыцца.*

*Камандаванне Навагрудскага батальёна."*

*(Там жа, арк. 105).*

Назаўтра, 28 чэрвеня камандаванне ПА "Іскра" адправіла пасланне ў адказ:

*"Першым чынам, мы з вялікім жаданнем і ўвагай прачытаўшы ліст, радыя былі дамовіцца з вамі па ўсіх асноўных пытаннях, на што так доўга не было магчымасці.*

*... З польскімі партызанамі мы ўсяляк жадалі мець сувязь з самога з'яўлення іх.*

*Вы павінны ведаць, у верасні 1943 г. мы вялі перапіску з Камандзірам дзейных польскіх атрадаў у Лідскім раёне панам Рагнерам - Заянчкоўскім. Мы тады ўсяляк хацелі ўрэгуляваць нашыя пытанні. Але, да агульнага шкадавання, на гэта вашае камандаванне не пайшло, што ўзаемна прынесла непатрэбныя ахвяры і паслугі немцам.*

*... Прапануем абмен прадстаўнікамі правесці*



**_Партызаны атрада "Іскра". Ляжаць: Коннаў і Зямскоў. Сядзяць: Панін Андрэй, Цімафееў Рыгор, Пралыгін Іван, Глухароў Аляксей, Жукаў Пётр. Стаяць: Федзя, Пятроўскі Ўладзімір, Васільева Ганна, Васільеў Мікалай, Сініцын Віктар, Сляткоў Пётр, Феакціставў Іван, Уласаў Уладзімір, Кумпяк Федзя._**

*супраць хутара Сцефановіча (Васілевіцкія хутары), прычым па два прадстаўнікі з асабістай зброяй выходзяць на бераг і абменьваюцца паролямі вамі ўказанымі: "Масква" - "Варшава". Мы падрыхтуем лодку для пераправы парламентарыяў.*

*Гарантуем жыццё і недатыкальнасць Вашых прадстаўнікоў, і вяртанне іх назад. Спадзяюся, што вы зробіце ўсё магчымае для пазбягання ўсякіх выпадковасцяў пры абмене прадстаўнікамі.*

*Абмен правесці ў 11 гадзін па маскоўскім часе на ўмоўленым месцы. Спадзяёмся на паспяховае вырашэнне нашых пытанняў" (Там жа, арк. 108).*

**Карых С.Н.:** *"Была складзена дамова, у якой было запісана, што б/п на ўсёй занятай імі тэрыторыі на правым баку Нёмана не будуць чыніць чырвоным партызанам перашкод падчас баявых аперацый на чыгунцы Ліда-Маладзечна і іншых аперацый, якія будуць праводзіцца ў гэтым раёне, а таксама спыняць тэрор супраць мясцовага насельніцтва, якое звязана з намі. Калі трэба будзе - дапамагаць адзін аднаму ў баі. Па гэтай дамове без адмысловага на тое дазволу б/п не мелі права пранікаць ні групамі, ні ў адзіночку на левы бераг Нёмана. З тых часоў да злучэння з ЧА чырвоныя партызаны параўнальна вольна аперавалі на занятай б/п тэрыторыі".*

**Лазавы С.Т.:** *"На Васілевіцкіх хутарах былі падпісаныя мірныя ўмовы. З боку партызан для падпісання дамовы да б/п ездзілі два нашыя закладнікі Яўген Воўкаў і Гурген Мартыросаў. Да нас прышлі 2 б/п афіцэры. На хутарах адбылося падпісанне дамовы аб ненападзе паміж партызанамі і б/п. Б/п афіцэры пазналі сваіх коней, якія дасталіся нам як трафеі. Падпісанне дамовы адбылося ў дзве гадзіны. Мы іх пачаставалі пасля падпісання самагонкай, спадабалася ім наша гасціннасць, яны нават не жадалі хутка раставацца, але на р. Нёман быў ужо выклік нашых парламянцёраў Воўкава і Мартыросава аб канцы перамоваў. Б/п селі ў лодку і адначасова з аднаго і другога берага адплылі лодкі. Нашы парламенцёры шчасліва прыбылі на наш бок".*

30 чэрвеня ст. лейтэнант Мартыросаў і лейтэнант Воўкаў ездзілі на сустрэчу з белапалякамі. 2 ліпеня ізноў адбылася сустрэча. Мартыросаву ад брыгаднага камандавання было выпісана пасведчанне:

*"Выдадзена ст. лейтэнанту тав. Мартыросаву ў тым, што ён з'яўляецца прадстаўніком ад Кіраўскай партызанскай брыгады па вядзенні далейшых перамоваў з камандаваннем Наваградскага батальёна польскіх партызан. Адначасова тав. Мартыросаву даручаецца абмен выведдадзенымі з указаным камандаваннем па пытаннях:*

*1. Стан нямецкіх залогаў.*

*2. Наяўнасць і размяшчэнне складоў.*

*3. Размяшчэнне аэрадромаў, пасадачных*

*пляцовак, колькасць, месца размяшчэння ілжывых аэрадромаў.*

*4. Аб пасоўванні войскаў і тэхнікі па шашэйных дарогах і чыгунках.*

*Сапраўднае да 25 ліпеня 1944 г.*
*Камісар брыгады імя Кірава Кандакоў.*
*Нам. камандзіра брыгады імя Кірава па выведцы Дзямідаў.*

**Воўкаў І.Г.:** *"З Гургенам Амірханавічам Мартыросавым з атрадам АК (ён зваўся, як нам паведаміў іх камандзір паручнік Туркуць Наваградскім батальёнам пяхоты) мы ездзілі на перамовы па даручэнні камандавання брыгады…. Памятаю добра, што мяне апранулі ў афіцэрскую форму камандзіра атрада, Саша Коннаў даў сваю фуражку, у яго была памежная з зялёным верхам, Гургену далі форму хлопцы з групы выведкі (спецатрад парашутыстаў), ён быў з пагонамі старэйшага лейтэнанта ў пілотцы лётчыка. З Альхоўкі, дзе тады дыслакавалася "Іскра" да Васілевіцкіх хутароў дамчалі хутка. Роўна ў 12 пад'ехалі да Нёмана і на тым баку ўбачылі вершнікаў. Абмяняліся паролямі ("Варшава - Масква"). Нас з Гургенам перавозчык павёз на той бок, два афіцэры-палякі - з другога боку, сустрэліся лодкі на сярэдзіне Нёмана, павіталі адзін аднаго мы. Афіцэр, які сустрэў нас, як зараз яго памятаю: малады, прыгожы, прадставіўся нам, назваў сябе: Кміціц. На іх конях даехалі да Дакудаўскага хутара, там сустрэў нас камандзір атрада Туркуць, і маленькага росту ў выдатнай форме афіцэр, назваў сябе лонданскім прадстаўніком. Прозвішча яго як памятаецца, Шаль. Селі за стол. Галоўнае ў перамовах было - за што мы ваюем. Яны сказалі: за Польшчу, мы - за СССР, дамовіліся аб сяброўстве і ненападзе. Першы дзень перамоваў уласна на гэтым скончыўся, рассталіся цёпла. Праз тыдзень прыкладна (тры дні - В.С.) сустрэліся другі раз. Перамовы працягваліся даўжэй, абгаварылі ўсё да падрабязнасцяў: дні сустрэч, паролі, яўка, месцы збору, размежаванні тэрыторыі, склалі дамову ў двух асобніках (адзін застаўся ў іх, другі ўзялі мы) падпісаных двухбакова, так сказаць. Потым Гурген Міхайлавіч ездзіў да іх ужо адзін, здаецца разы два. Я з імі больш не сустракаўся, але памятаю іх, як жывых. Памятаю добра і іх прозвішчы Туркуцъ, Кміціц, Шаль - хутчэй за ўсё гэта псеўданімы. Туркуць быў камандзірам атрада, Кміціц - начальнік выведкі, Шаль -начальнік штаба".*

***Воўкаў Іосіф Георгіевіч*** *1920 г.н. нарадзіўся ў с. Лаўрова Сенкаўскага р-на, Калінінскай вобл. Скончыў у Ленінградзе тэхнікум хімічнай прамысловасці (1940). У кастрычніку 1940 г. прызваны ў ЧА, служыў у Віцебску і ў Лепелі ў частках сувязі ВНАС. У палон трапіў пад Смаленскам. Уцёк, хаваўся, ізноў патрапіў у палон. З кастрычніка 1942 па травень 1943 г. камісар атрада "Кастрычніцкі".*

***Мартыросаў Гурген Амірханавіч*** *(15.02.1912 - 23.07. 1995), армянін, нарадзіўся ў с. Чардахлы Шамхорскага раёна Азербайджанскай ССР. Вучыўся ў Баку, працаваў у Кіравабадзе, Ленінградзе, Ноўгарадзе, Куйбышаве, дацэнтам у інстытуце філасофіі АН СССР у Маскве. Уступіў у маскоўскае народнае апалчэнне. З 6 кастрычніка 1941 г. па 7 снежня 1943 г. знаходзіўся ў палоне, працаваў санітарам у нямецкіх шпіталях і перакладчыкам, ведаў армянскую, татарскую, нямецкую мовы. У Лідзе з канца 1942 г. Адзін з кіраўнікоў уцёкаў з шпіталя ў складзе групы з 51 чалавека. Удзельнічаў у красавіцкіх-травеньскіх аперацыях у складзе другой роты.*



***Мартыросаў Г. А.***

## 77. Апошнія аперацыі атрада

10 чэрвеня загадана ўсімі сіламі правесці масавыя разбурэнні рэек на ўчастках чыгункі Ліда- Маладзечна і Ліда -Баранавічы. 18 чэрвеня атрады выйшлі на аперацыю.

14 чэрвеня група партызан ПА "Іскра" - 8 чалавек, старшы Даўлюд на перагоне Ліда -Маладзечна арганізавала выбух - разбіта 14 вагонаў з жывой сілай і вайсковыя грузы. Забіта 180, паранена 80 гітлераўцаў. Вызначыліся Чыркоў І., Кручкін П., Чуча І. *(Фонд 3617, воп. 1,зв.1, спр. 2, арк. 192.)*

Чэрвень 44. Падарваны цягнік на чыг. Ліда - ... Чыркоў, Пурцэлядзэ. *(Дзённік 3 роты.)*

22.06.44 г. Бой з немцамі ля в. Навіны. Сцепаненка, Навуменка, Грынько, Карусейчык, Говар. *(Дзённік 3 роты.)*

Забіта 10 немцаў, паранена 5, узята ў палон 5. Вызначыліся Глухароў, Задзіран, Феактыстаў, Чылека М.Р. *(Ф. 3618, воп.1 спр. 3, стар. 157.)*



***Задзіран Аляксандр Рыгоравіч*** *- нарадзіўся ў1925 г. у в. Улазавічы Суражскага раёна Бранскай вобл, рускі, быў у палоне, у партызанах з кастрычніка 1943 г.*

У падрыве чыгуначнага палатна ўдзельнічалі Тэртычны, Сідар, Курылаў, Шуціла. Вызначыліся Шуціла, Тэртычны.

***Тэртычны Казімір Маркіянавіч** - нарадзіўся ў 1921 г. у с. Тэалін Манастырышчанскага р-на Чаркаскай вобл., украінец. Скончыў 7 класаў (1937) і ФЗВ па спецыяльнасці слесар-выпаршчык цукровага завода (1938). У лістападзе 1940 г. прызаны ў ЧА. Служыў у 128 сп, 22-23 чэрвеня полк пад Беластокам разбіты з паветра. Каля Наваградка трапіў у палон. У верасні 1941 г. з Лідскага лагера накіраваны на працу ў дэпо. Камандзір аддзялення ПА "Іскра" з сакавіка 1943 па ліпень 1944 г.*

3 ліпеня 1944 г. падарвана бочка з бензінам на гарадской аўтабазе, знішчана 165 тон бензіну. Аперацыю ажыццявілі Кучынская Вера і Касарэўская Зоя. *(Ф..3618, воп.1, зв. 2, даведка 9).*

**Сляткоў П.:** *"У чэрвені 1944 г. начальнік дыверсійнай групы маёр Сляпнёў прыбыў у наш атрад, пазнаёміў мяне з магнітнай мінай, у сваю чаргу з магнітнай мінай я пазнаёміў Ярашэвіч Веру і Кучынскую. Пасля некалькіх заняткаў маёр перадаў міну Кучынскай і Ярашэвіч. Раней ім было дадзена заданне спаліць склад з палівам, што знаходзіўся каля ст. Ліда, але ім не ўдавалася. Яны завялі знаёмства з аховай, але пакуль безвынікова. З атрыманнем магнітнай міны дзве дзяўчыны з сумачкай у руках, адправіліся ў Ліду. Дачакаўшыся моманту, калі іх знаёмы стаў на пост па ахове свайго аб'екта, адна з іх завязала гутарку з вартавым, другая праходжвалася ўздоўж плота ў чаканні сяброўкі і праглядала агароджу. Да шчасця дошкі аказаліся адарванымі. На тым баку шчыльнай дашчанай агароджы па ўсім перыметры стаялі бочкі з палівам. Удаўшы стомлены выгляд Вера села ў цень пад агароджу да адарваных дошак, паставіла міну на час, пляснула яе да бочкі, прыціснула спіной адарваныя дошкі, агледзелася, падышла да сяброўкі і рашуча запатрабавала ісці дадому, бо ў яе ад спякоты забалела галава. Вартавы застаўся, дзяўчаты пайшлі. І калі яны выйшлі з горада, праз гадзіну адбыўся выбух. У выніку выбуху згарэла 165 тон бензіну ў самім сховішча, акрамя таго некалькі сот бочак у двары сховішча і некалькі аўтамашын. Пасля праверкі дасканалай дыверсіі маёр Сляпнёў прадставіў да ўрадавай узнагароды Кучынскую, Ярашэвіч і мяне".*

4 ліпеня падарвана чыгуначнае палатно - 18 рэек на чыгунцы Ліда - Маладзечна. Рух цягнікоў затрыманы на 12 гадзін. Старшы групы Сакалоў У., вызначыліся Кажамяка К., Дамейка Ул. У той жа дзень падарваныя воз і аўтамашына, забіта 2 гітлераўцы, паранена 4. Удзельнічалі Шут Генадзь, Сцефановіч, Суранчыеў *(Ф. 3618, воп.1, зв. 2, даведка 9).*

## 78. Злучэнне з часткамі Чырвонай Арміі

8 ліпеня 1944 года ПА "Іскра" злучыўся з рэгулярнымі часткамі Чырвонай Арміі ў раёне Морына, Крывічы і Альхоўка. На дзень злучэння з Чырвонай Арміяй у атрадзе "Іскра" налічалася 264 чалавекі, з іх 9 камуністаў, 11 кандыдатаў, 61 член ВЛКСМ.

Тры роты, у кожнай роце два звязы, у кожным звязе два аддзяленні.

## 79. Вынікі

Атрад "Іскра" за тры гады вайны спусціў пад адхон 61 цягнік. Разбіта і пашкоджана 68 паравозаў, 76 вагонаў з жывой сілай супраціўніка, 21 вагон з тэхнікай, 22 з боепрыпасамі, 60 з харчам, 13 з вуглём. У выніку крушэнняў загінула 3550 гітлераўцаў, 1279 паранена. Праведзена 20 баёў і засад, пры гэтым забіта 137 гітлераўцаў. Захоплена: 3 кулямёты, 3 аўтаматы, 53 вінтоўкі, 17 пісталетаў. *(Выпіска з зводнай справаздачы аб праведзенай баявой і дыверсійнай працы партыза-скай брыгады імя Кірава Лідскага міжрайцэнтра з моманту арганізацыі брыгады па 15 ліпеня 1944 г.) (Ф. 3500, воп. 4, спр. 253. аркарк. 22-28.)*

**Зямскоў Х.А:** *"Атрад "Іскра" быў свайго роду кузняй па падрыхтоўцы каманднага складу для іншых атрадаў і брыгад. Так з атрада "Іскра" па загадзе ўпаўнаважанага ЦК быў прызначаны камісарам "Першамайскай" брыгады тав. Дзееў Аляксандр. Загадамі камандзіра брыгады былі прызначаны: камандзірам атрада "Балтыец" тав. Пралыгін Іван, камісарам атрада імя Арджанікідзэ тав. Кіян Васіль, камандзірам атрада "За Савецкую Беларусь" тав. Канашэвіч Іван, камісарам гэтага атрада Жукаў Пётр, намеснікам камандзіра брыгады тав. Дзямідаў Валянцін, намеснікам камісара брыгады па камсамоле тав. Дудараў Васіль.*

*У атрадзе былі медыцынскія работнікі па лячэнні параненых і хворых партызан. Пры лячэнні асабліва вызначаўся лекар тав. Гордзін, які, нягледзячы на цяжкія ўмовы, абмежаванасць прылад, медыкаментаў пры адсутнасці элементарных умоў рабіў складаныя аперацыі, якія заканчваліся добрым зыходам. Партызанскі атрад на працягу ўсёй барацьбы з фашысцкімі захопнікамі і іх прыхваснямі абапіраўся на мясцовае насельніцтва, і насельніцтва аказвала партызанам шчырую дапамогу.*

*Уся баявая дзейнасць атрада, як у адкрытай барацьбе, так і ў кіраўніцтве падпольнай працай супраць фашысцкіх акупантаў праходзіла пад кіраўніцтвам партыйнай і камсамольскай арганізацый. Камуністы і камсамольцы атрада заўсёды былі прыкладам, як у арганізацыі атрада, падполля, а таксама ў правядзенні баявых аперацый і тлумачальнай працы сярод цывільнага насельніцтва".*

# "... Каб праўдай дыхалі радкі"

## *Пятру Макарэвічу – 70 гадоў*

У вёсцы Шынкі Крупскага раёна, што на Меншчыне, на беразе рэчкі Можа, 15 красавіка 1938 года нарадзіўся Пётр Макарэвіч, якому лёс наканаваў быць паэтам. А чаму лёс? А можа сама прырода прабудзіла ў ім паэтычны дар, які з нараджэння жыў у ім і толькі слова было за часам, каб у пэўны момант выліцца яму, гэтаму дару, на паперу.



**Верш на поўны голас**

Прырода ж родных мясцін Пятра Макарэвіча, сапраўды, маляўнічая: тая ж рэчка Можа, якая, здаецца, спрамяняе сонечнае святло, травяныя і пясчаныя берагі, лазовае кустоўе, дрымучы лес - усё гэта само сабою западала ў душу хлопчыка, зачароўвала яго. Як і ўсе вясковыя дзеці, ён басанож бегаў па гэтых берагах, качаўся ў траве, купаўся ў Можы, гуляў у розныя гульні. Пазней ён напіша:

*Вось я, аблачынка дзяцінства,*
*Над лугам, над полем лятун,*
*Наскрозь прамяніста расхлістан,*
*Да ўпаду гуляю ў лапту.*

Хоць, праўду кажучы, не такім ужо і сонечным



**Бацька Рыгор Дзянісавіч**



**Маці Марыя Паўлаўна**



*Памежнік на Каўказе*



*Студэнт педінстытута*

было дзяцінства Пятра Макарэвіча, асабліва ранняе. Яму ішоў яшчэ толькі чацвёрты гадок, як пачалася Вялікая Айчынная вайна, бацьку і дзвюх старэйшых сясцёр Пятра вывезлі ў Германію. Бацька з малодшай дачкой гнулі плечы на баўэра, а старэйшая дачка працавала на заводзе, на якім рабочыя знаходзіліся па сутнасці ў становішчы зняволеных. На долю адной маці выпаў клопат пра астатніх пецярых дзяцей: двух хлапчукоў і траіх дзяўчынак. У сям'і ж ўсяго было сем чалавек. Дзякаваць Богу, і бацька, і дзве старэйшыя сястры Пятра Макарэвіча здаровымі і цэлымі вярнуліся пасля вайны дамоў. І ў будучага паэта, як і ў яго маці, і ў астатніх дзяцей, прасвятлела ўваччу і ў сэрцы.

Хоць малых і пасля вайны магло напаткаць няшчасце. Мы па сваёй недасведчанасці і дзіцячай дапытлівасці любілі забаўляцца з параскіданымі патронамі, мінамі, кідалі іх у агонь, білі па іх каменнямі. І ці мала хто з нас быў пакалечаны? У вершы "І слова – слава беларуса", уступаючы ў дыялог з вясковай жанчынай, сын якой, жывучы і працуючы ў Анголе, доўгі час не наведваецца дамоў, Пётр Макарэвіч піша аб той пары:

*Я суцяшаю як магу*
*Усмешкай, жартам, успамінам,*
*Як мы дурэлі ў мурагу,*
*Як, падшыванцы, рвалі міны.*

Далей у Макарэвіча ўсё ішло так, як і ў большасці беларускіх хлопцаў: вучоба ў школе, служба ў арміі, вучоба ў педагагічным інстытуце імя Горкага (зараз універсітэт імя Максіма Танка), праца.

Я не буду пералічваць усіх месцаў яго працы і пасады, скажу толькі, што доўгія гады мы разам з ім працавалі ў рэдакцыі газеты "Уперад" (зараз "Лідская



*Жонка Яніна Люцыянаўна.*
*з-за якой аказаўся ў Лідзе*



***Старшы лейтэнант КДБ***

выбару. У творы ж яго ўвайшла яскравая вобразнасць, метафарычнасць, вершы яго дакладныя, гранёныя, жыццесцвярджальныя. Аўтар іх, як асоба, напорысты, мужны, прынцыповы і ў той жа час спакойны, памяркоўны, добры, разважлівы, у залежнасці ад таго, у якіх абставінах знаходзіцца, і з кім мае справу.

Аб яго творчасці можна было б гаварыць многа, прыводзіць вытрымкі з яго вершаў, але лепш за мяне, я думаю, сказалі больш выбітныя паэты. Вось, напрыклад, знакаміты паэт Анатоль Вярцінскі, у прадмове да кнігі П. Макарэвіча "Расінкі беларускіх слоў" (гэта яго другая кніга пасля зборніка "Злітак") адзначае:

*"Вершы Пятра Макарэвіча ў пераважнай большасці яўна аўтабіяграфічныя. Яшчэ яны, як прызнаецца сам аўтар, «майго характару адбітак» («Эскіз аўтапартрэта»). І чытаючы іх, міжволі задумваешся, як над асаблівасцямі нацыянальнага характару і светаўспрыняцця беларуса, так і над драматычнымі перыпетыямі яго лёсу, яго ўчарашняга і сённяшняга жыцця-быцця. З аднаго боку, ён — «сумленны сын зямлі», «сын ціхай рачулкі Можы», выходзіць на жыццёвы шлях з даверлівай, адкрытай душой, са спагадай і замілаваннем да ўсяго жывога (адзін з найлепшых вершаў так і называецца «Спагада жывому — жыве»), поўны аптымізму, безагляднага жыццялюбства («Здаецца, разліўся я сонцам, а сонца ўлілося ў мяне!»), шчырага імкнення «са свайго мазаля сціпла жыць». А з другога боку — лірычны герой вершаў (ён жа ў дадзеным выпадку і рэальная асоба, гэта значыць, сам аўтар) змушаны то ахоўваць са*

газета"). Пры зменена назве газеты мы былі з ім ужо самымі дасведчанымі журналістамі ў рэдакцыйным калектыве. Дапамагалі маладзейшым. Успамінаюцца сумесныя паездкі па раёне, выступленні на літаратурных вечарах, у школах. Аднак, найперш нас хвалявала паэзія, як такая. Мы абменьваліся зборнікамі вершаў, чыталі свае вершы адзін другому.

Паездка ў Менск, дзе у Доме літаратараў у авальнай зале прынялі нас (яго, мяне, Стадуба) у Саюз беларускіх пісьменнікаў.

І тут, здаецца, наспеў момент сказаць некалькі слоў аб творчасці Пятра Макарэвіча, пра яго самога як асобу. Будучы цесна звязаным з прыродай і людзьмі, сярод якіх ён жыве, ён і ў сваёй творчасці ідзе ад жыцця. Не спрабуйце знайсці ў яго творах шэрую надуманасць, падмену рэчаіснасці, ці нейкае слоўнае штукарства. Іх у яго вершах проста няма. Што яму ў свой час запала ў душу, што ўсхвалявала, чаму ён радуецца, што яго абурае, што падабаецца і што не падабаецца – усё гэта можна няўзброеным вокам знайсці ў паэзіі Пятра Макарэвіча. Што датычыць тэмаў – гэта справа яго густу і



***З дочкамі Юляй і Дзінай на плошчы Я. Коласа ў Менску***



***За шахматнай дошкай з Міжнародным майстрам спорту па шахматнай кампазіцыі В.Я. Гебельтам***



***Сустрэча па-зямляцку з Хрысцінай Лялько***

*зброяй у руках чужую мяжу, то служыць па-халуйску «партыйных нягоднікаў зграі», то згаджацца (паспрабуй не згадзіся!) ісці на курсы КДБ і потым мець справу з д'ябальскай кадэбісцкай кухняй, з «друзам стукацтва», «прымаць на явачнай данос» і г. д .*

*Жыў па-людску і рабіў нямала,*
*Разліваў, як сонца, весялосць.*
*А мая персона выклікала*
*Найчасцей — няўдзячнасць або злосць.*
*З верою ў дабро бязмежнай, шчырай,*
*Мне любы сустрэчны — друг і брат.*
*А мяне «блакітныя мундзіры»*
*Штурханулі у злачынны рад...*

*Тут патрабуецца адразу пэўнае ўдакладненне: штурхалі, штурханулі, але не на таго натрапілі. Пётр Макарэвіч і ў жыцці, у рэальных жыццёвых абставінах, а цяпер вось і ў паэзіі не толькі не згаджаецца быць у гэтым самым «злачынным радзе», але і самым рашучым чынам змагаецца з ім, выкрывае яго, што складае ці не асноўны ідэйны лейтматыў ягонага вершаванага слова.*

*Ў паэзіі сцвярджаю годнасць,*
*Каб праўдай дыхалі радкі.*
*Хай без мяне слуга ў пагонах*
*Тчэ павуцінныя сілкі.*

*Інакш кажучы, шмат якія аўтабіяграфічныя вершы П. Макарэвіча, у прыватнасці, скажам, «Анатомія паклёпу», з'яўляюцца яшчэ і каштоўным сведчаннем часу, актуальным і для нашага сёння.*

*Маральна-грамадзянскі аспект. Нельга не пагадзіцца з Галінай Каржанеўскай, якая, прадстаўляючы новыя вершы Пятра Макарэвіча ў газеце «Народная воля», зазначыла: «Мужнасць і душэўнае здароўе лідскага паэта можа быць прыкладам для ўсіх, хто хоча і ў нашых умовах захаваць чалавечую годнасць і веру ў лепшыя дні».*



***Морж у стыхіі льду і снегу***

*Другую, ці не большую па аб'ёму за першую, частку кнігі складаюць пераклады на родную мову з рускай паэзіі. Як класічнай, так і сучаснай. Ад Пушкіна да Пастарнака, ад Буніна і Фета да Фёдарава, Казанцава, Кузняцова і іншых. Такі дыяпазон. Не буду спыняцца на якасці перакладаў— гэта асобная тэма, тэма будучых рэцэнзій на зборнік. Зазначу толькі, што пераклады яскрава сведчаць пра несумненныя філалагічныя здольнасці іх аўтара, пра яго надзвычай жывую («спагада жывому — жыве») улюбёнасць у паэзію як такую."*

Больш за 10 гадоў таму не менш дасціпна напісаў аб паэзіі П. Макарэвіча і другі вядомы паэт Алесь Камароўскі:

*"Кніга Пятра Макарэвіча прываблівае трапным словам, цікавымі вобразамі, арыгінальнымі тэмамі і безумоўна, бездакорнай тэхнікай вершаскладання. Паэту характэрна грамадзянская смеласць і тонкі дасціпны гумар. Тонкім лірызмам прасякнуты яго вершы пра каханне.*

*Нічога дзіўнага не бачу ў тым, што аўтар уключыў у зборнік вершы на беларускай і рускай мовах. Яны ўзаемадапаўняюць кнігу, адкрываюць талент Пятра Макарэвіча глыбей і шырэй.*

*На высокім прафесійным узроўні, высокамастацка зроблены пераклады з рускай мовы.*

*Лічу, што зборнік Пятра Макарэвіча "Злітак" абавязкова павінен быць выдадзены і выдадзены не толькі ў раённай двукарні, але і ў дзяржаўным выдавецтве. Пра што сведчыць талент паэта."*

Абсалютна станоўчую рэцэнзію на зборнік П. Макарэвіча "Злітак" напісаў яшчэ адзін вядомы беларускі паэт Генадзь Дзмітрыеў. Вось тэкст з гэтай рэцэнзіі.

*"Пазнаёміўшыся з вершамі Пятра Макарэвіча, не валодаючы пры гэтым ісцінай у апошняй інстанцыі, хачу засведчыць, што мастацкі ўзровень яго беларускамоўных вершаў дазваляе весці гаворку аб іх выданні. Адчуваецца, што яго паэзія ідзе ад жыцця, адлюстроўвае разматітыя прыявы нашага нялёгкага часу. Аўтар па натуры – не староннi назіральнік, а актыўны ўдзельнік падзей. Тэхніка вершаскладання амаль бездакорная, мастацкія дэталі выпісаны з пачуццём добрым густу. Там дзе паэзія П. Макарэвіча грунтуецца на роднай глебе, напісана родным словам. Таму яна, несумненна вартая таго, каб шырока пазнаёміць з ёю чытача. Пра вершы на рускай мове нічога путнага сказаць не магу. Бо*

*не прыхільнік двумоўя ў паэзіі. Гэта ўжо справа густу і сумлення самога аўтара і яго выдаўца.”*

Амаль чвэрць стагоддзя таму літкансультант газеты “Чырвоная змена” (цяпер рэдактар часопіса “Маладосць”) Раіса Баравікова пісала П. Макарэвічу:

*“Адразу ж хочацца сказаць Вам, што верш “Прысяга ля помніка” я падрыхтавала да друку. Добрыя ў Вас пераклады, асабліва спадабаліся з вершаў С. Куняева, А. Прасолава, М. Цвятаевай. Але калі гаварыць пра друк, дык мы пераклады друкуем вельмі рэдка, толькі з нейкай нагоды.*

*Паспрабуйце паслаць іх у выдавецтва, у альманах “Братэрства”, кніжку вышлю трошкі пазней. Будзеце ў Мінску – калі ласка, званіце. Напішуцца новыя вершы, рада буду атрымаць іх ад Вас.*

*Жадаю Вам багатага плёну, новых творчых здабытккаў.*

*З павагай да Вас літкансультант*
*Р. Баравікова 20 красавіка 1985 г.”*

Такім чынам, выказванні знакамітых сталічных паэтаў і маё сціплае слова, я думаю, складуць у чытача пэўнае ўяўленне аб асобе і творчасці нашага земляка, лідчаніна, паэта-юбіляра Пятра Макарэвіча.

***Уладзімір Васько.***



***З сонечнай усмешкай па жыцці***

# *З новых вершаў Пятра Макарэвіча*

**Кінуў якар у Лідзе**

Кінуў якар у Лідзе таму паўстагоддзя:
Заманіла мяне чараўніцаю-полькай,
Той, якою душу нам Міцкевіч лагодзіць
У баладзе пра Будрыса сонечна звонкай.

Тут, у коле шырокім сяброў і сяброваk,
І мужнеў, і мацнеў грамадзянскі мой голас.
Шчыраваць навучыў я не толькі аловак –
Лазню, летнік узвёў; паслухмяны мне й колас.

Мусіў тут я служыць пяцігодку з наганам.
Змераў-зведаў куточкі ўсе і завулкі.
На казёншчыну я налятаў ураганам.
У званы біў, у дзверы высокія стукаў.

З асалодай сплаўлялі ў стан беспрацоўны,
Маё імя заносілі ў чорныя спісы,
І трубілі з ухмылкай, што я увесь чорны,
Да апошняй мяжы дакаціўся і спіўся...

Ліда! Лёсу майго залатая расінка!
Я гатовы стрываць бед, напасцей шчэ столькі,
Ў шматвяковы падмурак твой легчы пясчынкай,
Толькі б ты красавала, квітнела вясёлкай!

Дзвюх крывінак – дачушак сваіх табе даў я.
Званне “дзед” – лепшы ордэн! – нашу ад унукаў.
Мой праменіцца сад наліўнымі пладамі,
Дзе на клумбах вітаюць нас мальвы, бы рукі.

А сабе я жадаю, дзівак першародны,
Які крочыць адкрыта з уласным аршынам,
Каб мяне ты прызнала – хаця пасмяротна –
Сваім верным, адданым і любячым сынам.

**Край зорнай славы**

З крыніц Бабра і хваль Сялявы
Тут акрыляюцца радкі.
У пушчы партызанскай славы
Ля Можы туляцца Шынкі.

Адсюль наш крок у свет пачаўся.
Тут мы пазналі працадні
Ў нішчымна-беспрасветным часе
Пасля Айчыннае вайны.

Нас журавіны ратавалі
Й майстэрства бацькі-цесляра:
На папялішчы паўставалі
Дамы кармільца-тапара.

Разлік ішоў пудамі жыта,
Радзей – гатовае мукі...
Снуюць касмічныя арбіты
Сягоння нашы землякі.

Мы ставім на паток рэкорды
На алімпійскі свой прасцяг,
І на ўвесь свет лунае горда
Радзімы беларускі Сцяг.

Ёсць ганарыцца чым па праву
Нам за бацькоўскі свой куток!
На хвалі Крупскай зорнай славы
Праменіцца і мой радок.

**На скрыжалях і вуліцах Ліды**

Дарагая пралеска смалістых бароў!
Закахаўся ў цябе ў скверы юны Скарына.
І з плеяды сусветна вядомых майстроў
Лік Міцкевіча лашчыць цябе салаўіны.

Узвышае, натхняе, гартуе цябе
Легендарных сыноў і дачок імя вуліц:
Каліноўскі нязломна гучыць і цяпер.
Багдановіч нябесны штодня к сэрцу туліць.

А з герояў Вялікай Айчыннай вайны -
Наказных і Качан, і Гастэла з Сасноўскім.
Увекавечаны Лідай сардэчна яны
На гранітных скрыжалях і памятных дошках...

Моц і сіла ў плячах, і агонь у вачах -
Колькі й сёння ў цябе залатых самародкаў!
Назвай плошчаў, праспектаў яны загучаць,
Творцы новага часу з твайго асяродку.

**Наш горад Ліда**

Наш горад праменны, як сонца,
Жаноцкі і тварам сваім.
Да нас едуць госці бясконца
З далёкіх і блізкіх краін.

Вітае гасцей сам Скарына -
Наш волат святы з друкароў.
Аграпрамысловы наш рынак
З паўсвету прымае купцоў.

Спрадвеку нясём мы, лідчане,
Крыніцу жыцця - Серп і Сноп.
А сімвалам горада стане
Камбайн нашых Лідскіх сыноў!

**Любімая Ліда**

Любімая Ліда,
Цудоўная Ліда —
Пявучы прынёманскі наш гарадок.
Няхай над табою
Заўсёды з любоўю
Блакітнага неба цвіце васілёк!

Дачушка Радзімы!
Ласкавае імя
Матулінай песняй да сэрца ляціць.
Ты шчыра і проста
Хлеб-соль дорыш госцю —
Ў люстэрку ўсмешкі душа зіхаціць.

Бярозкі, ракіты
Ўглядаюцца ў пліты
У скверы, дзе б’ецца твой вечны агонь.
Ў вайну ты, славянка,
Была партызанкай —
Табе да зямлі наш удзячны паклон.

Ляжыць пад Курганам
Агонь ураганны.
Пакрыўдзіць ніколі цябе не дадзім.
Жыві у пашане
Шчаслівай, каханай,
Радзімка пяшчоты на твары зямным!

**Горад мой любімы**

Горад мой любімы!
Гронкамі — рабіны.
Быццам і не сеяў вораг чорны дым,
Карпусамі грае
Сонца небакрая —
Ўсё цвіце наўкола шчасцем залатым.

Замак пад блакітам
Маладзее з Лідай,
Светлае каханне дзе і я знайшоў.
Што за чараўніцы
Нашы маладзіцы!
Паланяюць сэрца песнямі, душой.

Горад мой раздольны!
Ты як Нёман вольны.
Ордэнамі зорак — неба над табой.
І адну з іх — ордэн
“Знак Пашаны” горда
Носіць Ліда — горад старажытны мой.

**Прынёманскі край**
***Песня***

Удалячынь плыве чароўны Нёман
Блакітнай стужкай за зялёны гай.
Пяюць бярозкі па-над кожным домам
І поўняць сэрца песняй цераз край.

Нясе жыццё садам і нівам Нёман
Багатае і вольнае, як сам.
І адбівае хвалямі паклоны
Сузор’ям абеліскаў партызан.

Як сэрца ўсенароднае бясконца,
Віруе Нёман молада, як май...
Нясі братам на хвалях дружбы сонца,
Квітней заўжды, прынёманскі наш край!

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ




У выдавецтве “Медисонт” ,
г. Менск, выйшла кніга Юрыя Туронка
“Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне
Беларусі”, 180 ст. Наклад 300 асобнікаў.




У выдавецтве “Беларусь”, г. Менск,
выйшла 3-е выданне кнігі
К.Я. Шышыгінай-Патоцкай
“Нясвіж і Радзівілы”, 240 ст.
Наклад 3000 асобнікаў.




У Менску, выйшла кніга Эдварда
Вайніловіча “Воспоминания”, 380 ст.
Наклад 250 асобнікаў.




У Смаленску выйшла кніга
Юрыя Туронка “Людзі СБМ. Беларусь
пад нямецкай акупацыяй”, 588 ст.
Наклад 500 асобнікаў.




У выдавецтвах “Сучасная школа”,
“Экаперспектыва”, г. Менск,
выйшаў 2-гі том “Гісторыі
Беларусі. Беларусь у перыяд
Вялікага Княства Літоўскага”.
686 ст. Наклад 4050 асобнікаў.




У выдавецтве “Посох”, г. Смаленск,
выйшла кніга “История имперских
отношений. Беларусы и русские”,
складальнік Анатоль Тарас,
608 ст.
Наклад 150 асобнікаў.



**Белагрудскі касцёл.** ***Здымак Ігара Пешахонава.***